УДК 821.161.3-31
ББК 84(Беи)-44
А82



**Аркуш, А.**

А82 Палімпсест: Раман / Алесь Аркуш. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 164 с. — (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).

ISBN 978-985-6906-80-3.

“Палімпсест” — першы буйны празаічны твор вядомага паэта, эсэіста, стваральніка Таварыства Вольных Літаратараў Алеся Аркуша. Рэальныя героі маладосці пісьменніка патрапілі ў “бурштын” творчага пераасэнсавання мінулага і набылі другое, гэтым разам літаратурнае жыццё.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(Беи)-44**

**ISBN 978-985-6906-80-3**

# Частка першая

## 1.

Пакой нагадваў рэдакцыйны. Мы, чалавек пяцьшэсьць, сядзелі ў крэслах уздоўж сьцяны. Маладзён, рыхтык камсамольскі актывіст 70-х, трымаў у руках газэту і распавядаў нешта пра зьмест нумару. Усю правую паласу газэты займаў каляровы здымак нейкага юнака. Калі "камсамолец" падыходзіў бліжэй, то рабіўся заўважным тэкст, які зь левай паласы пераходзіў на правую і йшоў падкладам па ўсяму здымку. Гэты тэкст дзіўным чынам зьнікаў, калі выступоўца адыходзіў ад мяне на тры-чатыры крокі: быў бачны толькі здымак. "Камсамолец", гаворачы пра двухпалосны артыкул, увесь час глядзеў мне ў вочы. Было адчуваньне, што ўсё гэта казалася выключна для мяне. І я мусіў неяк рэагаваць.

— Гэта кепскі матэрыял. Калі ў кожным жыцьці ёсьць месца подзьвігу, дык павінна быць месца і для слабасьці. Па адным учынку нельга выносіць прысуд чалавеку, — я вырашыў скарыстаць іхнюю фразэалёгію. Насамрэч, я быў упэўнены, што гэта фальшыўка, напісаная паводле добра знаёмага трафарэту.

"Камсамолец" акругліў вочы, здаецца, яму не было што сказаць мне ў адказ.

Раптам загучаў школьны званок, усе ў пакоі заварушыліся.

— Я зь ім сама пагавару, — сказала жанчына, што сядзела са мной поруч.

З выгляду яна нагадвала клясычную школьную настаўніцу: строгі гарнітур, доўгія валасы ўбраныя ў прычоску а-ля 70-ыя, адно што акуляры сучасныя, модныя сярод аптэкарак, настаўніц і банкаўскіх работніц: акуляры трымаліся на кончыку носа. Жанчына кінула на мяне некалькі паглядаў паверх шкельцаў.

Мы ішлі поруч па нейкіх калідорах. Вакол было шмат падлеткаў, выглядала, што гэта сапраўды была школа. "Настаўніца" казала штосьці банальнае і пастаснае. Я амаль яе ня слухаў. Мне было цікава: дзе мы? Я ўглядаўся ў твары падлеткаў і ня мог нічога ўцяміць.

Мы падышлі да выхаду, які зьдзівіў мяне больш, чым уся гэтая незразумелая ўстанова. Выхад быў закратаваны, ён ішоў некуды ўніз. Паміж мэталічнымі прутамі былі шчыліны, і для таго, каб пакінуць памяшканьне, трэба было прашчаміцца празь іх. "Настаўніца" звыклымі рухамі нахілілася і праціснулася праз краты. Я падаўся за ёю сьледам.

***

Усьлед за мной у прыбіральню зайшоў Туміла. Тут было моцна напалена і ядзерна сьмярдзела мачой і тытунёвым дымам. З Тумілам я вучыўся ў аднай клясе, але ніколі не таварышаваў. Ён рана "сасьпеў", жыў іншымі зацікаўленьнямі і вольны час бавіў з старэйшымі хлопцамі. Пры ўсіх яго хібах, Туміла я паважаў, бо аднакашнік ня быў падшыванцам: меў прыстойныя манеры, добра апранаўся і

ўвогуле адчувалася ў ім нейкая гжэчная спадчынная парода.

Танцы набліжаліся да канца, заставалася якіх паўгадзіны.

Туміла прымасьціўся да суседняга пісуара. Пусьціўшы гарачы пругкі струмень, ён, нават не павярнуўшы ў мой бок галавы, сказаў:

— Ну што, Саня, адпачнём сёньня.

— У якім сэнсе?

Мы мелі розныя кампаніі і па-рознаму адпачывалі, таму гэтая нечаканая прапанова ў мяне выклікала непаразуменьне.

— Тваё — хата і музыка, маё — разагрэў і дзевачкі. Мусім жа мы расслабіцца пасля войска.

Туміла ведаў, што апошнім часам я жыў адзін — бацькі зьехалі за мяжу. Раней я ніколі ня быў зь ім у адной кампаніі. Як там можа ўсё скончыцца? Я вагаўся.

— Згода. Чакаю вас ля свайго пад'езду.

— Не пашкадуеш. Абяцаю.

Я пачуў іх, калі кампанія набліжалася да мяне па супрацьлегламу баку вуліцы. Галасоў, як мне падалося, было задужа. Гэта магла быць чужая кампанія, моладзь якраз вярталася з танцаў, але аксамітны барытон Туміла я наўрад ці мог зблытаць. Туміла нешта апавядаў, а дзяўчыны задзірыста сьмяяліся ў зорнае ліпеньскае неба. Шматлюдная вечарынка ніяк не трапляла ў фармат дамоўленага мерапрыемства. Я пачаў злавацца на сябе. Нафіг было пагаджацца!

Яшчэ колькі хвілінаў, і ў начной шэрані я сапраўды пабачыў значна больш постацяў, чым разьлічваў сустрэць. Мяне непакоіла толькі адно — Туміла мог

прыхапіць з сабой некалькі безгаловых гопнікаў, зь якімі абавязкова былі б праблемы. Не хацелася мець эксцэсаў ані з суседзямі, ані з законам.

Калі кампанія наблізілася на адлегласьць выцягнутай рукі, у мяне адлягло ад сэрца. Іх было пяцёра. Тры дзяўчыны, мне мала знаёмыя, не з нашай школы, і яшчэ адзін хлопец — Арол, неразлучны сябрук Тумілы. Ён быў старэйшы за нас, здаецца, гады на два. Арол ня меў дурной славы, больш таго, я яго ведаў па мэляманскіх справах, мы зь ім час ад часу абменьваліся кружэлкамі.

Калі Туміла прадстаўляў мне сваіх сябровак... удар эмацыйнага шоку ледзь не кульнуў мяне ў куст бэзу. Нейкае цудадзейства! Фантастыка! Поўны Брэдбэры! Сярод маіх гасьцей была Яна... Дзяўчына гэта некалі працавала ў "Культтаварах" у аддзеле грамзапісу. З-за яе я і стаў мэляманам, бо амаль кожны дзень езьдзіў да тае крамы па кружэлкі.

***

Кружэлкамі была ўслана ўся падлога крамы. Чамусьці адразу ўявілася, што нейкая адмысловая камісія выявіла кантрафактную прадукцыю і вось падрыхтавала яе да зьнішчэньня. Але як пірацкія падробкі маглі трапіць у дзяржаўную краму?

— Што тут у вас адбываецца? — спытаў я ў маладой гандляркі, якая сама са зьдзіўленьнем назірала за нязвыклай дзеяй.

— Ларыса Мондрус зьехала ў Ізраіль, здрадзіла радзіме, сьпісаньне тавару, — гандлярка прамовіла гэта шэптам, амаль не паварушыўшы вуснамі.

І што з гэтага? Зьехала, дык зьехала. Навошта краіне прыносіць матэрыяльныя страты?

Я зусім кепска ўяўляў, хто такая Ларыса Мондрус, яшчэ меншае меў уяўленьне пра яе музычны даробак. Але чамусьці быў упэўнены, што ўсе сьпявачкі прыстойныя, паважаныя творчыя асобы, якіх ня тое што крыўдзіць, нават думаць пра іх нельга дрэннага.

— Свабоду Ларысе Мондрус! — невядома навошта выгукнуў я.

Усе, хто знаходзіўся ў краме, павярнуліся ў мой бок. На іх тварах быў спалох. У кабеты з прычоскай а-ля 70-ыя, што стаяла побач з грудам кружэлак, пасыпаліся з рук нейкія паперкі-дакумэнты. Яна кінулася іх хуценька зьбіраць, аднак задужа рэзка нахілілася, і яе валасы, што былі ўбраныя ў дзіўную канструкцыю, рассыпаліся па плячах і твары. Гэта яшчэ больш напалохала бедную жанчынку. Яна выпрасталася і пабегла ў дальні кут крамы, дзе знаходзіўся пакой адміністрацыі.

Запанавала мёртвая ціша. Чулася, як скразьнячок шамацеў ражком паперкі, прымацаванай на дошкі аб'яваў дзьвюма кнопкамі.

Не чакалі такога павароту падзеяў, падумаў я са зларадствам. Маўклівая сцэна, "Рэвізор", дзея нумар... Ратуй, Божа, ня меў жаданьня паблазнаваць. Усё атрымалася само сабой.

І тут кабета з трайным падбароддзем, што сядзела за касай, скочыла са свайго вальеру і кінулася да груды кружэлак. Надзвычай імклівая, як для сваёй камплекцыі, яна ўзьлезла на верхатуру груда і пачала таптацца па кружэлках, ператвараючы іх у вінілавыя аскепкі. Затым нахілілася, падняла адну

цэлую кружэлку, асьцярожна дастала яе з пакету-вокладкі, прыклала да твару і празь дзірачку ў кружэлцы паглядзела на мяне. Яе зірк доўжыўся некалькі сэкундаў. Касірка дзіка зарагатала і шпурнула кружэлку ў мой бок. Кружэлка імпэтна праляцела над маей галавой і разьбілася ўшчэнт аб дошку аб'яваў.

Я падняў аскепачак вінілу, паклаў у кішэню джынсоўкі і павярнуўся да ўсіх сьпінай. Калі з пачуцьцём выкананай місіі выходзіў з крамы, спадарожна мяне штурхануў перуновы грохат. Гэта дошка аб'яваў абрынулася долу.

***

Панурыўшы вочы, я прайшоў усьлед за гасьцямі ў сьвятліцу. Дужа не хацелася, каб Яна мяне пазнала.

Усе пачалі ўладкоўвацца. Дзьве сяброўчкі прымасьціліся каля Тумілы, які адразу абраў за месца дыслякацыі канапу. Яна ж апынулася ў фатэлі. Села адна, ні да каго ня ліпнучы.

Туміла выцягнуў з унутранай кішэні джынсоўкі пляшку гарэлкі.

О, бляха, так і думаў, прыцягне гарэлку. З розных кампаніяў мы, дарагі аднакашнік, гэта дакладна.

— Я гарэлку ня п'ю, ты ж ведаеш, Туміла.

Я пачынаў зноў злавацца. Настрой сапсаваўся канчаткова. Я ня бачыў з гэтай сытуацыі шчасьлівай фініта ля камэдыі.

— Прабач, шампану не прынесьлі, гастраном зачынілі, не пасьпелі!

Госьці дружна заліліся сьмехам з геніяльнага жарту. Дзяўчаты таксама. Іх задавальняла гарэлка. Ясна. Не засьмяялася толькі Яна. Маўчала.

У Яе былі дзіўныя вочы: сумныя, вялікія, глыбокія. І боскія, вытачаныя яе вялікасьцю Гармоніяй, рысы твару. Багіня!

У мяне ёсьць для Цябе падарунак. Я пагасіў сьвятло, запаліў таршэр-начнік. І паставіў на прайгравальнік мой любімы альбом Fleetwood Mac. Затым пайшоў у кухню і прынёс кілішкі.

Туміла спрытна адкаркаваў пляшку і разьліў алкаголь.

— За сяброў! І за нас!

Тост таксама быў геніяльны. Раздражненьне пачало мяне разьдзімаць як паветраны балёнік.

Больш за ўсё я баяўся, што Яна была для яго.

Кульнуўшы кілішак, я адчуў, што мой панікёрскі настрой пачаў згасаць. Нічога кепскага пакуль не адбылося. Затое ёсьць Яна. Вось, зусім побач. Сядзіць у тваім фатэлі. І ты можаш за ёй назіраць, не так адкрыта і нахабна, але і гэтага дастаткова. Ты можаш зь ёй нават пагаварыць. Спытаць нешта. Прыдумай пра што.

Туміла зноў пацягнуўся за пляшкай.

— Гаспадара больш прымушаць ня будзем.

І ён перавярнуў донцам уверх мой кілішак.

— А мы паўторым.

Сабе і Арлу ён наліў поўныя, а дзяўчатам па палавінцы. Пляшка ў іх была адна, трэба было эканоміць.

***

— Эканоміць ня значыць марнаваць рэсурсы.

Старшына-прапаршчык быў не ў гуморы — зьнікла чарговая партыя анучаў.

— А марнаваць рэсурсы — падрываць боегатоўнасьць краіны.

Зразумець што-кольвечы з гэтай рэпрызы было немагчыма.

— А што ў вас прапар такі мудзіла? — спытаў я шарагоўца, які стаяў побач са мной у другім шэрагу.

— Культурней, чувак, Максімыч тры фугасы заглыне і нічога, стаіць на нагах, моцны мужык.

Рота даўно ўжо мусіла сьніць эратычныя сны, а гэты анучнік усё дамагаўся свайго майна. Твар старшыны быў зморшчаны і высушаны бязьлітасным беларускім сонцам. Да таго ж ён крыху накульгваў на левую нагу. Усё гэта ўдавала ў ім такога галівудзкага капітана-пірата, які рабіў разнос камандзе за зьніклую бочку рому.

— Я табе колькі даваў анучаў перад тым, як рота накіравалася ў лазьню... а, радавы Ахунен?

— Нікак не, не Ахунен, а Аханэн.

Бледна-празрысты, як крыветка, эстонец быў упэўнены, што калі прапар нявечыў яго прозвішча, то гэтым самым зьдзекваўся з усіх эстонцаў.

— Якая хер розьніца! Ахунен, Аханэн. Ты рускі язык разумееш: колькі я даваў табе новых анучаў?

— Дваццаць восем, таварыш старшына!

— І дзе яны?

— У піз... — ледзь чутна прашаптаў мой сусед, які толькі што тлумачыў мне моц Максімыча. Ён прыхінуўся да мяне бліжэй і праясьніў сытуацыю:

— Зуб іх сёньня загнаў… вунь сядзіць, каву п'е.

У сваім зацішным кутку старaслужачы Зуб наліваў з тэрмасіка ў шклянку каву. Побач на тумбачцы ляжаў успораты пачак печыва "Шахматнае".

— Правільна, правільна, Максімыч, зусім разбэсьціўся асабісты састаў!

Зуб паднёс да вуснаў шклянку з брунатнай вадкасьцю, сербануў кавы. Ягонае прысёрбваньне даляцела нават да супрацьлеглага запаснага выхаду.

Максімыч дастаў рукі з-за сьпіны і выструніўся. Затым неяк дзіўна таргануў плечуком, як быццам бы на дзьве прапарскія зорачкі ўсеўся пірацкі папугай і парушыў балянс, і раптам захістаўся і грымнуў сярод казармы, як падбіты зь нямецкага шмайсэра.

— О, блін, перабраў сёньня Максімыч. Чатыры фугасы, яўна чатыры, — пракамэнтаваў падзею мой сусед.

Рота з палёгкай уздыхнула і пачала рыхтавацца да адбою.

Скрозь сон я чуў, як хроп на падлозе п'яны старшына. У сьне нават падумалася: варта было б яго ўсё ж усьцягнуць на ложак.

***

Ложак быў бацькоўскі.

Да сёньня я не магу патлумачыць, як гэта здарылася. Маю дзьве вэрсіі.

Па адной, Туміла з Арлом пайшлі па шляху найменшага супраціву. Гэтыя дзьве расфарбаваныя матрошкі былі максымальна даступныя, весялушкі без прэтэнзіяў, што абяцала задавальненьне без

дадатковых энергетычных затратаў. Яна ж сваёй сур'ёзнасьцю як бы патрабавала асаблівага далікатнага абыходжаньня. Гэта і паўплывала на выбар маіх кампаньёнаў.

Па другой вэрсіі, Туміла мог выявіць вялікадушнасьць і, заўважыўшы мае пажадныя позіркі ў Яе бок, падараваў мне дзяўчыну. Што малаверагодна. Але і гэтую вэрсію нявaрта скідваць з шаляў.

Гарэлка хутка скончылася. Fleetwood Mac адспяваў свой найлепшы альбом Rumours. На прайгравальнік лягла кружэлка Kiss. Наколькі памятаю, гэта быў альбом Dressed to Kill.

Знаходзіцца ўсім у адным пакоі стала нязручна, балазе кватэра была трохпакаёвая.

Пабачыўшы нецнатлівыя заляцаньні Тумілы да адной з сваіх сяброўак, Наташа ўстала і падалася ў спальню.

Так, Яе звалі Наташа.

Мне нічога не заставалася, як пайсьці сьледам за ёю.

Дзякуй Богу, Яна мяне не пазнала. З таго часу, калі я школьнікам хадзіў да яе ў гандлёвы аддзел грамзапісу, прайшло некалькі гадоў, сярод іх і армейскіх. Я з падлетка ператварыўся ў дзецюка. Істотна зьмяніўся. Ды і наўрад ці Яна памятала ўсіх кліентаў, што куплялі ў Яе кружэлкі. Якраз у тыя гады быў філяфанічны бум. Чэргі, тавар з-пад крыса... рыкі і поверы і ўсякія там чылентаны.

Яна ж не зьмянілася. Была такая ж чароўная і таямнічая! Колькі разоў Яна мне сьнілася ў эратычных снах! Колькі разоў у думках я бараніў Яе ад мясцовых хуліганаў! Колькі разоў абдымаў, катаў на лодцы, цалаваў пад дажджом...

Гэта ўсё яшчэ не загаілася і так лёгка ўзгарэлася з новай сілай!

Такое клясычнае каханьне маленькага, сьціплага хлопчыка да першай прыгажуні горада.

Божухна, успомні, колькі разоў я ўмольваў цябе, каб выпаў для мяне хаця б адзін шанец! Толькі адзін!

ТЫ ПАЧУЎ МЯНЕ!

Усё гэта пралятала ў маёй галаве ў шалёным тэмпе. Як у сьне, калі маеш вялікую тэмпературу.

Можа і гэта чарговы сон. Толькі сон. Бо такога ў рэальнасьці не бывае. Так ня можа быць.

Наташа падышла да ложка і асьцярожна села на самы край. І так дзіўна склала рукі. Мне адразу падумалася, так робяць гейшы. У кіно.

Я сеў побач.

Дзяўчына хвалявалася. Я гэта адчуваў. Адчуваў парывістае дыханьне, бег крыві па яе капілярах, бег нейтронаў, нейронаў, пратонаў і ўсяго, што можа бегчы.

Яна была цалкам у маёй уладзе. Яна ведала, дзеля чаго прыйшла. Значыць, ёй гэта трэба.

Я пасунуўся бліжэй і абняў яе. Яна сустрэла маю руку як нешта чакаемае.

Скрозь музыку з суседняга пакоя ўжо даносіліся першыя ўсхліпы.

Яна мягка, асьцярожна лягла на ложак. Некалькі сэкундаў, працягваючы сядзець, я глядзеў на яе. Зіпер яе джынсаў быў ля самай маёй рукі.

***

Туміла выходзіў з кватэры апошні.

— Ну як была?

— Клясна!

— Ну вось бачыш, я абяцаў і слова стрымаў! Кожнай жанчыне хочацца каханьня і пяшчоты. Хаця б на некалькі хвілін. І мы гэта шчодра раздаём жадаючым.

Ён аксамітна засьмяяўся. Няўрымсьлівая грыўка валос упарта лезла яму ў вочы. Аднакашнік пляснуў рукой па майму плечуку і разьвітаўся:

— Ну, бывай... Дабранач!

— Дабранач!

Я прычыніў дзьверы і бразнуў дзьвюма замкамі.

## Старонкі дзёньніка

***

Мушу зьехаць з роднага горада.

Калі хачу чагосьці істотнага дасягнуць, мушу зьехаць.

Няма шанцаў! НЯМА!

***

Павольна сунецца цягнік, —
аднастайна бразгае адчыненымі дзьвярыма.
Пасажыры час ад часу
саскокваюць на зямлю
і йдуць побач са сваімі вагонамі —
разьмінаюць ногі.

Павольна сунецца цягнік —
і нікога гэта не зьдзіўляе,
не абурае, не бянтэжыць —
бо цягнік сунецца па коле.

***

Слухаў паўдня Led Zeppelin. Спрабаваў уцяміць, з чаго нараджаецца іх музыка. Не магу ўявіць штосьці падобнае на беларускай глебе. Спачатку падумалася пра другаснасьць нашай музычнай традыцыі. Але якой шкалой можна вызначаць перавагі традыцыяў? Калі пачынаеш сумнявацца ў сваёй — гэта небясьпечны сымптом.

***

Ніводзін з маіх сяброў ня ведае, што я пішу вершы. Пішу таемна, нібыта займаюся нечым ня вартым мужчыны. Упэўнены, ніхто з сяброў мяне не зразумее. Хіба Дзімыч. Але і яго разумную галавешку не хачу напружваць нечаканай навіною.

***

Ня ведаю нікога, хто б застаўся ў нашым горадзе і неяк сур'ёзна рэалізаваўся. Чаму так адбываецца? Усё проста. Каб Шагал стаў Шагалам, ён мусіў зьехаць у Парыж. Інакш застаўся б нікім, у найлепшым выпадку якімсьці другасным багамазам з глыбінкі. Каб рэалізавацца, трэба адпаведныя ўмовы. Каб стаць касманаўтам, трэба быць там, дзе ёсьць касмадром і запускаюць чалавека ў космас.

Каб стаць опэрным сьпеваком, мала мець голас, трэба яшчэ, каб у тваім горадзе быў опэрны тэатар. У маім горадзе ёсць завод, электрастанцыя і чыгунка. Ды яшчэ гарадзкая газэтка і народны тэатар. У космас не паляціш, гэта дакладна.

***

Аднагрупнікі з-за майго захапленьня рок-музыкай, пачалі называць мяне Джагерам. Я не пярэчу. Мне нават падабаецца. Хаця сярод маіх бліжэйшых сяброў гэтая мянушка ня вельмі прыжылася. Праўда, апошнім часам і яны пачалі ўсё часьцей ёй карыстацца.

***

Усё больш пераконваюся, што навакольны сьвет дзеліцца не на чорны і белы, а на той, які мне цікавы і які не цікавы. У першым выпадку я чытаю, гляджу, слухаю, успрымаю. І гэта існуе для мяне. Калі нецікава, я адкладаю ўбок. І гэтага для мяне не існуе.

***

Набраўся сьмеласьці і зьезьдзіў у Менск у рэдакцыю часопіса "Ветразь". Завёз свае вершы.

І адкуль гэтае жаданьне адшукаць аднадумнікаў?

Урэшце ня ведаю, лічыць візыт пасьпяховым ці правальным. Жанчына, літаратурны сакратар часопіса, тэатральна палячы цыгарэту, уважліва прачытала мае вершы. Дакладней, паліла тэатральнымі

рухамі. Хаця, па-мойму, усе жанчыны паляць тэатральна. Зусім інакш, чымсьці мужчыны.

Дык вось, гэтая кабета з цыгарэтай пахваліла некалькі асобных маіх радкоў і… не адабрала да друку ніводнага вершыка. Ні-вод-на-га! Сказала, што здольнасьці відавочныя, але мушу працаваць. Напісаць новыя вершы і зноў зьявіцца на яе пранікнёныя вочы.

Нават ня ведаю, ці паеду да яе яшчэ раз.

***

Нашыя мары дарэшты міталягічныя. Тое, што мы ўяўляем у мройных трызьненьнях, у сапраўднасьці абсалютна не адпавядае рэальнаму ўвасабленьню мары.

***

Цэлы дзень адчуваў нейкую шалёную нэрвознасьць. Нават валяр'яны выпіў. Не дапамагло. Паспрабаваў заснуць. Якое там! Прыняў душ. Марна! Сеў на ровар. Кілямэтраў дваццаць накруціў пэдалямі. Прыехаў змучаны, але нэрвознасьці паменела. Сьнілася чорт ведама што. Але ж спаў і прачнуўся жывы.

***

склаў рэчы ў пляцак
самае неабходнае

толькі матчына блаславеньне
і бацькоўскі поціск рукі

калі дарога паклікала...

***

Думаў над адной філязофскай праблемай: ці людзі ствараюць культурны клімат горада, у сілу свайго ўзроўня і патэнцыялу, ці гэта горад стварае людзей, адпаведна свайму культурнаму полю. Ні да якой высновы не прыйшоў. Калі ў горадзе нікому не патрэбны опэрны тэатар, дык ён ніколі і ня зьявіцца. А калі горад мае опэрны тэатар, які быў закладзены стагодзьдзе таму, дык яго неабходнасьці ніхто ня возьмецца аспрэчваць. Відавочна, калі спазьніўся, дык не нагоніш. На ўсё сур'ёзнае і вартае трэба стагодзьдзі. Трэба не наганяць страчанае, а запачаткоўваць тое, што рэальна запачаткаваць тут і сёньня. Каб праз стагодзьдзе гэтае — дасягнутае, існуючае — ніхто б ня ўзяўся аспрэчваць. Каб не наракаць на страчаныя магчымасьці мінулага стагодзьдзя.

***

І што ты можаш пакінуць свайму гораду? Толькі верш. Толькі міт. Але і гэта ўжо нямала.

***

Цэлы вечар чытаў слоўнікі.

***

можна пісаць вершы —
як зьбіраць хлуд для вогнішча
можна пісаць вершы —
як садзіць дрэвы

***

Цэлы дзень быў сам-насам. Мяне задавальняе такая "кампанія". Слухаў музыку, чытаў Германа Гесэ. Гледзячы на партрэт пісьменьніка, на якім ён у паважным узросьце, падумалася: гэта мой сёньняшні партрэт. Мумія плоці і блізарукія вочы, скіраваныя ўнутр сябе. І я не хачу памяншаць свой узрост.

***

Зьезьдзіў у Менск і купіў друкарку. Самую простую — "Масква". Цэлы вечар пляскаў па клявішах і соўгаў карэтку. Сапсаваў вялікую колькасьць паперы. Адчуваю сябе як Францішак Скарына.

***

Хадзілі з Рудым на танцы. Вова Гарніцкі пазнаёміў зь дзяўчынай. Выклікала ў мяне цікавасьць. Нават цяжка патлумачыць, чаму. Яна неяк надзвычай важна трымаецца, нібыта баіцца зрабіць нейкі непрыстойны ўчынак ці рух і ўвесь час сябе кантралюе. Такое ўражаньне, што мае вялікае жаданьне да чагосьці забароненага і баіцца выдаць сябе. Пры гэтым не дурніца, складна фармулюе свае

думкі, мае ўласныя перакананьні і ўпэўнена іх даводзіць. Пасьля танцаў я правёў яе дадому. Крыху пагутарылі. Пра што? Пра наш горад, пра пэрспэктывы, пра мары. Яна зьбіраецца паступаць на журфак БДУ.

***

Слухаў Queen і Nazareth.

***

Часам людзі зьдзіўляюць сваёй эрудыцыяй. Сыпляць фактамі, падрабязнасьцямі, лічбамі і высновамі. Але як толькі пачынаеш у іх пытацца пра нейкія іншыя акалічнасьці, іншыя факты і лічбы, дык высьвятляецца, што эрудыт ведае ня так багата, як удае. Ясна, усё ведаць немагчыма. Але калі нехта шмат выдае інфармацыі, можа так здарыцца, што гэта ўсё, што ён ведае.

***

Мару напісаць раман, у якім будуць галоўнымі героямі думкі. Толькі думкамі спрачацца, пераконваць, змагацца за месца пад сонцам. Любіць, захапляцца, сягаць у глыбіні таямніцаў і бавіцца плыткасьцю глупотаў.

***

З Рудым сядзелі на беразе Брызгалаўкі і назіралі за мясцовай публікай, якая бавілася на пляжы.

Выпілі па пляшцы піва. Скупнуліся. Руды паабяцаў на наступным тыдні прывезьці новых кружэлак: мае нейкага знаёмага, што езьдзіць у Рыгу. Руды мой тэхнікумаўскі прыяцель. Нас няшмат лучыць, акрамя таго, што бавім разам час. Але ён мне ўжо як родны чалавек. Колькі разам мелі прыгодаў! Руды марыць пра шыкоўнае, заможнае жыцьцё! Шампан, мэрсэдэс, катэдж, адпачынак у Ялце. Я не сумняюся, што ў яго ўсё атрымаецца. Ён дысцыплінаваны, упарты і разумны. Ён ужо ўмее зарабляць. Але пры гэтым ня скнара. І за гэта я яго люблю, што ня скнара, і ня ўсё пераводзіць на грошы.

***

Адчайна спрабую ўцяміць
сэнс слова "назаўжды".
З поўначы сунецца хмара, —
нябесны кравец абмервае
яе палатняным мэтрам.
Дрэвы прыціскаюцца
адно да другога —
загадана вызваліць
месца пад новы цаглянік.
У парку заасфальтавалі сьцяжынкі —
ня трэба хваляваца за жаночыя абцасікі.
У паляўнічай краме разабралі
качыныя вабікі — сэзон.
Двое мужчын абмяркоўваюць, як
сьпілаваць стогадовую ліпу, каб
наўкола нічога не пашкодзіць.
Увосень зацьвіла яблыня, —
і скончыўся мой адпачынак.

***

Казаў сабе, што больш не паеду ў "Ветразь", але слова не стрымаў. Літкансультантка зноў, як вялікі знаўца паэзіі, тэатральна чытала мае крывёю напісаныя радочкі. Зноў хваліла нешта, нешта ганіла. Добра хаця б тое, што не адмаўляе нерыфмаваны верш. Кажа, што вэрлібр таксама мае сваю мэлядычнасьць, рытміку і драматургію. Слушна кажа. Акрамя аднаго. Яна хоча бачыць у маіх вершах нешта падобнае на існуючыя ўзоры. І параўноўвае мае вершы з гэтымі ўзорамі. Я ж, наадварот, усімі сіламі імкнуся не патрапіць у трафарэт існуючых практык. У нас так нічога не атрымаецца. Але, прынамсі, было з кім пагутарыць пра вэрлібр!

***

Званіў Руды і гадзіну апавядаў пра сваю новую знаёмую. Завуць яе Сьвета. Баюся, што цяпер забудзецца на абяцаныя кружэлкі.

***

Трэці месяц жыву адзін без бацькоў, якія зьехалі працаваць па кантракце ў Баўгарыю. Пакінулі, бо ўзяць з сабой паўнагадовага сынка нельга. Да таго ж мушу скончыць свой тэхнікум. А там далей — войска. Такая вось пэрспэктыва на маю найбліжэйшую будучыню. Некалі школьнікам марыў пра такую вольніцу, а зараз ніякай эйфарыі. Чалавек павінен нарадзіцца вольным у вольнай краіне, бо воля — гэта не адзін у кватэры.

***

Зноў учора хадзіў з Рудым у карчму. Ня ведаю, чаго корэша цягне ў гэтае ўбогае месца. Відавочна, у яго разуменьні хадзіць у карчму, піць там шампан і танчыць з тамтэйшымі дзявулямі пад савецкі музон — гэта вышэйшы пілятаж. І толькі такія крутыя перцы, як мы, могуць сабе такое дазволіць. Поўная херня! Дзявулі там ясна якія. Музон — поўны адстой. Хоць хлопцы граюць жыўцом, але для адпаведнай публікі — адпаведны рэпэртуар. Шампан звычайны — іншага ў нашай краіне для простых грамадзянаў няма. Яго можна выпіць у іншай, больш камфортнай абстаноўцы, з больш прыстойнымі прадстаўнікамі супрацьлеглага полу. Карацей, ня ведаю, чаго я цягаюся за Рудым у гэты адстойнік "крутых перцаў", які называецца "Вясна". А зь іншага боку, больш і няма куды пайсьці. Хіба што на танцы ў ДК. Але і там мы бываем рэгулярна. Трэці тыдзень, кожную суботу, знаёмлюся на танцах з новай дзяўчынай, праводжу яе дадому, і на гэтым усё сканчваецца. Мне хапае адной гадзіны шчырых споведзяў у пад'ездах. Блін! Прыстанак шэрых пігмейчыкаў. Канцавая станцыя. Ультэ матуле.

***

Учора бачыў на танцах Яе. Яшчэ школьнікам закахаўся. Яна працавала ў "Культтаварах" у аддзеле грампласьцінак. Нейкі час я ледзь ні штодня езьдзіў да яе па кружэлкі. Па паўгадзіны чытаў невялікія сьпісы таго, што ёсьць у продажы. Самае цікавае выкрэсьлівалася з тых сьпісаў імгненна. Па-мойму, яшчэ да прывоза тавару ў краму. А пасьля перапра-

давалася ў некалькі разоў даражэй. Але мяне гэта асабліва не турбавала. Галоўнае было пабачыць яе. Паназіраць, як яна абслугойвае кліентаў, пачуць яе голас. Была ў ёй некая таямніца. Ня ведаю, як гэта і патлумачыць. У зграбных рухах, у магічнай глыбіні яе вачэй, у нейкай прыроднай нетаропкасьці, немітусьлівасьці. У нейкай завершанасьці і неўсьвядомленай, надзеленай ад прыроды, годнасьці. Бо наўрад ці яна ўяўляла сабой нейкую каралеўну прыгажосьці ці зорку Галівуду. Яна папросту такой нарадзілася.

І ўсе гэтыя даўнія пачуцьці ўсплылі як субмарына, што знаходзілася некалькі гадоў у глыбакаводным аўтаномным плаваньні. Дзяўчына, я ведаю, жыве ў іншым, амаль на супрацьлеглым канцы горада, мікраараёне, і раней у нашым раёне, з досыць кепскай рэпутацыяй, я яе ня бачыў.

Я так і не насьмеліўся запрасіць дзяўчыну на танец.

# 2.

Нас везьлі на вёску ў старым “пазіку”. Такім старым, што нават калі ён спыняўся, у ім усё адно працягвала калаціцца кожная жалязяка. Мае асноўныя прыяцелі Руды і Толік неяк адкруціліся ад гэтай сельскагаспадарчай павіннасьці. Я сядзеў побач з Чукам: ён сам падсеў да мяне і пачаў надакучваць living рознымі аповедамі і роспытамі. Чук быў не мясцовы, з Баранавічаў, таму імкнуўся як найхутчэй асябрыцца. Мяне ж гэтая праблема абсалютна не цікавіла і я ня сьпяшаўся адкрывацца кожнаму прыліпалу. Варта аднак прызнаць, што Чук быў ці не з найлепшых маіх аднагрупнікаў — займаўся спортам і, у адрозьненьне ад мяне, меў фотагенічны торс. Гэтым яго добрыя якасьці не абмяжоўваліся. Чук, да таго ж, любіў чытаць, быў фанатам фантастыкі. Я часта бачыў у ягоных руках кнігі Стругацкіх і Булычова. Карацей, ён быў някепскім хлопцам. Зь ім можна было пагутарыць і ўвогуле мець нешта агульнае.

Але ў той момант мне не хацелася ніякіх гутарак. Я згадваў учорашнюю выпадковую сустрэчу зь Ёю. Зноў пачалі ажываць відзежы, якія амаль два гады знаходзіліся ў анабіёзе. Такія клясычныя для хлопчыка-аўтсайдэра мроі, у якіх прысутнічаюць цуды і дзіўныя прыгоды. Мяне гэта злавала, бо ніякі я

ня хлопчык-аўтсайдэр і сам магу сабе арганізаваць цуды. Аднак відзежы былі такімі ліпучымі, што я не даваў рады выкінуць іх з галавы.

“Так і ня здолеў запрасіць яе на танец! — казаў сам сабе з дакорам. “Не, ну, цікава, і дзеля чаго я мусіў яе запрашаць? Каб апавесьці пра свае дзіцячыя трызьненьні?”

Гарачую дыскусію наўрад ці выпадала абмінуць. Я павінен быў сфармуляваць для сябе нейкія тлумачэньні.

— Усё вельмі проста: калі яна табе падабаецца, дык мусіў запрасіць і пазнаёміцца.

— Слова падабаецца тут наўрад ці падыходзіць. Я пакуль ня ведаю, што гэта такое. Я быў ачараваным ёю школьнікам. Зараз я іншы, я вырас. Яна, відавочна, старэйшая за мяне на некалькі гадоў. І калі ня мае мужа, дык кавалера мае абавязкова. Таму навошта гэтыя заляцаньні?

— Ты шукаеш апраўданьне сваёй слабасьці і нерашучасьці?

— Ты хочаш сказаць: галоўнае — перамога, любымі сродкамі? Нават калі мэта — проста цялесны юр. Так, згодны, была мара, былі дзіцячыя трызьненьні. Але ўсё прамінула. Зараз ёсьць рэальная сытуацыя. Дзяўчына і папраўдзе чароўная, але гэта каралеўна не з маёй казкі.

Пазік так скаланула на выбоіне, што я падскочыў на добрых паўмэтры над сядзеньнем. Гэты палёт вярнуў мяне да рэальнасьці... Маю тэхнікумаўскую групу везьлі ў калгас на бульбу. Такім чынам, я на месяц выбіваўся са сваёй звыклай жыцьцёвай каляіны. У пляцаку ляжаў прыймач ВЭФ, і толькі на яго адзінага было спадзяваньне.

— Ведаеш, Кір ужо на сёньняшні вечар плянуе мерапрыемства, — сказаў мне паўшэптам Чук.

Я павярнуў галаву назад, дзе Кір, аматар чукотак і камчатак, сядзеў на апошнім сядзеньні ў атачэньні сваёй гамарыльлі. Гамарыльля штосьці горача абмяркоўвала. Няцяжка было здагадацца, што абгаворваліся акалічнасьці выпіўкі за прыезд. Удзельнічаць у п'янцы не было ніякага жаданьня. Але й адмовіцца ад калектыўнага мерапрыемства — не дыпляматычна. Трэба было папрысутнічаць хаця б на разагрэве.

Вёска называлася Драчкава.

З намі на бульбу, у якасьці старэйшага, ехаў куратар групы Пятровіч. Такі ціхамірны, невысокага росту дзядзечка. "Ох, будзеш мець з намі вясёлыя дзянёчкі!" — падумаў я яшчэ перад ад'ездам. Пятровіча мая думка абсалютна не ўстрывожыла. Куратара можна было параўнаць з практыкуючым будыстам, які дасканала навучыўся вытрымцы і душэўнаму спакою. Расьсяліўшы нас па хатах, Пятровіч патлумачыў, дзе сабрацца заўтрашнім ранкам і некуды бясьследна зьнік.

Мы з Чукам атабарыліся ў адзінокай бабулькі: нас да яе прывёў калгасны брыгадзір. Бабулька паказала выдзелены для студэнцікаў "мэбляваны" пакой, дзе стаялі мэталічныя ложкі, і зноў занялася сваёй гаспадаркай. Праўда, неўзабаве вярнулася да нас са збанам малака. Абсалютна дарэчы, бо дзень па прыезьдзе, як папярэджваў Пятровіч, мы мусілі пратрымацца на прывезеных з сабой харчах. Батон да малака знайшоўся ў маім пляцаку. Бабулька зноў зьнікла, і мы яе потым бачылі досыць рэдка. Яна ўвесь час была занятая сваёй гаспадаркай і вярталася ў хату позьнім вечарам.

Чук дастаў з плецака часопіс "Химия и жизнь", сеў на свой ложак і пачаў чытаць.

— І доўга будзеш цікавіцца хіміяй? — спытаў я яго.

— А што, ёсць нейкія прапановы?

— Ну, давай пройдземся ў разьведку, паглядзім на вёску.

— Давай.

Чук адклаў часопіс і, адсопваючыся, пачаў зашнуроўваць свае вайсковыя чаравікі. Я ведаў, чаго ён так нэрвуецца. Чук таксама не хацеў удзельнічаць у мерапрыемстве Кіра. У адрозьненьне ад мяне, ён увогуле не ўжываў моцных напояў. Тлумачыў сваё абмежаваньне тым, што мае суворага трэнера. Займаўся ён ці то штангай, ці то вольнай барацьбой, ці то адным і другім адначасова. Аднак я падазраваў, што ёсьць нейкая іншая, больш істотная, прычына ягонай абстынэнцыі. Чук, сарамлівым тонам, увесь час апраўдваўся, тлумачыў прычыны сваёй цьвярозасьці заняткамі спорту, але я таму не даваў веры. Бо ведаў: ніхто так сыстэматычна і ёмка ня п'е, як спартоўцы. Цьвярозасьць, увогуле, мае розныя карані. Гэта і сямейная традыцыя, і вера, і ўласныя перакананьні. З Чукам было нешта з гэтага шэрагу. І я за гэта яго паважаў. Заўсёды імкнуўся прыкрыць хлопца, абараніць ад кпінаў, за што Чук быў вельмі ўдзячны.

Вёска складалася як бы з дзьвюх частак, дакладней, з дзьвюх вуліц, якія сустракаліся паміж сабой пад тупым вуглом. У цэнтры знаходзіліся крамка, калгасная канторка і яшчэ штосьці з грамадзкіх будынкаў. Мы раскватэрываліся на самай ускраіне: праз тры хаты пачыналася калгаснае поле. На

супрацьлеглым баку Драчкава працякала невялічкая рачулка, берагі якой атачалі хмызьнякі. Абалона рачулкі была, бадай што, адзінай тутэйшай мясьцінай, дзе не вырошчвалі бульбу. Усё навокал было абсаджана караняплодамі, і мы мусілі сабраць іх з гэтых бязьмежных прасьцягаў.

— Бульбляндыя! — сказаў я, агледзеўшы тутэйшы краявід.

— Ага! — пагадзіўся Чук. — Відаць, тут і зазімуем.

— Сплюнь.

Чук паслухмяна сплюнуў. У ягоныя пляны таксама не ўваходзіла затрымлівацца тут надоўга. Чакала трэніровачная заля.

Абмінуўшы крамку і канторку, мы выйшлі на другую вуліцу. Яна асабліва нічым не адрозьнівалася ад нашай, хіба што была даўжэйшай і на ёй расьлі некалькі старых ліпаў. Ля адной зь іх сустрэлі аднагрупніка Клёпу. Ад яго пачулі апошнія навіны. Аказваецца, Кір ужо знайшоў зацішны куточак ля ракі, дзе разьвёў вогнішча і пачаў рыхтавацца да імпрэзы. Клёпу Кір паслаў накапаць на калгасных палетках бульбы, каб затым яе запекчы ў прысаку. Ідэя зь печанай бульбай мне спадабалася, зьявілася хоць нейкая матывацыя паўдзельнічаць у мерапрыемстве. Клёпа прыхапіў у хаце, дзе спыніўся, вядро, зь якім бадзёра накіраваўся на бліжэйшы бульбяны палетак.

У нашай групе былі толькі чатыры дзяўчыны, якія трымаліся паасобку. Выглядалі яны шэравата, таму ніхто іхнага спакою не парушаў. Дзяўчат на імпрэзу не запрашалі. Ды яны б і не пайшлі.

Чук, пачуўшы пра апэратыўнасць Кіра, спахмурнеў.

— Не бядуй. Абяцаю, доўга не затрымаемся, — сказаў я сябру. — Але мусім вярнуцца ў наш "гатэль", трэба ўзяць харчы і пляшку.

Я прыхапіў з сабой бутэльку "Такайскага", каб пазбегчы ўжываньня гарэлкі, прынамсі, у дзень прыезду.

Зручнае месца Кіру не давялося доўга шукаць. Яно было знойдзена раней такімі ж аматарамі кульнуць чарку на прыродзе. Тут нават былі прадугледжаны некаторыя цывілізацыйныя зручнасьці — некалькі бярвёнаў прыстасавалі для сядзеньня, а паміж іх, зь нейкіх скрыняў змайстравалі нешта падобнае да стала. Скрыні ўжо былі засланыя газэтамі, на якіх поўным ходам ішоў працэс падрыхтоўкі закусону.

— О, Джагер і Чук прыйшлі, — сустрэў нас воклічам Кір. — Можна пачынаць мерапрыемства.

Публіка з радасьцю зашумела. Тут ужо сабраліся практычна ўсе хлопцы нашай групы. Пачалі гуртавацца ля стала. Сэрвіроўшчыкі актыўней запрацавалі нажамі, наразаючы кілбасы, сыры, агуркі і памідоры. Паляцелі першыя коркі з пляшак. Я дастаў з торбы "Такайскае", адкаркаваў і сам наліў сабе.

— Джагер зноў будзе свой сыроп піць, — ці то абурыўся, ці то пакпіў зь мяне Кір, пабачыўшы пляшку ў маіх руках.

— Тата ад'яжджаў і сказаў: ня пі, сынок, а калі будзеш піць, дык няхай гэта будзе хаця б "Такайскае". А я паслухмяны сын.

Аднагрупнікі дружна зарагаталі.

— Так, і яшчэ адно паведамленьне. Просьба да Чука не чапляцца з алкаголем. У яго спаборніцтвы праз месяц, знойдуць у крыві допінг — забяруць мэдаль.

Здаровы хлапечы рогат яшчэ раз ускалыхнуў наваколье.

— Ну, давайце, хлопцы, за ўраджай! — прамовіў першы тост Кір.

— Ага. І яшчэ за партыю і за Леніна! — хтосьці разьвіў думку першага выступоўцы.

Рогат зноў захістаў прыбярэжныя хмызы.

Хлопцы выпілі, загаманілі, разьбіліся на купкі. Я сеў на бервяно побач з Чукам. Той знайшоў сабе варты занятак — закінуў першую партыю бульбы ў прысак і ўважліва кантраляваў працэс пячэньня.

Хлопцы выпілі яшчэ раз, затым яшчэ раз. Гарэлка хутка ўзяла сваё: галасы рабіліся ўсё больш гучнымі, а зьмест гутарак усё менш сэнсоўным. У такія хвіліны душа прасіла песьні. Першым ня вытрываў Кір, ён засьпаваў бязладным, хрыпатым голасам:

Нічего на свеце лушчэ нету,
Чем бродзіць па белу сьвету,
Цем, хто дружэн, не страшны трывогі,
Нам любые дорагі даро-огі.

І зводны хор п'яных юнакоў групы АЭ-2 надрыўна падхапіў прыпеў:

Наш кавёр — цветочная паляна,
Нашы сьцены — сосны-веліка-аны,
Наша крыша — неба галубое,
Нашэ шчасьце — жыць такой судзьбо-ою.

Пасьля былі песьні з мульціка "Чунга-чанга" і некалькі гітоў з рэпэртуару "Машины времени".

Чарговым разам налілі. Хтосьці прапанаваў надзвычай арыгінальны тост: "За сэкс без каханьня!" Тост быў сустрэты на ўра! Хоць, па-мойму, ніхто толкам не зразумеў, за што будзе піць. Кагосьці натхняла слова "сэкс", кагосьці зачапіла больш знаёмае "каханьне". Усе дружна выпілі. І тут сэрца Кіра ня вытрымала напругі пачуцьцяў. Ён выхапіў з вогнішча таўшчэзны, доўгі кол і, узьняўшы высока ў гору сваю паходню, зароў на ўсё горла, як Уолес перад бойкай з брытамі: — НА ТАН-ЦЫ!

Прыехалі мы ў Драчкава днём у нядзелю, каб з раніцы ў панядзелак пачаць працаваць. Выведка данесла, што ў суботу і нядзелю ў вясковым клюбе, што месціўся ў суседняй вёсцы, ладзяць танцы. Кіра пацягнула на прыгоды. Я нахіліўся да вуха Чыка і сказаў:

— Усё, на гэтую сэрыю камедыйнага трылера ў нас няма квіткоў, вяртаемся дахаты.

Мы выграблі з прысака зь дзясятак печаных бульбін і пашыбавалі ў свой канец вёскі.

Як я і меркаваў, усё скончылася сумна. З Кірам у суседнюю вёску па прыгоды выправіліся толькі тры чалавекі: адныя былі ўжо ня ў стане кудысьці ісьці, іншыя разважліва не паддаліся на правакацыю. Чацьвёрку адважных у суседняй вёсцы тубыльцы пачаставалі штыкецінамі ад плоту. На Кіра потым немагчыма было глядзець бяз рогату: адно вока ў яго цалкам заплыло, а ніжняя губа неяк дзіўна вытыркалася наперад. Але менавіта гэтае няшчасьце ўратавала Кіра і кампанію ад выключэньня з тэхнікуму. У панядзелак на раніцу чацьвёрка

адважных ня здолела стаць у бульбяныя разоры: яна была непрацаздольная. Пацярпелых, у поўным складзе, Пятровіч накіраваў назад у тэхнікум у распараджэньне заўгаса Вікеньцевіча — цягаць па паверхах парты і адмываць ад пабелкі падлогу.

І на гэтым нашыя прыгоды ў Драчкаве скончыліся. Днём мы карачкаліся зь вёдрамі па бульбяных разорах, а ўвечары я круціў свой ВЭФ, шукаў заходнія музычныя перадачы, а Чук чытаў савецкую фантастыку.

# 3.

Гэты стадыён пабудавалі ў маім гарадку першым. Быў ён зусім недалёка ад майго дома — спусьціцца з цэнтральнай плошчы ўніз па Спартовай вуліцы, прайсьці ўздоўж крамы "Кнігі" і лазьні, а там ужо і стадыён.

Акрамя поля з вытаптаным газонам і мэталічных футбольных брамаў, было яшчэ тут крыху драўляных лавак для гледачоў. На гэтых лаўках мясцовыя аматары алкагольнага адпачынку і апаражнялі пляшкі з "чарнілам", балазе крама "Садавіна, гародніна", у якой прадавалі адпаведныя напоі, была адразу ж за стадыённай агароджай. Ясная справа, таго пралёта, які павінен быў разьдзяляць краму і стадыён, не было. Колькі б яго не аднаўлялі, ён зьнікаў даслоўна на другі дзень.

У школьныя гады на гэтым стадыёне мы гулялі ў футбол на занятках фізкультуры. Аднойчы я нават забіў гол, бо аказаўся ў адпаведны час у адпаведным месцы. Гэта вельмі важна — быць у адпаведны час у адпаведным месцы.

Наўрад ці тое было адпаведным часам ў адпаведным месцы. Летнім вечарам я вяртаўся дахаты ад сяброў праз стадыён. Дзень скончыўся. Сьвятло ўжо пакідала зямлю і ледзь падавала знакі жыцьця недзе вышэй кронаў высокіх таполяў, што атачалі

стадыён з боку рачулкі. Рачулка тая вялікай вужакаю непадалёк пятляла па маляўнічым краявідзе. Прахалоду і вільгаць ад ракі адчувала ўся ваколіца. Туман накрываў раку белай коўдрай, паўтараючы тыя ж петлі Несьцерава па навакольлі, якое засынала.

Я ўбачыў іх са сьпіны. Яны, абняўшыся, зайшлі ў галоўную браму і накіраваліся да кустоў бэзу, што атачалі стадыённую агароджу з паўночнага боку. Я іх адразу пазнаў. Яна — гэта дзяўчына з паралельнай клясы, якая мне калісьці падабалася. А ён — мой сусед па пад'езьдзе: шалапут і патэнцыйны алканаўт. Гэтае спалучэньне ў адным: яе — майго вобразу чысьціні і недасяжнасьці мар, і яго — яскравы ўзор прымітыву і жыцьцёвага марнатраўства, мяне забіла напавал, як маланка ў чыстым полі.

Ад той хвіліны я зьнелюбіў гэты стадыён і нават ахаладзеў да футбола.

Наступным днём я зьехаў на тыдзень у вёску да бабулі.

***

Усё навокал мяняецца разам са зьменаю твайго сацыяльнага статуса. Вось ты школьнік — і гарадок твой нібыта школьны; тут ты купляеш пончыкі, а тут новыя стрыжні ў самапіску і сшыткі; тут глядзіш мульцікі і кіно на дзіцячым сэансе, а тут гуляеш у футбол на занятках фізры. Увесь гарадок нібыта прыстасаваны адмыслова для твайго школьнага жыцьця. Але варта толькі скончыць школу, як усё навокал мяняецца. Гарадок імкліва прыста-

соўваецца да твайго новага сацыяльнага статусу — навучэнца тэхнікума. На гэтых лавачках зь сябрамі ты слухаеш музычныя радыёперадачы з Захаду, у гэтую сталоўку ты час ад часу ходзіш абедаць, бо жывеш нейкі час без бацькоў і няма каму згатаваць табе харчовы камплект, у гэты ДК ты ходзіш на танцы, а ў гэтай краме твае сябры купляюць таннае віно. Па гэтых прысадах ты прагульваешся вечарамі зь сябрамі, а на гэтым паштовым аддзяленьні атрымліваеш заказныя лісты.

А калі раптам апынаесься паміж сацыяльнымі прыступкамі, як над счэпкаю паміж вагонаў, дык гарадок ад цябе адварочваецца. Не пазнае. Нават не зьвяртае на цябе ўвагі. І ты гэта адчуваеш усімі клетачкамі цела. Ад таго нэрвуесься. Невядомасьць цябе пужае. Ты хочаш найхутчэй набыць новы статус. Няхай сабе і жаўнера, бо служыць усё адно давядзецца: чым раней возьмуць — тым раней адпусьцяць.

***

Едзеш у электрычцы лысы з плецаком, у якім боўтаецца набор маладога жаўнера. Нібыта вяртаесься з бойкі, што не адбылася. І ня ведаеш: радавацца ці засмучацца. З ваенкамату цябе паслалі дамоў — нібыта не зьявілася твая каманда. Што гэта значыць, ня ведаю да сёньняшняга дня. Хутчэй за ўсё, не прыехаў нейкі прадстаўнік, які мусіў цябе забраць з сабой у вайсковую частку. Калі ён ня здолеў прыехаць, дык гэта напэўна добра. Наўрад ці гэты прадстаўнік быў аднекуль з блізкіх мясьцінаў.

А служыць за палярным колам абсалютна не хацелася.

Дзіўна, але ў галаве на той час пульсавала адзіная думка: што, калі дома нікога ня будзе, тады прыйдзецца сядзець на лаўцы перад пад'ездам і кожнаму знаёмаму мінаку тлумачыць, што са мной здарылася. Ключы ад кватэры, ясная справа, я з сабой у войска ня ўзяў. Згодна інструкцыі, яны не павінны быць у плецаку прызыўніка.

Завіс я над счэпкаю вагонаў. І мой родны горад зусім мне не спачувае. Ён не пазнае мяне. І ты ня ведаеш, што ў ім цяпер рабіць. Не, лепш у войска.

***

Назаўтра я праляжаў цэлы дзень на канапе, слухаў Pink Floyd. Я быў у прастрацыі. Не было нават з кім пабачыцца — большасьць сяброў ужо забралі ў войска.

Аб ваконную шыбу зумкала муха.

Калі б ня Pink Floyd, можна б было звар'яцець. Рэальна існавалі два жыцьцёвыя варыянты:ісьці на працу або браць курс на вэ-нэ-у. І да першага, і да другога я ня быў маральна падрыхтаваны. Ісьці на завод: штодзень ад гудка да гудка, а па нядзелях — на піва. Не, гэта ня зараз. Ня зараз. Не ў маім узросьце. Тады ВНУ. Але якая, якую выбраць спэцыяльнасьць, чаму прысьвяціць жыцьцё? Гэтыя істотныя пытаньні мной абсалютна не былі яшчэ асэнсаваныя і абмеркаваныя. Я ўжо быў пагадзіўся на два жаўнерскія гады. Гэта як адтэрміноўка ад усяго. А тут сытуацыя зноў вярталася ў зыходную пазыцыю.

Гэтак жа былі разгублены і бацькі, якія прыехалі з замежнай камандзіроўкі адмыслова на мае праводзіны. Маці, праўда, усьцешылася і пачала, як камэртон, настройваць мяне: вну, вну, вну, вну, вну…

***

Над Брызгалаўкай панаваў звыклы спакой. Цёплая вада зь цеплавой электрастанцыі фантанавала ў вадаём з сотні соплаў, ствараючы поп-артаўскі малюнак-паўтор. Сонца сядала за вершаліны дрэваў, што расьлі на могілках на супрацьлеглым беразе. Вадаём яшчэ не пасьпеў зарасьці лопухамі кубышак. Вясна толькі нядаўна апранула ў зеляніну прыбярэжныя лазьнякі.

Я сядзеў на драўлянай лаўцы на высокім беразе, адразу над адкрытым басэйнам, у якім некалі мяне вучылі плаваць. Нашая кляса прыйшла здаваць плаваньне. Я сказаў фізруку, што плаваю зусім кепска і наўрад ці адолею патрэбныя дваццаць пяць мэтраў. Фізрук, напэўна, палічыў, што я шлянгую, і загадаў праплысьці, колькі здолею. Ясна, што мэтраў праз дзесяць у маіх вачах паплылі кругі, і я з апошніх сілаў ухапіўся за драўляны борцік. Фізрук з недаверам выцягнуў мяне з вады. Ён па-ранейшаму лічыў, што гэта сымуляцыя.

Чаму я, які нарадзіўся і пражыў васямнаццаць гадоў ля вялікага вадаёму, ня ўмею нармальна плаваць, для мяне самога была загадка. Шчыра кажучы, я баяўся вады. Дакладней, глыбокай вады. На глыбіні я пачынаў панікаваць і вельмі хутка стамляўся. Праўда, нясьпешна я праплыў бы тыя двац-

цаць пяць мэтраў, але не на час, калі над табой стаіць фізрук з сэкундамерам. Не, спартоўцам я ня быў, гэта дакладна.

На Брызгалаўцы было добра думаць. Пошум вады, што бесьперастанна ліецца са шчодрых соплаў, неяк улагоджваў думкі. Да таго ж, гэтае прыемнае адчуваньне цеплыні... Асабліва ў прахалодны, золкі дзень.

У скураной кепцы я быў падобны да... Карацей, быў абсалютна не падобны да сябе. Але лысым мне яшчэ больш не хацелася фляніраваць па родных прасьцягах.

Тут, на Брызгалаўцы, я мусіў сустрэцца зь Ленкай. Нічога сур'ёзнага ў нас зь ёй не было. Вучыліся мы ў адным тэхнікуме, яна на год ніжэй. Дзяўчына жыла ў сястры, бо была нетутэйшай. Пазнаёміўся зь ёй выпадкова і зусім не ў тэхнікуме, а ў нашым ДК на танцах. Дакладней, пасьля танцаў яна вярталася дахаты, стаяла на аўтобусным прыпынку. Я ўбачыў яе, падышоў, каб высьветліць: адкуль такая прыгожая дзяўчына. Аказалася, што з майго тэхнікума. Некалькі разоў мы разам бавілі час. Безь ніякіх перабольшваньняў. Я лічыў яе сваёй добрай знаёмай, зь якой можна схадзіць у кіно або прагуляцца пасьля танцаў. Ленка была вясёлым, бесклапотным дзяўчом, і ейная энэргія мяне сілкавала.

Я ўбачыў яе, калі дзяўчына параўнялася з запрудай. Мэтраў за дзьвесьце. Яна ішла неяк насьцярожана. Ленка, напэўна, таксама не чакала такога майго жыцьцёвага павароту, аднак адмовіць мне ў сустрэчы не магла.

— Ну што, салдацік, прыехаў у адпачынак? — сказала яна замест прывітаньня.

— Ага, тры варожыя танкі падбіў, вось і атрымаў тыдзень адпачынку, — мне такі тон размовы нават падабаўся, бо выключаў розныя сур'ёзнасьці і тлумачэньні.

Ленка села побач і пацалавала мяне ў вусны. Такіх вольнасьцяў яна раней не дапускала.

— І што будзем рабіць? — спытаў я, нібыта нас чакаў вялікі выбар: казыно, рэстарацыя, кегельбан або экскурсія на Эйфелевую вежу.

— Чакаю прапаноў, — Ленка была згодная і на Эйфелевую вежу.

— А ты ведаеш, я ў гэтым басэйне аднойчы ледзь не ўтапіўся.

— Русалкі выратавалі?

— Ды не, фізрук. — Я гучна засьмяяўся. Сьмех мяне разьбіраў усё больш і больш. Здавалася, што ў сярэдзіне зьнікла нейкае напружаньне, і таму эмоцыі шчодра выплесНуліся вонкі.

Я абняў Ленку і пацалаваў. Яна не супраціўлялася.

***

Прывітаньне, Алесь!

Як табе служыцца? Нядаўна бачыла твайго сябрука Рудага, па горадзе разгульваў, чагосьці прыходзіў у тэхнікум. Відаць, засумаваў, бедачына. Нешта рана ён у адпачынак выбраўся, яшчэ і паўгода не адслужыў.

Не паверыш, але часта згадваю, як ты 5 сакавіка падышоў да мяне на прыпынку і мы пазнаёміліся.

А як мы разам гатавалі суп! Памятаеш? Сьмешна, праўда?

Згадваю ўсё гэта, як кадры зь нейкага прыгожага, мілага кіно.

Адкажы мне абавязкова. Адчуваю, буду мець праблемы. Такое, ведаеш, адчуваньне-прадчуваньне. Не, ня тое, што ты думаеш. Нешта іншае. Гоніць мяне як па загародцы — у бок не зьвярнуць. А салдаты не пакідаюць у бядзе дзяцей і жанчын.

Такія вось справы. Адкажы абавязкова! Лена.

***

Расплюшчваю вочы. Божухна, я сапраўды ў вайсковай казарме. Гляджу на гадзіннік — да пад'ёму засталося пяць хвілін. Пяць залатых хвілін, калі можаш спакойна ляжаць і марыць. Марыць пра той час, калі гэта ўсё скончыцца. Гэтыя пад'ёмы, гэтыя боты і анучы, гэтая салдацкая каша і тупасьць афіцэраў. Божухна!

Уся гэтая вайсковая падрыхтоўка — поўная імітацыя-прафанацыя. Палову з майго ўзвода не навучыць быць жаўнерам нават і за сто гадоў. Добра, што яны яшчэ не перастралялі адзін другога на палігоне. Бо аўтамат патрабуе адмысловых, надзейных рук. Тады дзеля чаго гэтае марнаваньне грошай, чалавечых сілаў і жыцьцяў?

***

Стаю ў чарзе па кружэлкі. Бачу, як Яна абслугоўвае кліентаў. Джакондаўская ўсьмешка не сыходзіць зь Яе твару. Стос кружэлак, які ляжыць перад Ёй на прылаўку, заўважна памяншаецца. Я ведаю, што хачу набыць Pink Floyd — альбом The Dark Side of the Moon. Сваю ўлюбёную кружэлку. Але чарга ніяк не набліжаецца да прылаўка. Заўважаю, што стаю на адным месцы. Пачынаю нэрвавацца. Не вытрымліваю і штурхаю ў сьпіну чалавека, што стаіць перада мной у чарзе. Чалавек паварочваецца і я бачу, што гэта наш намкамроты. “Нарад на кухню па за чаргой", — кажа ён мне сталёвым голасам.

# 4.

Калёна нашай роты, падымаючы воблакі пылу, рухалася па грунтовай дарозе ў бок палігону. За сьпінай у кожнага боўтаўся аўтамат. Зараз я ўжо ня памятаю нумару свайго сталёвага таварыша, але раней ведаў дасканала, як паштовы індэкс роднага горада, як нумар свайго хатняга тэлефона або расклад працы крамы "Культтавары". Аўтамат прыемна абцяжарваў плячо. Валоданьне зброяй заўжды павялічвае ўпэўненасьць у сабе.

Цынкі з набоямі везьлі асобна, на бронетранспарцёры, але, бадай, у кожнага з нас у кішэні было некалькі пра запас — зь мінулых стрэльбаў. Грудзю я адчуваў ва ўнутранай кішэні гімнасьцёркі тры набоі, два трасэры і звыклы баявы, — час ад часу яны дзюбкамі паколвалі скуру. Трасэрамі стралялі ўночы з БТРаў, ніхто не лічыў, колькі ты выліў агню ў зорнае неба. А калі страляў мой узвод з кулямёту, па чарзе з малымі перапынкамі, дык руля зброі распальвалася да зыркай чырвані, як у горне каваля.

Дзіўна страляць, калі вораг ня робіць тое ж самае ў адказ.

Рота спынілася на адпачынак. Наперадзе мы мусілі пераадолець бойкую аўтатрасу. Намкамузвод загадаў мне і яшчэ траім выйсьці наперад са сьцяж-

камі і ў патрэбны час перапыніць рух на шашы, каб рота змагла бясьпечна перайсьці на другі бок.

Мы ўчатырох бегам пашыбавалі ў кірунку няспыннага аўтамабільнага гуду. За сьпінамі пагойдваліся аўтаматы.

Шаша мне была знаёмая, я дзясяткі разоў праяжджаў тут з бацькам на нашым легкавіку. Мне нават закарцела, каб нехта пазнаў мяне. Такога дарослага, у вайсковай форме, ботах, пілётцы, з аўтаматам за плячыма. Вунь той, глядзіце, гэта ж Барысаў сын старэйшы. Во як хутка вырас, ужо служыць з аўтаматам, глядзі як ладна на ім сядзіць форма, пакруглеў на дзяржаўнай кашы. І будуць увечары пераказваць гэтую навіну іншым. Усе ў родным горадзе даведаюцца, што сёньня ранкам Барысаў сын з аўтаматам спыняў рух на маскоўскай шашы.

Хоць была раніца, але на дарозе быў актыўны рух. Я з Гусаком, здаровым, высокім менчуком, які на твары меў заўжды пануры выраз і з тае прычыны быў вельмі падобны на клясычнага кіношнага эсэсаўца, перайшоў на другі бок шашы. Там узышлі на невялікі пагорак і паселі на траву, паклаўшы аўтаматы на калені. Прыемна грэла ранішняе сонейка. Цікава было назіраць за цывільнымі аўтамабілямі, за людзьмі, якія сядзелі ў іх. Шаша зьяўлялася ўжо іншай тэрыторыяй, на якой мы былі гасьцямі.

Сонца прыпякала, рабілася ўсё гарачэй. А роты ўсё не было бачна. Гусак закасаў рукавы гімнасьцёркі і павесіў аўтамат на шыю. Ну выліты эсэсавец. Ён дастаў хлебную корку з кішэні і пачаў яе апэтытна смактаць. Яму не хапала толькі губнога гармоніку. Гэты пахмурны менчук мяне заўжды раздражняў. Нейкай сваёй тупасьцю. І голас у яго

быў адпаведны, і сьмяяўся ён, здаралася і такое, неяк па-першабытнаму, без удзелу цывілізацыйнай іроніі і самаіроніі.

Гусак устаў і пайшоў бліжэй да дарогі, нібыта ён хацеў нешта разглядзець, да нечага дакрануцца. Выглядаў ён імпазантна. Гімнасьцёрка напалову расшпілена і вонкі вытыркалася "вата" ніжняй бялізны, сьпераду за папругай уторкнута пілётка, з кожнай халявы ботаў тырчэла па чырвоным сьцяжку. І самае галоўнае: на шыі ваяўніча вісеў аўтамат. Гусаку не цярпелася перакрыць шашу.

***

Нечакана для мяне на стадыёне сабралася багата людзей. Прынамсі, трыбуна насупраць аркестру, што вышыхтаваўся ў адмысловую калёну на бегавой дарожцы, была паўнюткая. Летняя сьпёка ператварала ўсю дзею ў расплывісты відзеж. Хацелася піць.

Аркестр граў вайсковыя маршы. Нібыта запрашаючы ўсіх прысутных прайсьціся па вуліцах горада святочнай дэманстрацыяй. Але па сцэнару мерапрыемства ніякай дэманстрацыі заплянавана не было. Толькі ўрачыстасьць на стадыёне "Дынама".

Недзе з тыдзень нас муштравалі на маленькім стадыёнчыку правінцыйнага гарадка. Пад музыку мы рабілі фігуры зь вялікімі шастамі. Амаль як на адкрыцьці якой-небудзь летняй Алімпіяды.

Фігура першая, фігура другая, трэцяя, чацьвертая...

Такія калектыўныя паказы найлепш атрымліваюцца, напэўна, у кітайцаў. Бездакорна, як гэта могуць зрабіць хіба што запраграмаваныя робаты. Некаторыя з нас сёння ўпарта блыталіся ў фігурах, нават больш прыкметна, чым на генэральным праглядзе. Напэўна, збоку гэтая неспрактыкаванасьць выглядала камічна. Хаця, магчыма, публіцы ня вельмі тое кідалася ў вочы. Бо блытанік хуценька выпраўляўся, і праз якіх пару сэкундаў агульны малюнак фігуры пазбаўляўся хібаў.

Бесьперапынна граў духавы аркестр. З усёй гурмы музыкаў я абраў сабе для назіраньня дзядзьку зь вялізнай трубой, якая, нібыта гіганцкі пітон, абкручвала яго тулава. Труба рытмічна пагойдвалася ў рытмах музыкі. Мне чамусьці яна больш нагадвала не музычны інструмэнт, а якісь касьмічны скафандар. Падумалася, такая вялікая труба прыдатная хіба толькі для аркестра, для калектыўнага граньня, а нейкая маленькая флейта можа граць сольна.

Трыбуны стракацелі рознакаляровым паркалем і баваўнай. Летам заўжды больш колераў. І так шмат дзяўчат. Увогуле, для іх сёньня было выключнае відовішча: сотні хлопцаў у спартовых майтках прысядалі і зноў выпросталіся з алюмініевымі шастамі ў руках. Я асабіста такога ніколі ня бачыў, ну хіба ў кінахроніцы 20-30-х гадоў.

Мы скончылі “фэхтаваць” шастамі. Сышлі з газону футбольнага поля. Перастаў граць аркестр. Той дзядзечка зь вялізнай трубой зьняў зь сябе свой інструмэнт-“скафандар” і паклаў перад сабой на траву. Затым зрабіў колькі крокаў у бок трыбуны і моцна выгукнуў:

— Дзе вашыя бела-сінія сьцягі?

Трыбуна ці то абуральна, ці то пахвальна адказала яму моцным гулам.

Пры чым тут бела-сінія сьцягі, падумалася мне. Але згадаў, што мы на стадыёне "Дынама", а ў гэтага спартовага клюба і сапраўды сьцяг бела-сініх барваў.

***

Кожны, хто сядзеў у кодабу грузавіка, трымаў на каленях картонную скрыначку з сухпайком. Вайсковым ЗІЛам нас развозілі па пастах. Машыну моцна кідала на лясных дарожках-сьцежках у бакі, і мы, маладыя салдацікі, сядзелі па пэрымэтры кодабу, трымаючыся рукамі за борт.

Падчас баявых стрэльбаў перакрываліся ўсе дарогі, што вялі на палігон. Дзеля гэтага нас і развозілі па адмысловых "кропках". Нечакана мне пашанцавала: выдаўся проста цудоўны пост, лепшага цяжка й вымысьліць: лясная дарога вынырвала з хваёвага бору, далей пятляла па хмызняках і выскоквала на палігонны прасьцяг. Якраз на беразе невялікай рачулкі і быў мой пост. Праўда, слова "пост" гучыць задужа сур'ёзна для гэтага аб'екту. Ён уяўляў сабой мэталёвы шлягбаўм, пафарбаваны ў белы колер з чырвонымі палоскамі. Мы павінны былі пільнаваць дарогу і нікога не прапускаць у бок палігону.

Зноў у напарнікі трапіўся Гусак, што было адзінай непрыемнасьцю ў гэты сонечны ліпеньскі дзень.

Дзень у раю. Гучна сьпявалі птушкі. Апантана стракацелі конікі. Над галавой праносіліся матылі

і стракозы, ледзь не дакраналіся крылцамі абстрыжанай галавы.

Пару месяцаў таму падобны дзень мала чым адрозьніваўся б ад іншых. Такіх сустрэчаў з прыродай у мяне было сотні. Былі і значна лепшыя: з добрымі кампаніямі, прыемнымі прыгодамі і фантастычнымі краявідамі.

Але ў раю я быў толькі аднойчы. У гэты дзень.

Я ляжаў на траве і глядзеў у неба. Слухаў птушак і бегаў за матылямі. Скупнуўся ў рачулцы і схадзіў у бор пачаставацца чарніцамі, а на ўскрайку леса знайшоў крыху суніц.

Было ўсё так знаёма. Як у родным доме. І яшчаркі, што грэліся на сьцежках, распластаўшыся пад сонцам. І невялічкія рыбкі ў рачулцы. І шчаўе на лузе. І лічылка зязюлі. І промні сонца праз шаты дрэваў.

І добра, што напарнікам аказаўся Гусак. Ён адразу умалоў амаль усю сваю скрынку сухпайка: галеты і дзьве бляшанкі тушонкі, ды заваліўся спаць у цяньку. Ён мне не замінаў.

Нечакана з боку палігона пачулася страляніна. Засакаталі аўтаматы, гучна бухнулі танкі. Гэтыя гукі я ўжо добра адрозьніваў. Але і яны мне не замінаалі. Нібыта хтосьці з суседзяў глядзеў кіно па тэлевізары, гук якога пераадольваў сьцены, час і іншасьветы.

Ніхто на нашай дарозе так і не зьявіўся. Адну сваю бляшанку тушонкі я аддаў Гусаку. Ён сьвяціўся ад шчасьця.

У кішэні маёй гімнасьцёркі яшчэ доўга ляжаў прыгожы каменчык, які я знайшоў на беразе рачулкі. У выглядзе сэрцайка.

***

Зьлева сакатаў кулямёт. Неяк насьцярожана. Кароткімі чэргамі. Нібыта нешта намацваў.

Стралялі з роты выведкі. Гук стрэлаў рабіўся то больш, то менш гучным. Як быццам бы нехта бязладна круціў настройку гуку.

Страляюць з БТРу, здагадаўся я.

Камандзір роты дакрануўся да майго пляча. Я ўскочыў і трушком пабег на баявы рубеж. За сьпінай боўтаецца кайстра з боекамплектам да гранатамёту. Зброю трымаю ў руках перад сабой. На баявым рубяжы кладуся на зямлю перад невялічкім грудком пад вуглом да лініі атакі, як таго патрабуе статут гранатамётчыка, каб не апаліць сабе ногі. Дастаю з кайстры гранату і зараджаю гранатамёт. Цяпер трэба пачакаць, калі ўздымецца фанэрны зялёны танк і пасунецца ў бок узьлеску.

Вось і танк зьявіўся. Здымаю гранатамёт з засьцерагальніка і пачынаю цэліцца. Бачу, як па прыцэльнай плянцы пабег мураш. Танк сунецца нясьпешна, таму яго лёгка злавіць на мушку. Плаўна націскаю спускавы кручок. Гранатамётны выстрал паслухмяна кладзецца на зададзеную траекторыю. Бачу, як мая паветраная тарпеда валіць фанэру. Граната камулятыўная, без выбуховай начынкі, таму яна толькі тараніць мішэнь і не ўзрываецца. Стаўлю сваю "дудку" зноў на засьцерагальнік. З кайстры за плячыма дастаю яшчэ адзін выстрал. Зараджаю гранатамёт. Зноў чакаю "танка". Гэтым разам ён вынырнуў у іншым месцы — бліжэй да хмызьняку. Я не даю яму доўга "дратаваць" родную зямлю і валю сволач новым стрэлам. Граната тараніць танк, чапляючы за бутафорскую вежу, і ля-

ціць далей у хмызы. Падымаюся і сьпехам вяртаюся на зыходную пазыцыю. Камандзір ляпае па плячы і хваліць за трапныя стрэлы. Камроты невялікага, амаль аднаго са мной роста, і гэта нас неяк збліжае. Прынамсі, я адчуваю, што ён мне сымпатызуе.

Гучыць сыгнал адбою стрэльбаў. Камроты ідзе да вышкі назіраньня. Я ляжу сьпінай на траве і гляджу ў неба. Неба чыстае-чыстае, сіняе-сіняе. Недзе высока гучыць жаўрук. Надвор'е гарачае і сухое. Камроты кажа, лепш сьпёка і сухмень, чым дождж і гразюка.

Камандзір вяртаецца і паведамляе, што сёньня стрэльбаў больш ня будзе. Мой другі стрэл падпаліў хмызы. Тушыць агонь не выпадае, бо там могуць быць неразарваныя снарады. Таму трэба пачакаць, пакуль тая невялікая выспачка сухой травы выгарыць дарэшты. З гэтай праблемай павінны разабрацца службы палігона.

І сапраўды з боку хмызоў пачаў падымацца дым.

Таварышы са ўзвода ўдзячна ляпаюць мяне па плячы — сёньня нечакана атрымалі выходны. У частку вяртацца нельга, каб не трапіць пад выпадковую гарачую палкоўніцкую руку. Таму рота адыходзіць да ўзьлеска на адпачынак.

Я дастаю з нагруднай кішэні паперу і пачынаю пісаць лісты. Мушу адказаць на тры, якія атрымаў учора.

# Частка другая

## 1.

Я адразу яго пазнаў — высокі, цыбаты, з даўгімі валасамі. Ён ішоў мне насустрач у атачэньні бацькоў. З аднаго боку крочыў яго бацька, амаль такога ж росту, як і сын. З другога боку маці — маленькая, па пояс сыну. Бацькі быццам бы яго некуды суправаджалі. Нібыта па вельмі-вельмі важнай справе. У Дзімкі быў каменны твар. Застылы, ніводнай іскаркі пачуцьця. Ён нават не зірнуў на мяне. Яны досыць таропка прайшлі побач, я й не пасьпеў адкрыць рота. Я толькі спыніўся і пачаў глядзець усьлед — няўжо ён не павернецца і ня скажа хаця б кароткага слова вітаньня. Хаця б падміргнуў вокам, падаў нейкі знак. Маўляў, усё нармальна, я цябе пазнаў, але во сьпяшаюся, няма ні хвіліначкі вольнага часу.

Раніцай я патэлефанаваў сваім бацькам і спытаў, ці жывыя бацькі Дзімкі. Не, ні бацька, ні маці ўжо не жывуць.

***

З Дзімычам мы вучыліся ў адной клясе. Недзе ва ўзросце 14 гадоў ён даваў мне ўрокі граньня на гітары. Я да крыві пасьціраў пальцы, вывучыў некалькі акордаў, але так і не асвоіў інструмэнту.

Я быў на провадах Дзімыча ў войска. Зь вялікага пакою кватэры павыносілі ўсю мэблю і расставілі ўздоўж сьцен чатырохкутнікам драўляныя сталы. Для патрэбаў усяго двара яны захоўваліся ў бамбасховішчы. Уваход у тыя падвальныя сутарэньні якраз быў у пад'езьдзе Дзімыча. Адтуль жа папрыносілі драўляныя лаўкі. Людзей было шмат. Як на вясельлі. Дзімыча забіралі зь першым наборам, таму большасьць аднаклясьнікаў былі яшчэ на волі.

Помню толькі, што вельмі хутка ап'янеў. Спрабаваў прапускаць тасты, але ўсё адно, праз якіх пару гадзін застольля галава пайшла кругам. Разумеючы, што справа можа завершыцца адключкай, я незаўважна пакінуў бяседу, якая толькі набірала абароты, бо ў двары зайграў мясцовы ВІА, пачыналіся танцы. Хістаючыся, але яшчэ не на аўтапілёце, пацёгся дахаты. Па дарозе мяне званітавала. Настрой быў паганы. Гэтае пачуцьцё нарастаньня бездапаможнасьці цела і непаслухмянасьці мазгоў я арганічна не пераносіў.

Бацькоў дома не было. З апошніх сілаў я паставіў на прайгравальнік кружэлку "Deep Purple In Rock", нацубіў навушнікі і, не распранаючыся, паваліўся на канапу. Калі паміраць, дык з музыкай!

***

Дзімыч надзвычай лёгка падбіраў акорды песень. Хоць ніколі не вучыўся ў музычнай школе, якая ў нас месьцілася ў аднапавярховым дамку за плотам тутэйшага стадыёна. Гэты сымбіёз спорту і музыкі выглядаў штучна. Бо хлопцы, што займаліся

спортам, у бальшыні сваёй не былі прыхільнікамі ані скрыпкі, ані фартэпіяна, ні, тым больш, кларнэту, таму наведнікам музычнай школы часьцяком ад іх перападала.

Дзімыч быў самавукам, акорды ў сваім песеньніку запісваў ня нотамі, а нейкімі літарамі. У яго не было ніякіх амбіцыяў адносна занятку музыкай. З гітарай ён проста бавіў вольны час. Неяк ён склаў з аднаклясьнікаў уласны band, у якім мяне запрасілі пляскаць па талерках. Час ад часу, калі я заставаўся дома адзін, рэпэтыцыі праходзілі ў маім пакоі. Мы гралі стандартны набор заходніх гітоў зь дзіўнымі прымітыўнымі перакладнымі тэкстамі. Зараз ужо тыя тэксты забыліся, але маю здагадку, што яны не былі перакладамі, а хутчэй народнай творчасьцю — нейкія дамарослыя мэляманы проста панапрыдумвалі ўласных тэкстаў на славутыя мэлёдыі.

Менавіта Дзімыч навучыў нас слухаць "варожыя" галасы. Пасьля рэпэтыцыі ён уключаў свой пашарпаны прыймач VEF, звыклымі рухамі лавіў патрэбную станцыю, і з паўгадзіны або гадзіну мы слухалі, праз трэскі і гул этэру, чарговую порцыю забароненай музыкі.

Неяк ён сам сачыніў мэлёдыю і папрасіў мяне напісаць на яе тэкст. Зь першага разу ў мяне гэта не атрымалася. Тады мы селі зь ім побач, Дзімыч узяў у рукі гітару, і мы пачалі падбіраць словы мэтадам супольнага сачыніцельства. Я нешта прапаноўваў, Дімыч або адразу забракоўваў, або, нешта зьмяніўшы і паправіўшы, прымаў радок. Так за гадзіну мы напісалі першую сваю песьню.

Гэта быў сапраўдны кайф — адчуваць сябе творцамі. Прычым, Дзімыч паведаміў астатнім нашым

калегам, што гэта мая песьня. Маўляў, дзякуючы мне нарадзілася. Хаця, па-шчырасьці, майго ў ёй было няшмат. Гэта была песьня Дзімыча. Але ён ня меў ніякіх амбіцыяў. Я ж наадварот — загарэўся і адчуў патрэбу пісаць-ствараць. Адчуў гэтае непаўторнае пачуцьцё творчага парыву, гэты кайф быць богам у сваім прыдуманым сьвеце. Мне гэта падабалася.

Магчыма, некалі я й сказаў Дзімычу, што варта нам выконваць свае ўласныя песьні. Але наўрад ці гэта давала падставы казаць, што першая напісаная намі песьня была мая. Будзем лічыць, што Дзімыч проста мне яе прысьвяціў.

Пра што была песьня? Ужо ня памятаю. Магчыма, пра каханьне, а можа пра сяброўства, а можа пра тое, як добра жыць на белым сьвеце.

Праз нейкі час, пасьля непрацяглых рэпэтыцыяў, мы запісалі сваю першаніцу на звычайны бытавы магнітафон. Гэтая стужка, напэўна, дасёньня недзе ціхамірна дажывае свае дні ў шуфлядзе майго старога пісьмовага стала ў бацькоўскай кватэры.

Іншую ідэю мы так і не рэалізавалі. Гэта ўжо была прапанова Дзімыча. Ці то ён пра гэта пачуў па радыё, ці прачытаў у "Ровеснику" або "Кругозоре", якія выпісвалі яму бацькі. Ідэя была наступная: сыграць як бітлы на даху дома. Праблема палягала толькі ў тым, што ў нашым пасёлку не было дома з пляскатым дахам. Пасёлак быў забудаваны пасьляваеннымі стандартнымі трох- і двухпавярховымі дамкамі, якія мелі скатныя дахі, пакрытыя шыфэрам. Дзімыч жыў у трохпавярховым дамку, я ў двух. Але абодва мы жылі на першых паверхах.

Аднойчы мы нават узьлезьлі на паддашша майго дома. Там было брудна і заседжана галубамі. Сьпяваць у такім інтэр'еры абсалютна не хацелася.

***

У маёй калекцыі вінілу першай замежнай кружэлкай стаўся румынскі зборнік брытанскага гурта Middle of the Road. Яго мне прынёс Дзімыч, маўляў, ёсьць нагода купіць танна — усяго за 5 рублёў. Вядома, я купіў. На канверце плыты фотка — гурт стаіць каля шыкоўнага аўто, а дзяўчына-вакалістка сядзіць на капоце. Някепскае такое фота. Middle of the Road граў лёгкія, вясёлыя песенькі, чымсьці яны нагадвалі швэдзкі гурт ABBA. Дакладней, ABBA нагадвала Middle of the Road, бо "Сярэдзіна дарогі" зьявілася на сьвет значна раней за швэдзкіх пасьлядоўнікаў.

Мы зь Дзімычам некалькі разоў паслухалі кружэлку ад пачатку да канца. Сыходзячы ад мяне, сябра параіў працерці плыту адэкалёнам, каб было менш трэску. Адэкалён быў для Дзімыча ўнівэрсальнай, незаменнай рэччу. Менавіта адэкалёнам кожны дзень ён чысьціў галоўку свайго магнітафону. У гэты ж вечар я выканаў параду сябра. Пасьля такой гігіенічнай працэдуры кружэлка пры прайграванні пачала ня толькі патрэскваць, але й шыпець. Дзімыч без ваганьняў прызнаў сваю памылку. Кружэлку забраў, а праз нейкі час вярнуў і грошы.

Наш гурт праіснаваў крыху больш за год. Ён так і не атрымаў назвы. Хлопцы ў старэйшых клясах пачалі набываць іншае хобі. Музыка адышла на задні плян.

Да войска я ня памятаю, каб Дзімыч сур'ёзна сустракаўся зь якой-небудзь дзяўчынай. Мы часьцяком разам хадзілі на танцы ў ДК. Нават нейкі час, напачатку майго сталеньня, пераважна толькі зь ім. Не было ў яго дзяўчат. Пасьля войска ён неяк незаўважна вельмі хутка ажаніўся і пераехаў жыць да цешчы ў іншы канец горада. Я паступіў у сталічны інстытут, і сустракаліся мы выпадкова. Нашы жыцьцёвыя шляхі імкліва разышліся.

Яшчэ гадоў праз пятнаццаць у тэлефоннай размове мая маці спытала:

— А ты чуў? Дзіма памёр.

— Як памёр, што здарылася?

— Кажуць, нешта з сэрцам.

## Старонкі дзённіка

Сёньня езьдзілі на рыбалку на Судабоўскае возера. Быў цудоўны дзень. Ранкам выехалі на роварах з хлопцамі-суседзямі па пад'езьдзе. Гадзіна кручэньня пэдаляў анітрохі не змарыла, бо ехаць па грунтовай дарозе летнім гожым ранкам — адно задавальненьне. У прыбярэжных хмызах у нас схаваныя дзьве лодкі. Возера топкае, да берага не падысьці, дык мы зрабілі грэблю. Ловяцца тут толькі карасі. Невялікія — з далоньку. За дзень можна натузаць бітончык. На гэтым возеры пачуваесься палескім рабінзонам. А якія тут птушкі! Качкі і кірлі розных відаў, паганкі, лысухі. Проста выдатны адпачынак!

***

Дзімыч прыносіў свой магнітафон. Перапісаў у яго некалькі альбомаў Slade, T.Rex, Nazareth. Якасьць ня вельмі, бо Дзімыч сам у некага перапісваў з магнітафону.  Але так лепш, чымсьці слухаць па радыё.

Дзімыч паабяцаў зрабіць малюнак бітлоў на майку. Нехта яму даў трафарэт, трэба будзе толькі фарбу адпаведную знайсьці.

***

Захварэў на ангіну. Ляжу з тэмпературай. Пасьля прыняцьця пігулкі тэмпература зьбіваецца, тады чытаю Джэка Лёндана. Чаму сапраўдныя прыгоды могуць здарацца толькі недзе далёка, у якой-небудзь Алясцы? А зь іншага боку, тубыльцы Аляскі, магчыма, таксама недзе маркоцяцца ад суму. Прыгоды ставарае, відаць, нешта іншае, не месцазнаходжаньне, не дзіўныя краіны і не экзатычныя мясціны. А што тады?

***

Люблю хадзіць у бібліятэку нашага Дома культуры. Там дазваляюць вольна аглядаць кніжныя паліцы. Якім чынам зьбіраўся гэты кніжны фонд, ня ведаю, але тут ёсьць выданьні яшчэ царскай Расеі, пераважна гэта клясыка — Салтыкоў-Шчадрын, Чэхаў, Гогаль. Значна менш старых беларускіх кніг. Хіба найстарэйшымі зьяўляюцца зборнікі, выдадзеныя ў Маскве падчас вайны, напачатку 40-х. Гэта

просьценькія, танна аздобленыя, надрукаваныя на газэтнай паперы кніжачкі. Як яны сюды трапілі — таксама загадка.

***

Езьдзілі з бацькамі адпачываць у Крым. На ўласнай машыне. Праехаліся па ўсім узьбярэжжы. Жылі на аўтамабільных кемпінгах у намёце. Мора, канечне, цудоўная рэч. Шкада, што мы, беларусы, ня маем свайго мора. Бо тое ж Заслаўскае вадасховішча гэта проста лужына ў параўнаньні з самым маленькім морам.

Лавіў бычкоў на простую снасьць: на лёску чапляў толькі кручок (можна некалькі) і грузіла, рабіў штосьці на ўзор донкі. Зьбіраў на меліне жывыя ракавіны, сярэдзіну ракавін чапляў на кручок, закідваў снасьць і трымаў нацягнутую лёску ў руцэ, чакаючы паклёўкі. Калі лёску пачынала торгаць — падсякаў і выцягваў здабычу.

Файны занятак яшчэ й такі — плаваць на надзьмутым матрацы і з дапамогай маскі для ныраньня назіраць за жыцьцём марскіх насельнікаў.

Бяз мэты валяцца на гарачым пяску і смажыцца пад сонцам — гэта не для мяне.

У Геленджыку ў стаўках, ваду зь якіх выкарыстоўваюць для паліваньня вінаграднікаў, на сваё вялікае зьдзіўленне, налавіў вядзерца ракаў. Звычайных, якіх выпорваў з-пад карчоў у сваёй роднай рачулцы. Але каб налавіць цэлае вядзерца?! Заўжды думаў, што ракі жывуць пераважна ў праточнай вадзе. Прынамсі, ня могуць жыць у такіх невялічкіх копанках.

***

Бацькі неяк лёгка пагадзіліся купіць мне гітару. Пошукі інструмэнта не былі задоўгімі. Гітары ў нас прадаюцца ў краме "Прамтавары", якая знаходзіцца побач са стадыёнам. Там можна купіць усё — ад ровараў і матацыклаў да баянаў і гітар. Маці схадзіла са мной і купіла самую танную, сказаўшы, калі навучышся граць, куплю лепшую. Слушная лёгіка.

***

Дзімыч прынёс свой песеньнік, і я перапісаў з яго для сябе тое, што мне падабаецца. Шмат там у яго ўсялякай лухты.

Засвойваньне гітары даецца цяжка. Відавочна, ня маю ніякіх музычных здольнасьцяў.

# 2.

Мы зь Дзімычам сядзелі на даху нашага Дома культуры. Хоць дах быў і стромкі, але мы неяк трымаліся на цёплым, нагрэтым жнівеньскім сонцам бляшаным схіле. На Дзімычы была майка зь відарысам Джона Ленана, з той самай клясычнай выявай, на якой Джон у круглых акулярах. Пад відарысам надпіс "John Lennon is alive". Летні цёплы вецер гульліва шкамутаў вугальна-чорныя даўгія валасы Дзімыча. Мы глядзелі ў бок ракі. Дом культуры стаяў на ўзвышшы над самай рачной абалоньню. І было добра бачна ўсё навакольле.

— А ведаеш, Санча, на гэтым месцы раней было паганскае жэглішча, — сказаў ён неяк нечакана для мяне, не тое што я не чакаў пачуць яго голас, проста сама тэма была нязвыклая, бо раней сябар не выяўляў цікаўнасьці да гісторыі.

— Адкуль ты гэта ведаеш? — запытаў я безэмацыйным голасам — гэтакім голасам выкладчыкі задаюць пытаньні на іспытах.

— Ведаю, — сказаў Дзімыч, нібыта стоадсоткава быў у гэтым упэўнены. — Прыгожа тут. Як мы раней гэтае месца не аблюбавалі.

— А ведаеш што, давай мы засьпяваем нашую песьню. — Дзімыч няўлоўным рухам падхапіў гітару з-за сьпіны. — Памятаеш словы?

І ён пачаў сьпяваць. Такім звыклым, знаёмым голасам. Словы песьні імгненна згадаліся. Я пачаў падпяваць, спачатку няўпэўнена, але з кожным акордам наш дуэт рабіўся ўсё больш суладным і гарманічным.

Калі ўзыдзеш на гару і пабачыш,
Як сонца хаваецца за далягглядам.
Гэта будзе толькі канец дня, няйначай.
Пасьміхніся й развітайся паглядам.

Кожны канец ёсьць новы пачатак.
Помні пра гэта, не сумуй дарэмна.
Ў гнёздах ужо падраслі галчаняты.
Хутка ў дарогу зьбірацца патрэбна.

Што мы з сабою возьмем у дарогу?
Памяць хіба што, як скарб неацэнны.
Што мы пакінем за родным парогам?
Нашыя сэрцы і нашы здзяйсьненьні.

Калі мы скончылі спяваць, чамусьці згадалася, як Дзімыч паправіў радок, які я прапанаваў. Мой варыянт быў такі: кожны канец ёсьць толькі пачатак. Дзімыч зьмяніў адно слова: кожны канец ёсьць новы пачатак.

— Файна атрымалася, — праз хвілінную паўзу пасьля песьні сказаў Дзімыч. — Так ніколі файна не было.

— Дзякуй табе! Бывай! — Дзімыч па-сяброўску пляснуў рукой мне па плечуку, адштурхнуўся і паехаў уніз па схіле.

## Лісты Дзімыча з войска

Вітаю, сябра Санча!

З жалем атрымаў вестку, што і ты апрануў гімнасьцёрачку на два гады. Увогуле ты слушна зрабіў, што сам напрасіўся, усё ж такі ўсе разам вернемся дахаты. І як служба? Крыху ганяюць? Скажу табе, што ты трапіў не зусім удала, але гэта фігня, два гады ўсё роўна трэба адбыць. А ў мяне служба пераваліла ўжо за месяц, пайшоў другі. Па-ранейшаму знаходжуся ў Слуцку ў каранціне. Жыцьцё тут нармальнае, ганяюць ня вельмі моцна. Разьбілі нас на ўзводы — кіроўцы і некіроўцы. Я трапіў у чацьверты ўзвод. Нас усяго восем байцоў, сяржантам у нас (гэта значыць намесьнік камандзіра ўзвода), між іншым, таксама пехацінец, як і ты. Таксама быў ва ўчэбцы ў Пячах, але яму засталося служыць паўгода. Спачатку быў клясны чувак, ні да кога не чапляўся, а зараз the bad. Учора ў нас быў пад'ём-адбой па поўнай форме — 15 разоў, да паловы на першую. А ўвогуле тут нармальна. Горш будзе пасьля каранціну. Нас ужо разьмеркавалі па частках. Я прыпісаны да Ўрэчча, гэта кілямэтраў сорак ад Слуцка. Служыць буду ў ракетным дывізіёне. Таксама, як бачыш, патрапіў няхіла. Я там ужо быў, нас вазілі на два дні на трывогу. Частка стаіць у лесе. Па трывозе паганялі як мае быць. Паднялі а чацьвёртай раніцы, пасадзілі ў машыны і завезьлі на палігон на цэлы дзень. Там мы капалі акопы для ўстановак. Затрахаліся страшэнна. Сьпёка была невыносная, і камароў хоць сракай еш. Карацей, было весела, не сумавалі.

Між іншым, прысягу я прыму толькі 10 чэрвеня, пазьней, чым ты, на цэлы тыдзень. Павінны былі прымаць другога, але перанесьлі. На прысягу нас павязуць у частку, і там пачнецца, што называецца, сапраўдная служба.

А як ты там? Праз паўгода атрымаеш сяржанцкія лычкі. А я застануся шарагоўцам. Ты там паціху ачомваешся? Фігня! Моцна не пераймайся, усё мінае. Твае лісты я атрымліваю, а вось ад Рудога нічога няма, праўда, і я яму не пісаў. Ты мне таксама, відаць, пакуль не пішы, бо ў мяне неўзабаве зьменіцца адрас. Калі траплю ў частку, я табе сам напішу. І яшчэ: са мной ва Ўрэчча трапілі трое нашых — Дзёмін, Лахотка і Германовіч. З Лахоткам мы ў адной батарэі. Вось, бадай, і ўсе навіны. Бывай! Чакаю ліста!

Вітаю, сябра Санча!

Пішу табе другі ліст. Усё ў мяне зьмянілася — я трапіў у шпіталь. У мяне запаленьне лёгкіх. Так што тыдні тры-чатыры праваляюся. Усе нашы дзясятага прымуць прысягу, а я хрэн ведае калі. А зараз у мяне амаль цывільнае жыцьцё — ляжу, балдзею. Толькі кепска, што дафіга робяць уколаў. А так пачуваюся нармальна, тэмпературы няма. Урач кажа, што я перанёс запаленьне на нагах, а зараз толькі рэнтген паказаў, што ў мяне зь лёгкімі ня ўсё ў парадку. Так што ляжу. Распарадак дня тут клясны — еш, сьпіш і нічога ня робіш. Крыху сумна, але я чытаю кнігі ды вось пішу усім лісты, усё час хутчэй ідзе.

Ну а як твае справы? Як служба? Вось як атрымліваецца, ты пайшоў у войска пазьней мяне на ме-

сяц, а ўжо прыняў прысягу, служыш, а ў мяне ўсё нeяк наперакасяк выходзіць. Але чорт зь ім — тэрмін службы ўсё адно ідзе. Вось, бадай, і ўсе навіны. Пішы пра сябе. Чакаю адказу. Да сустрэчы!

Вітаю, сябра Санча!

Атрымаў твой ліст і пішу адказ. Пішу я табе паранейшаму са шпіталю. Ляжаць тут мне, відаць, яшчэ недзе паўтара тыдні. Здароўе ў мяне нармальнае, кашлю ўжо няма і тэмпературы таксама, але вызначаныя дні трэба адляжаць, а з запаленьнем лёгкіх гэта звычайна дзён дваццаць. Ужо пачалі далучаць да працы — заўтра трэба будзе падлогу скрабсьці шклом. Ты яшчэ не спрабаваў? Надзвычай вясёлы занятак, я табе скажу. У каранціне я ўжо шмат разоў арудаваў шкельцам. Поўзаеш на каленьках і скрабеш, і скрабеш. Усе рукі ў кроў шклом параніш. Так што, як бачыш, у ложку я ўжо не валяюся. Ачомаўся, дык пара за работу, валыніць не дадуць. Але што зробіш — армія ёсьць армія.

А ў цябе, я бачу, служба ўвогуле афігенная. Але нічога, два гады — ня ўсё жыццё. А як там Руды ўладкаваўся? Я яму, гадзяню, два лісты накатаў, а ён маўчыць — ні гу-гу.

А мінулай нядзелі да мяне прыяжджалі бацькі, харчоў навезьлі, грошай крыху, але толькі душу разьвярэдзілі. Увесь час згадваю дом! Во былі часы. Ды ладна, хопіць аб гэтым, а то і ў цябе таксама настрой зьнікне.

Нібыта пра ўсё, што хацеў, напісаў. Пішы пра сябе больш, цікава, як там цябе ганяюць. Пакуль!

Салют, Санча!

Прабач, што так доўга не пісаў. Усё не было магчымасьці. Як атрымаў ад цябе апошні ліст, яшчэ ў шпіталі, то спачатку хацеў адказаць, а потым падумаў, што пісаць зараз ня трэба, бо мяне павінны былі вось-вось выпісаць. Вырашыў, як траплю ў частку, тады напішу. У частку я трапіў напачатку ліпеня, а адтуль адразу паехалі ў летнія лягеры ў Віцебскай вобласьці на месяц. Там жыцьцё было ня з лёгкіх. Сам падумай: цэлы месяц жылі ў намётах. А яшчэ ледзь ні праз дзень вучэньні, таксама нясоладка. Ноччу ня сьпіш, а цэлы дзень завіхаесься па службе. Ды яшчэ былі хімвучэньні, гэта ўвогуле завал. Зараз ў частцы таксама нясоладка — хутка будзе праверка, так што паміраем на спортгарадку. Фізо два разы ў дзень, гэта акрамя ранішняй зарадкі, ды яшчэ практыкаваньні па хіміі, мы усё ж такі ракетныя войскі. Так што жыцьцё зараз ня зь лёгкіх. Але хутка, недзе праз два месяцы, пачнецца працоўны пэрыяд, і жыцьцё стане намнога лягчэйшым. А цяпер я вучуся яшчэ на вылічальніка, ты сам ведаеш, які зь мяне матэматык, а тут трэба варушыць мазгамі, але нічога, паціху ўцягваюся.

Ну а ты там як, пяхота? Відаць, таксама нясоладка, а? Але ў цябе хоць дом побач. Пішы пра сябе падрабязна — як справы, чым займаесься.

Вот, бадай, і ўсе мае навіны. Пішы. Да пабачэньня.

Вітаю, Санча!

Сёньня атрымаў ліст і адразу пішу адказ. Нядзеля, вольны час ёсьць, вось я і пішу ўсім. Справы ў

мяне ідуць нармальна. Служба на месцы не стаіць. Цэлымі днямі заняткі. Учора быў у нарадзе на кухні, забіўся як конь. Затое сёньня балдзею. Тут у нас зьявіўся магнітафон "Вясна". Так мы яго пускаем праз прайгравальнік "Акорд". Вось пішу табе, а пад вухам АВВА раве. У нас тут ёсьць і дзьве электрагітары. Дык я брынькаю паціху. Як возьмеш у рукі гітару, дык адразу дом згадваеш. Памятаеш, як мы ў цябе адрываліся. Але нічога, наступіць дзень, і мы нагонім страчанае, а пакуль трэба адбываць вайсковую радоўку. Рудаму, праўда, пашанцавала, ды яшчэ як. Ужо дома пабываў. Праўда, тут у нас Дзёмін ужо тры разы дамоў зьезьдзіў, яму ўвогуле шанцуе. А я, калі вырвуся дахаты, то праз год у адпачынак, а так шыш атрымаецца.

Ну як ты там? Як служба? Ад каго лісты атрымліваеш?

Лады, вось, бадай, і ўсе навіны. Пішы. Чакаю адказу. Да пабачэньня.

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст і пішу адказ. Справы ў мяне ідуць нармальна, служба паціху рухаецца наперад. Хутка ўжо чацверты месяц, як я на казённых харчах. Час, праўда, пакуль ляціць хутка. Ну а далей будзе бачна.

Санча, ты пытаесься, дзе я служу, у вучэбцы ці ў лінейцы. Служу я ў лінейцы, у ракетным дывізіёне. Я ўжо табе адразу пісаў, што спачатку трапіў у каранцін, а адтуль у частку. У дывізіёне я буду, відаць, да канца службы. Са мной тут служаць Германовіч, Лахотка і Дзёмін. Так што нам тут учацвярох някеп-

ска. Дзёмін зноў дамоў паехаў. Насачыняў камандзіру рознай лухты, яго і адпусцілі. Наконт "старых"... патрапіш у частку, сам даведаесься. "Дзед" ёсьць "дзед", і ў нас "дзед" — гэта кароль. Ну а мы, салагі, пашам як сабакі. У нас тут пакуль год не адслужыш, ганяюць, як хочаць. Затое потым ты ўжо чалавек, ну а пакуль укалваем. У гэтую суботу да мяне прыяжджалі бацькі. Адʼеўся і нагаварыўся ўволю. Далі звальненьне, карацей, я з бацькамі два дні жыў у мясцовым гатэлі. Сфоткаўся, відаць, хутка дашлю фотку. Фотасправай у нас тут займаюцца толькі "дзяды", нам яшчэ ранавата, але нічога, прыйдзе і наш дзень.

Санча! Ты просіш словы і акорды песні "У мора". Акорды: ля мінор, соль мажор, фа мажор, мі мажор. А словы я цалкам ня памятаю, вось усе, што маю ў галаве:

У мора, дзе чайкі кружляюць,
Дзе пляж і паненка лянота,
Засьнята была для кагосьці,
Я ў кнізе знайшоў тваё фота.

Хто ты, хто ты, незнаёмка?
Мілы воблік — сэрцу стрэмка.
(тут я ня памятаю радка)
Замест смутку — пекны твар.

Ты, магчыма, недзе побач,
Я шукаю ўдзень і ўночы,
Каб надзея павітала,
І больш блізкай мара стала.

Калі ты памятаеш мэлёдыю, то разьбярэсься. Ну вось і ўсё. Пішы пра сябе больш. Да пабачэньня.

Салют, Санча!

Атрымаў твой ліст і пішу адказ. Так, хутка і ты трапіш у лінейку. Цікава, куды? У нас адзін кадар ёсьць, так ён як і ты паўгода ў Пячах у пяхоце быў, а цяпер у нас вылічальнікам. Было б някепска, калі б і табе так, а?

Ну а ў мяне ўсё нармальна. Служба паціху рухаецца. Вось ужо пяты месяц пайшоў, як я з дому. Цяпер у мяне, можна сказаць, адпачынак. Працуем на лазьні, крыем дах. Раблю зь "дзедам" удваіх, нікуды не сьпяшаемся, ніхто цябе не падганяе, і так ужо тыдзень. Ня ведаю, колькі яшчэ так працягнецца. Заўтра, напрыклад, у нас комплексныя заняткі, будзе не да лазьні. Ну а так у частцы жыць можна. Можна хадзіць у кіно ў будні, праўда, за свае грошы. Каляровы тэлік у казарме, "Акорд". Праўда, "Акорд" цяпер не грае, зламілася іголка, а тут нідзе не знайсьці — дэфіцыт. Ну што яшчэ новага? Ты, гляджу, усё ў вайну там гуляеш. Бегаеце, страляеце. А я тут за чатыры месяцы толькі раз з аўтамата і страляў.

Ну, нібыта, усе навіны. Пішы, як ты там? Трымайся. Пакуль. Чакаю адказу.

P.S. Дашлі фотку, калі ёсьць, я табе сваю хутка вышлю.

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой чарговы ліст, дзякуй, што не забываеш. Кажаш, можаш застацца пісарам у Пячах.

Вось гэта кляс! Чалавекам будзеш, на службе, можна сказаць, крыж паставіш. Дамой часта наведвацца будзеш. Карацей, пашанцавала. Ну а я буду араць да вясны, як негр; потым, магчыма, будзе лягчэй. А пакуль салага, дык укалваю. А ты, можна сказаць, ужо "дзед". Ды й дамоў я зьежджу толькі вясной, пасьля баявых пускаў. Тады ўсіх адпусьцяць у адпачынак, па-іншаму наўрад ці сарвуся. Але нічога, два гады — гэта лухта. Затое ўяві, Санча, што будзе, калі мы з табой сустрэнемся. Ды і Руды (дарэчы, ён зноў чамусьці замаўчаў), і ўвогуле ўсе нашы... вось будзе сустрэча! Але гэта ўсё ў будучыні, а пакуль служба. У мяне ўсё па-ранейшаму — працую, вучуся, карацей, служу памалу. Нялёгка, канешне, але што зробіш, трэба.

Ну а ты як там? Ваюеш?

У мяне быў тут някепскі дзень. Разгружалі памідоры ў Любані. Разгрузілі шэсць машын утрох за цэлы дзень. Затое абедалі ў кавярні! Далі нам на трох шэсьць рублёў і накіравалі абедаць у сталоўку. Ну а мы забурыліся ў кавярню. Вось дзе душу адвялі!

Вось, бадай, і ўсе мае навіны. Пішы, як ты там. Перадавай прывітаньне ад мяне ўсім, каму пішаш. Пакуль! Чакаю адказу!

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст і вось вырашыў адразу напісаць адказ. Справы ў мяне ідуць па-ранейшаму, то бок нармальна. Служба на месцы не стаіць. Сёньня застаўся адзін дзень да загаду і стану я ўжо "гусем". Яшчэ, праўда, паўгода прыйдзецца цягнуць лямку, але гэта ўжо ня год усё-такі! А пакуль служу паці-

ху. Табе лацьвей, калі можаш штосьці апранаць з цывільнага пад гімнасьцёрку; тут і марыць аб гэтым нельга, пакуль малады. Потым, праўда, усё можна будзе. А пакуль давядзецца мерзнуць. Ну а ты, канешне, мерзнуць ня будзеш. Адным словам, пашанцавала.

Ну якія ў мяне яшчэ навіны? Вучуся, працую, пачалі пацiху далучаць да збору ўраджаю, але пакуль нячаста, бо неўзабаве будзе праверка. Ну а як пачнецца працоўны пэрыяд, тады, магчыма, тыдні на два паедзем у калгас. Ну і, відаць, на палігоне давядзецца папрацаваць — валіць лес у балоце, гэта, як ты разумееш, значна горш. Але яшчэ рана казаць, куды пашлюць.

Ну а як ты там? Хутка ўжо, відаць, пачнеш ганяць маладых, бо ўжо які-ніякі, а "дзед", вучэбку сканчваеш. Дамоў яшчэ ня езьдзіў? І ўвогуле, як ты там?

Так, Санча, ты маеш рацыю, харчы ў арміі — гэта адзін з самых галоўных фактараў. Да войска аб гэтым увогуле ня думаў, а тут паесьці — першая справа. Я таксама моцна паправіўся, да канца службы, магчыма, набяру вагу. Рэжым усё ж такі вялікая справа.

Лады, пакуль усё. Трымайся! Пішы! Чакаю адказу!

Салют, Санча!

Атрымаў твой ліст і адразу адказваю. Вось табе я пішу і ведаю, што ты неўзабаве адкажаш, а Руды, зараза, зноў змоўк.

Санча, вось я ўжо і "гусь", яшчэ паўгода і стану чалавекам. Да нас прыканцы гэтага месяца павінны

ўжо прыходзіць з вучэбак, а таксама з каранціну. Так, так, хутка паплывуць хлопцы ў войска. А мы ўжо амаль паўгода адбухалі...

Ну якія ў мяне навіны? Укалваю, укалваю, укалваю... І так яшчэ шэсьць месяцаў. Як кажуць, першы год службы — без віны вінаваты, а другі — вясёлыя рабяты. Вось і мы станем некалі вясёлымі рабятамі. А зараз праца і дубар, дубар пякельны, цёплую бялізну яшчэ не выдалі, так што калатнеча знакамітая. А што будзе зімой! Мы яшчэ ў лягер паедзем, там увогуле пісец! Ну ладна, перажывем, наступіць і вясна.

Ну вось, хіба і ўсе мае навіны. Дзякуй за песьню. Высылай часьцей, я табе таксама як-небудзь чыркану, з нашых. Пакуль! Пішы. Дзімыч.

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст і, пакуль ёсць вольны час, пішу адказ. Асабістых навінаў практычна няма. У нас тут адбыўся жахлівы выпадак. Адзін баец звар'яцеў. "Дзед", адслужыў паўтара гады, вясной дамоў, і розумам крануўся. Раней за ім нічога такога неназіралі. А тры дні таму ў яго ўзьнялася тэмпература, амаль пад сорак, і ён пачаў несьці такую нісянеціцу, што было страшна слухаць. Кажуць, што гэта ў яго шызафрэнія. Шкада чувака, столькі адбухаў і на табе... Цяпер яго, напэўна, камісуюць.

Ну вось такія ў мяне навіны. Ну а ў астатнім усё па-ранейшаму. Хаця забыў згадаць яшчэ пра адзін жахлівы выпадак. Прыкладна тыдні тры таму ў нас у дывізіёне адбылася аўтамабільная катастрофа (я табе аб гэтым спачатку не хацеў пісаць). У выніку

аварыі — дзьве сьмерці: мужчына і жанчына. Сярод нашых байцоў, на шчасьце, ахвяраў няма. Нашаму вадзіле нічога ня будзе, бо цывільны кіроўца быў на паддачы.

Ну а як ты там? Ці застаесься пісарам у Пячах?

Пакуль. Пішы. Дзімыч.

Салют, Санча!

Вырашыў напісаць табе ліст, хоць і ня ведаю — прыехаў ты зь лесу ці не. Наш дывізіён амаль у поўным складзе зьехаў у Дрэтунь. Гэта такі палігон у Віцебскай вобласьці. Дарэчы, я там быў летам у лягерах.

Засталося нас у казарме сямнаццаць чалавек. Праз дзень хаджу ў нарад па батарэі. Цяпер, праўда, стаю ўжо трэція суткі запар. Жыцьцё, карацей кажучы, нармальнае. Людзей мала, рабіць няма чаго. Праўда, неўзабаве да нас павінны прыйсьці маладыя з вучэбак — з дня на дзень чакаем, тады стане лацьвей. А то зараз з маладых толькі тры байцы, дык "дзяды" ганяюць — зрабі тое, зрабі гэта; падай, прынясі. Нічога не паробіш, трэба слухацца, пакуль "гусь", каб не было непрыемнасьцяў. Што яшчэ? Атрымаў ліст ад Рудога.

Чым ты займаесься? Ці застаесься пісарам у штабе? Глядзі, лепш застацца ў Пячах, маю на ўвазе, пісарам.

Здаецца, усё. Пішы. Чакаю адказу. Пакуль!

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст — дзякуй. Прабач, што крыху

замарудзіў з адказам. Усе ніяк не было часу. У мяне ўсё нармальна, вось ужо хутка будзе восем месяцаў. Служба пакуль нялёгкая, даводзіцца ўкалываць за сябе і таго хлопца. Але нічога, засталося менш чатырох месяцаў такога жыцця, потым стане лягчэй. Праўда, бываюць і тут някепскія дзянькі. Быў у нас рабочы пэрыяд, і мы езьдзілі ў Любань, адкуль пару разоў я ледзь вяртаўся ў частку — гэтак наглюкаўся. Адзін раз ледзь не замялі, давялося ўцякаць ад патруля, але ўсё абышлося.

Ну а зараз навучальны пэрыяд — вучышся і ўкалваеш. Ды яшчэ надвор'е! Зіму ў войску перажыць, гэта вялікая справа, ня тое, што на грамадзянцы.

Вось такія мае навіны. А як ты там? Як служба, яшчэ не затрахала?

У нас тут на днях чувака застрэлілі. Я жыву на трэцім паверсе казармы, а гэта здарылася на першым. Стаім мы на вечаровай праверцы, а тут — бац — стрэл. Што, дзе? А гэта байца застрэлілі. Лужа крыві да гэтай пары стаіць. Жахліва.

Нядаўна атрымаў ліст ад Рудога. Піша, што ў яго ўсё добра, служба па кайфу. Ён і ў пекле добра ўладкуецца.

Вось, бадай, і ўсё. Пішы, як ты там, як жыццё агулам. Чакаю адказу. Дзімыч.

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст, дзякуй, вырашыў адразу адказаць.

Санча, што ні кажы, а служба — гэта херовая штука. Новы год!!! Гэтыя словы гавораць самі за сябе — дома, канешне, — а тут... Купілі цукерак, лі-

манаду, як у дзіцячым садку. Туга сьмяротная, выць хочацца. Я, праўда, засандаліў паўлітра чарніла, але як! У ціхую, каб ні "дзяды", ні ворагі ня бачылі, інакш пісец! Пасядзеў ля тэліка да гадзіны ночы і лёг спаць. Ну яго нахер, такі Новы год. Санча! Ты толькі ўяві, як мы сустрэнем 1982-гі год. Я аб гэтым спакойна думаць не магу. Але нічога, прыйдзе і наш дзень. А зараз — служба. Штодзённае ўкалваньне, яшчэ й прачуханку атрымліваеш немаведама за што. Што зробіш — "гусь".

У нас былі вучэньні дывізіі, чатыры дні жылі ў палявых умовах. Дубар, цэлы дзень ваюеш, а ўначы спаць трэба недзе. У машынах не дазваляюць. Паставілі ў зацішным месцы намёт — і спаць. Пакімарыш паўгадзінкі і прачынаесься ад дубару, потым яшчэ трэба на пост ісьці, а гэта зусім пісец. Вось так усю ноч і адпакутуеш, а на раніцу зноў вайна. І так чатыры дні. Затрахаўся страшэнна. А тут, у гэтым месяцы, яшчэ чакаюць нас зімовыя лягеры. Прыкладна месяц будзем жыць гэтак, як вось гэтыя чатыры дні. А потым, недзе ў сакавіку, баявыя вучэньні ў Казахстане, гэта таксама будзе па-кайфу. Але нічога не паробіш, служба ёсьць служба.

Лістоў ад Рудога і мне даўно не было. Маўчыць, зараза.

Вось, хіба, і ўсё. Пішы. Чакаю адказу. Дзімыч.

Салют, Санча!

Нарэшце ў мяне зьявілася магчымасьць адказаць табе. Твой ліст (які ты напісаў прыканцы студзеня) я атрымаў, але адпісаць на яго ўжо не пасьпеў, бо паехаў у зімовыя лягеры. У лягерах было ня

вельмі весела, сам павінен разумець. Амаль цэлы месяц жылі ў лесе, у намётах. Ды й вучэньні былі частымі, затрахаўся страшэнна, але нічога, жывы, усё ўжо ў мінулым. У лягерах першы раз бачыў пуск. Даволі няхіла, калі ракета сыходзіць з напраўляючых. Відовішча ўражвае.

Але лягеры скончыліся, цяпер поўнай хадою ідзе падрыхтоўка да веснавой праверкі. Здаем мы яе недзе прыканцы сакавіка, а там мой жаўнерскі лёс, магчыма, крута зьменіцца. Але аб гэтым рана пакуль пісаць, бо канкрэтна яшчэ нічога невядома, але зьмены будуць дакладна.

А як там тваё жыцьцё? Як служба? Не затрахала яшчэ? Як там Берасьце? Ці ходзіш у звальненьні? Ты ж, як ніяк, сяржант. Трымайся. Да загаду засталося дваццаць дзён. Праўда, гэта будзе ня наш загад, але некалі будзе й наш! Але і гэты някепскі, бо станем "чарпакамі".

Ну вось і ўсё. Трымайся! Пішы. Чакаю. Дзімыч.

Салют, Санча!

Прывітаньне з Урэчча! Прабач, што так доўга маўчаў: сам разумееш, служба ёсьць служба. Рыхтаваліся да праверкі. Вучэньні розныя ды іншая херня. Часу вольнага практычна не было. Ну а зараз здалі праверку і рыхтуемся да выезду на дзяржаўны палігон. Паедзем мы недзе 15-га траўня, а вернемся прыканцы лета. Будзем мы ў Казахстане каля двух з паловай месяцаў. Жыцьцё чакае нас вясёлае. Удзень градусаў сорак у ценю, а ўночы дубар. Але гэта ўсё херня, галоўнае тое, што час будзе ляцець хутка. Ну вось так я і жыву.

Ну а як ты маешся? Як служба? Ужо "чарпак"! Першы год праляцеў незаўважна. Вось і другі б так прайшоў. Ты там у Берасьці, відаць, балдзееш. Ці плянуеш рабіць дзембельскі альбом? Я дык ня ведаю: раней мне хацелася, а зараз нібыта ня вельмі цягне. Але хутчэй за ўсё буду рабіць.

Вось нібыта і ўсё, што я хацеў напісаць. Пішы пра сябе як мага больш, мне цікава. Калі можаш, дашлі мне фота, я табе сваё таксама хутка дашлю.

Пішы. Да пабачэньня. Дзімыч.

Цісну тваю руку, Санча!

Вось вырашыў напісаць табе ліст. А то ні я аб табе нічога даўненька ня чуў, ды і ты пра мяне таксама. Крыху пра сябе. Справы ў мяне ідуць нармальна, служба няўхільна рухаецца да дзембеля. Нядаўна быў недалёка ад цябе. Мы амаль месяц жылі ў лягерах у Берасьцейскай вобласьці. Засвойвалі новую тэхніку. Напрыканцы жніўня паедзем на дзяржаўны палігон, недзе на пару месяцаў. Вось так у мяне служба й ідзе — у асноўным усё ў разьездах — то тут, то там. Гэта з аднаго боку някепска, час хутчэй ляціць. Са службай нармальна, праўда, і залёты ўжо ёсьць, бяз іх зараз цяжка, ужо ня "гусь" — поўная свабода. У нас тут выпадак адбыўся херовы. Адзін мой кораш, я зь ім з самага пачатку разам — у адной батарэі, у адным аддзяленьні. Ён сам таксама зь Беларусі, з-пад Берасьця. Дык зь ім справы кепскія. Трапіў па п'янцы ў аварыю. У выніку — адна сьмерць — чалавека з грамадзянкі, — і сам цяпер калека на ўсё жыцьцё. Зламіў пазваночнік, ужо адняліся ногі. А кіроўцу пасадзілі на

тры гады — учора быў паказальны суд. Так я зараз, напэўна, да дзембеля "чарніла" ў рот не вазьму, хочацца нармальна адслужыць і вярнуцца дахаты.

Ну вось такія мае невясёлыя навіны. Як ты? Як настрой? Чым займаесься вольным часам, бо вольнага часу зараз, напэўна, хапае. Альбом, напэўна, ужо робіш?

Ну вось і ўсё. Пішы. Чакаю. Да пабачэньня. Дзімыч.

Вітаю, Санча!

Вось зноў вырашыў напісаць табе ліст. Чаму ты маўчыш? На мой ліст не адказаў. Ты яго не атрымаў? Я сам па сабе ведаю, што на другім годзе пісаць лісты ня вельмі хочацца, але сам падумай: я пра цябе нічога ня ведаю ўжо амаль паўгода. Нядобра атрымліваецца. Сябар усё ж, як ні як, мог бы і напісаць. Ці ты думаеш, што мяне на месцы няма, так я на месцы — там, дзе і служыў, там і буду служыць да самага дзембеля. Праўда, прыканцы верасьня я зьеду на месяц або два, але гэта ў камандзіроўку. Напішы крыху аб сваім жыцьці.

Служба ў мяне ідзе паціху, асаблівых зьменаў няма. Хіба што зьмянілася вайсковая спэцыяльнасьць. Цяпер я стаў тапографам, гэта зьвязана з пераўзбраеньнем. Служыць стала значна лягчэй, але разам з тым зьявіліся і свае складанасьці. Лягчэй таму, што цябе ўжо ніхто не ганяе: сам "чарпак", шмат вольнага часу. А цяжкасьці... па-першае, у нас новы камандзір. Габрэй, а такія людзі надзвычай старанныя і правільныя. Новыя парадкі: жыць, кажа, цяпер будзем толькі па статуту. Сочыць за ўсі-

мі, карацей кажучы, спакойнага жыцьця няма. Па выходных днях бегаем па шэсьць-дзесяць кілямэтраў з поўнай выкладкай. І ўсялякая такая хрэнь. Але нічога, паціху пачынаем і да яго прызвычайвацца.

Санча, я тут аднойчы граў на танцах у афіцэрскім клюбе. Ні я адзін, у нас тут гурт складваецца. Дык вось, аднойчы запрасілі збацаць на танцах. Атрымалася ў нас, канешне, ня вельмі. Сыгранасьці няма, але ў цэлым сашло. Галоўнае, паглядзеў, як цывільныя людзі цяпер адпачываюць. Мутарна ажно стала. Сам павінен зразумець.

Вось так я і жыву. Што ў цябе? Як служба? Як настрой? Дамоў ня цягне? Можа, ты ўжо і ў адпачынку быў, ці збіраесься? У мяне пасля камандзіроўкі толькі бліжэй да Новага году вымалёўваецца адпачынак. Але яшчэ не дакладна.

Пішы пра сябе. Вельмі чакаю. З гэтым лістом дасылаю сваю фотку. Дык і ты сваю дашлі. Да пабачэньня. Пішы. Вельмі чакаю. Дзімыч.

Вітаю, Санча!

Атрымаў твой ліст, дзякуй! Нарэшце ты адказаў. Ты пішаш, што і да гэтага напісаў мне два лісты. Ня ведаю чаму, але я іх не атрымаў. З твайго ліста я даведаўся, як у цябе ідзе служба. Пашанцава табе, канешне, што зьезьдзіў дамоў, адвёў душу! У мяне пакуль з гэтай справай глуха. Можа што і атрымаецца да Новага году, але ня зараз. Ты пішаш аб нейкай Лене, пытаесься, ці памятаю я яе. Нешта не прыгадваю, можа гэта тая дзяўчына, якую я бачыў з табой адзін раз на плошчы. Ты з кіно зь ёю йшоў ці яшчэ аднекуль. А так, я яе не памятаю. Але нічо-

га, яшчэ пазнаёмлюся, калі ў цябе зь ёй сур'ёзна. Глядзі — не жаніся! Не рабі гэтага дурнога кроку. Па-мойму, з гэтай справай ня варта сьпяшацца. Хаця, навошта я табе аб гэтым пішу, можа ў цябе гэта проста сяброўка і ўсё, а я раблю далёкасяжныя высновы. На грамадзянцы многія з нашых ужо абзавяліся сем'ямі. Уяві, прыйдзем з войска, а большасьць нашых жанатыя. Туга сьмяротная! Так што глядзі, і ня думай аб гэтым.

Служба ў мяне стала яшчэ больш разьняволеная. Лафа! Амаль нічога ня робіш, у нарад заступіць — дык гэта за шчасьце. Высьпісься, кніжкі пачытаеш, тэлевізар паглядзіш. "Гусем" аб гэтам марыў, а зараз гэта ўжо рэальнасьць. Праўда, у нас зараз новы камандзір, дык ён паддае пары. Усё крычыць, што мы дармаеды, гэта значыць "дзяды" і "чарпакі", маўляў, адны маладыя ўкалваюць. Карацей кажучы, вясёлага ад яго нам мала. Кажа, што жыць будзем па статуту, а хто супраць — таго пасаджу. Вось такія справы. Дык я на ражон ня лезу, ну яго да д'ябла, хочацца нармальна даслужыць. Няма жаданьня з-за нейкага дурня ў турму трапіць.

Але хопіць аб службе. Яна ў мяне і так у пячонцы сядзіць. Дамоў часам вельмі моцна цягне.

А як ты? Санча, я табе сваю фотку даслаў, а ты чаму мне сваю не дасылаеш. У дзембельскі альбом яна мне будзе патрэбная. Так што глядзі, абавязкова вышлі. Я не паверу, што ты на другім годзе службы ня маеш сваіх фотакартак. Так што давай, не затрымлівай з гэтай справай.

Бадай, усё. Пішы. Чакаю. Да пабачэньня. Дзімыч.

Салют, Санча!

Атрымаў твой ліст. Прабач, што не адразу адказаў. Усё неяк часу не было. Апошнімі днямі здавалі праверку, дык кожны дзень быў заняты. Толькі ўчора здалі, і цяпер пачаўся рабочы перыяд. Праўда, хутка мы зьяжджаем у Казахстан. Новы год я буду сустракаць хутчэй за ўсё там.

Ну вось так я й жыву. Дарэчы, мы з табой ужо "дзяды". Засталася драбяза нейкая — паўгода. У нас дзембеля пачынаюць звальняцца з 20 кастрычніка.

Санча, як ты там? Што новага? Фотку я тваю атрымаў, дзякуй. Ты ведаеш, па-мойму, ты не зьмяніўся. Толькі хіба пасталеў. Але гэта зразумела, бо нам з табой ужо па 20.

21-ю сваю дату ты дзе думаеш адзначаць — дома ці на службе? Я дык ня ведаю. Хутчэй за ўсё, зацугляюць мяне тут на ўвесь травень.

Санча, каб ты ведаў, як я засумаваў па сапраўднай музыцы. Ты хоць там, у Берасьці, пры мяжы, слухаеш нешта новае. А я, як пайшоў у войска, дык нічога новага і ня чуў. Вярнуся дадому, адразу куплю сабе апаратуру. Тады ўсё наганю.

Ну вось і ўсё. Пішы. Да пабачэньня. Вельмі па табе сумую. Твой Дзімыч.

# 3.

— А мне падабаюцца вашыя вершы. Увогуле, вы вельмі таленавіты!

Жанчына прамовіла гэта па-начальніцку. Або як настаўніца. Такім роўным упэўненым голасам. Так звычайна кажа той, каму ўсё роўна як успрымуць яго словы, бо ведае, што ніякага пярэчаньня ня будзе.

Жанчына была значна старэйшая за мяне. Можа, гадоў на дзесяць, а то і больш. Яна сапраўды была нейкай начальніцай, бо мела шыкоўны кабінэт. У гэтым вялікім пакоі былі кніжныя шафы, масыўны пісьмовы стол, фатэль, некалькі крэслаў і скураная канапа. На сьцяне вісела карціна, ужо не памятаю, што на ёй было намалявана. Але дакладна не партрэт. Пэўна, якісьці хрэстаматыйны пэйзаж — раніца ў лесе або дарога сярод жыта.

Гаспадыня кабінэту мела ідэальную фігуру. Увогуле, яна была сымпатычнай. Кароткая мадэльная стрыжка. Вялікія грудзі. Прыгожыя цёмныя вочы. І, відаць, узьдзейнічала на мужчын, як валяр'яна на катоў, — апэратыўна і наркатычна.

Яна прысела на канапу і прапанавала сесьці побач. Я й не заўважыў, як зь яе зьнікла кофтачка, вызваліўшы шыкоўныя цыцкі, я нават падумаў, ці

не сылікон гэта. Затым, абняўшы за шыю, яна павала мяне на сябе.

Нeяк аўтаматычна мае вусны пачалі набліжацца да ейных.

— Ня бойся, нікога ўжо няма. Ніхто нам не перашкодзіць.

І тут я разгледзеў яе вочы зблізу. Яны былі аточаныя густым карункам зморшчынак. Але найбольш мяне ўразіла безгустоўнасьць тлустай фіялетавай абводкі вачэй. Зблізку вочы выглядалі страшнымі — вядзьмарчынымі. У адно імгненьне з мэксыканскага мача я ператварыўся ў героя гогалеўскага аповеду. Мурашы пабеглі па сьпіне.

Раптам адчыніліся дзверы і ў кабінэт увайшоў нейкі мужык. Са стосам папераў у руках (квітанцыяў, ведамасьцяў?) і з заклапочаным выглядам вечна занятага справамі заўгаса. Ён абсалютна не зьвярнуў на нас увагі і пайшоў у іншы бок пакоя, выйшаў на гаўбец, нешта там узяў і зьнік з кабінэту.

...Я ўстаў з канапы. На мне былі толькі вялікія, па калена, жаўнерскія майткі. Гэты "заўгас" зусім мяне заблытаў. І што яму трэба было на гаўбцы? Я адчыніў дзьверы і выйшаў у жнівеньскі вечар. Унізе сноўдалі аўтамабілі, па ходніках целяпаліся месьцічы. Нікому не было да мяне ніякай справы.

На яшчэ блакітным небе зырка сьвяціўся месяц. На ім было шмат кропачак, якія ўтваралі ці то словы, ці то малюнкі. Такія кропачкі застаюцца на дарожным квітку ад кампостара.

***

Добры дзень, Алеська!

Толькі ўчора табе напісала і зноў пішу. Я табе, напэўна, ужо надакучыла, як горкая рэдзька. Але, ведаеш, мне ад гэтага робіцца неяк лягчэй. Праўда-праўда... Усе свае непрыемнасьці адразу забываю. Каб ты ведаў, як мне зараз цяжка! Я табе ўсё пазьней апавяду, пад настрой, ці наадворот — калі ён зусім апусьціцца ніжэй ватэрлініі. Аднак абяцаю — усё апавяду.

Алеська, калі ласка, пішы часьцей. Ведаю, я табе надакучыла, але пацярпі. Не пакідай мяне ў гэты цяжкі час. Толькі ты не падумай чагосьці кепскага (у тым сэнсе, чаму ў мяне такі паганы зараз настрой). Кожны чалавек калісьці бывае псыхічна прыгнечаны. Вінаватая ў сваіх праблемах толькі я сама.

У апошнім лісьце ты пытаесься пра мае "амурныя справы". Ня буду падманваць, былі "спробы рознага маштабу і зьместу", але нічога сур'ёзнага. Нават з Сіманчыкам сустракалася, але толькі таму, што ён вёў у нас практыку. Потым быў адзін сьмешны (не паверыш) уетнамчык: прыяжджаў на наш завод на практыку, студэнт БПІ. Ён мне ўсе курсавыя па мэханіцы зрабіў, шкада — у жніўні зьяжджае на радзіму. Вось такія былі кавалеры. На лепшае пакуль не шанцуе.

А вось ты, дарагі, падзяліся сваім сакрэтам. Жаночым сэрцам адчуваю, што ёсьць тут нейкая таямніца.

Ды ладна, ня хочаш — не пішы. Цалую, абдымаю. Лена

P.S. Я табе хутка зноў напішу. Прабач.

***

Учора ледзь ня сеў на гаўптвахту.

Былі ў нас вучэньні на тактычным полі на беразе невялікай рачулкі. Усё як мае быць. З поўным укамплектаваньнем і нават з боезапасам: выбухпакеты, ракетніцы і халастыя набоі да АК. Тры разы адпрацоўвалі захоп варожага пляцдарму. І кожнага разу ўшчэнт разносілі ворага і ўляталі ў яго акопы як лятучыя гусары. Праўда, два разы адкочваліся назад, бо нешта рабілася ня так: ня тыя каманды або недакладная іх пасьлядоўнасьць; ня так беглі, ня так стралялі. У калектыве ўсе павінны прытрымлівацца пэўных агульных правілаў, інакш будуць праблемы ва ўсіх. У нас непаразуменьні ўзьнікалі з-за трох-чатырох "гальмароў", якія маглі пабегчы ня ў той бок або даць чаргу ў сьпіну сваім. Калі мы адкочваліся назад, найбольш нэрвова паводзіў сябе Гусак. Ён высьпяткамі гнаў на зыходную пазыцыю гора-ваякаў. Пры гэтым мацюкаўся так, што ўсё даслоўна можна было пачуць на другой лініі ўмацаваньня ворага.

Стаяў ліпень. Бязьлітасна паліла сонца. Хацелася проста паваліцца на траву і глядзець у неба. Заняткі праводзіў намкамроты. Ён сачыў за намі з назіральнай вежы.

Нават калі мы канчаткова захапілі варожыя ўмацаваньні, нашыя вучэньні не спыніліся. Амаль адразу, без адпачынку, мы пашыхтаваліся і паўзводна пачалі выконваць нарматывы па адзяваньні супрацьгазу і камплекта хімічнай абароны. Каманда "газы" ў мяне асабіста выклікала нэрвовы цік. У такую сьпёку ды ўлазіць у гэтую сьмярдзючую гуму! Лепшага зьдзеку не прыдумаеш!

Такім мазахісцкім спосабам трэнераваліся, аж пакуль не згубіў прытомнасьць адзін з гора-ваякаў. На гэты раз Гусак выдзьмуў зь сябе радасныя гукі, як дыназаўр, упаляваўшы здабычу: "Ну нарэшце! Зае...ісь!" Цяпер ён ухваляў аднаго з "гальманутых", бо сваім дзеяньнем той прынёс палёгку ўсім. Пакуль адкачвалі Красьніча, а гэта быў зноў ён, усе пападалі на траву. І я таксама. Але намкамроты загадаў не ляжаць на зямлі. І мы пачалі ўставаць як піраты-прывіды Карыбскага мора, якія ніяк не маглі дамагчыся свайго спачыну.

Байцы пацягнуліся да ракі. Хтосьці абмыцца, хтосьці проста пасядзець на беражку. Я прайшоў далей і выйшаў на мост. Мост быў трывалы і шырокі — па ім езьдзілі танкі. Нахінуўся праз парэнчы, пачаў разглядаць плынь. Рачулка была неглыбокай. Вада празрыстай — добра былі бачныя віхлястыя хвасты водарасьцяў і сьпіны галаўнёў. Гэтыя рыбы дзіўным чынам, амаль не варушачы плаўнікамі, стаялі на адным месцы на самай быстрыні. Як тарпэды. Ня ведаю, чаго мне бзікнула, але я дастаў з супрацьгазавай сумкі ракетніцу і пальнуў па рыбах. Выбух атрымаўся такі, нібыта фугас скінуў варожы мэсэршміт. Слуп вады выкінула ўгору. Прычым, вада фантанавала яшчэ некалькі хвілінаў.

— Бля! Хто страляў? Хто страляў? На гаўптвахту засаджу, гада! — пачуў я шалёны голас намкамроты. На мосьце ўжо стаяла чалавек пяць-шэсць. Таму кожны зь іх мог пальнуць па "тарпэдам".

— Я страляў, — сказаў я малодшаму лейтэнанту, які падбег неўзабаве.

— А ты ведаеш, што магло зрыкашэціць ад вады і патрапіць у каго-небудзь з нашых! А магла ракет-

ніца і ў лес заляцець, надарыўся б пажар!

Я маўчаў: што мог сказаць у адказ? Ясна, я ня ведаў, што магло зрыкашэціць. Але і апраўдвацца не было ніякага сэнсу. Ды й ніякай лёгікі не было ў гэтым стрэле. Хіба цікаўнасьць.

— За тое, што прызнаўся, дарую. Але памятай: наступны раз пойдзеш на пяць сутак сухарамі дзяліцца з пацукамі. Зразумеў?

— Так точна, таварыш лейтэнант!

— Глядзі мне, бля!

Я паглядзеў уніз з моста на раку. Ну і намуціў. Нічога не відаць. І галаўні, дзякуй Богу, усе жывыя — ня бачна, каб хто ўсплыў дагары чэравам.

***

Прыйшлі адразу два лісты ад Ленкі. Вось адчуваў, будуць зь ёй праблемы. Гэта як кацяня падабраць на вуліцы. Абагрэць, памыць, накарміць, прылашчыць. Праз нейкі час глядзіш — і кацяня ўпэўнена займае новую жыцьцёвую прастору, і ты прывыкаеш да яго, як да нечага неабходнага і дадзенага звыш.

Нельга больш за тыдзень мець адносіны зь дзяўчынай. Але і не адказваць на яе лісты — не па-джэнтльмэнцку. Ды й шкада губляць такую карэспандэнтку; у войску ліставаньне, бадай, адзіная сувязь з цывільным жыцьцём, адкуль цябе сюды закінула.

— А нафіга ты бабахнуў па рэчцы?

Гусак побач са мной укладаў па ўсіх правілах сваю хэбэшку на ўслоне. Рота рыхтавалася да адбою. Гэтае ўкладаньне — адзін да аднаго, што ро-

быць у якім-небудзь “Big Stary”, дзе тавар павінен быць супэрпрэзэнтатыўны.

— А табе якая справа?

— Проста. Мне б і ў галаву такое не прыйшло. Блін, шандарахнуць з ракетніцы ў камандзіра на вачах. Добра яшчэ, што...

— Слухай, не чапай больш Красьніча.

Гусак па-гусачынаму паглядзеў на мяне — выцягнуўшы шыю.

— Красьніч твой зямляк, ты ў яго спытай, можа ў адным мікрараёне ў Менску жывяце, можа ў суседніх школах вучыліся.

— У труне я бачыў такога земляка.

Ясна, гэтаму пітэкантрапу цяжка было што патлумачыць. Такія разумеюць толькі мову вайсковай дыпляматыі.

— Ну тады наступная ракетніца можа трапіць табе ніжэй пояса.

Гусак выпрастаўся — у сто разоў прасаваных жаўнерскіх майцы і майтках ён быў падобны да сапраўднага нэандэртальца: доўгія рукі, нейкі непрапарцыйны чэрап і густое валасяное покрыва па ўсім целе. Карацей, ня з нашага часу.

— Ты такі сьмелы, што маеш землячка “замка”.

Гусак, калі б захацеў, проста размазаў бы мяне па казарме.

— Здагадлівы. Дабранач.

Я павярнуўся да яго сьпінай і пашыбаваў да свайго ложка. Праз некалькі крокаў спыніўся, павярнуўся і дадаў:

— У нашай мясцовасьці зямляк земляку брат. Дабранач!

***

Красьнічу лепш увогуле было не хадзіць у войска. Габрэйскай нацыянальнасьці. Маленькага росту. Са слабой фізычнай падрыхтоўкай. Зь недаровым выхаваньнем. Грымучая сумесь для маладога салдата. Да таго ж, ён быў падобны да сябрука Нязнайкі — Тарапышкі. Ад таго, што дужа стараўся, усё ў яго атрымлівалася наадварот. Калі ён зьбіраў аўтамат, мне заўжды здавалася, што зараз атрымаецца сенакасілка. Калі ўсе вымалі кляпан у супрацьгазе і вольна дыхалі паветрам, дык гэты старанны хлапец трэніраваўся з кляпанам, пакуль не губляў прытомнасьці. Або так адчайна бег на варожыя акопы, што пры гэтым абавязкова губляў магазін ад аўтамата. І тады ўся рота прачэсвала тактычны палігон, каб той магазін знайсьці.

Больш за ўсіх з Красьніча зьдзекваўся Гусак, але хапала і іншых ахвочых. Падобнае калектыўнае зьдзекваньне ператварала чалавека ў зацкаванага зьвярка, які кіруецца толькі інстынктамі і страхам. Проста жахліва было глядзець, як Красьніч есьць у сталоўцы — пасьпешна, похапкам, зь нейкімі шалёнымі вачыма, нібыта вось-вось нехта, дзеля зьдзеку, адбярэ місу з недаедзенай кашай.

Часам я і сам быў гатовы паставіць Красьніча да сьцяны, кляцнуць затворам і... Гэта была ўжо гуманітарная катастрофа — трэба было яе разьвязваць.

***

Пра тое, што яны нас заатакуюць сёньня ўвечары, ведалі ўсе. З нашага боку поўным ходам ішла падрыхтоўка. Старшына на БТРы прывёз штабэль цынкаў з набоямі. Тое, на што не хапіла месца ў ражках, я пазапіхваў у кішэні. Кожным пятым набоем у мае магазіны лёг трасэр, ён дазваляў ня проста паліць у пэўны бок, а прыстрэльвацца, бачыць, куды ляцяць твае кулі. Я б узяў які дзягцяр, але цягаць такую жалязяку было не ў маёй камплекцыі. Аднак усё адно: кулямёты — мая слабасьць.

Раптам з нашых акопаў выскачыў Красьніч і, узьняўшы над галавой нейкую белую анучу, няўпэўненым крокам пашыбаваў у бок непрыяцеля.

— Стой, гандон, ты куды! Застрэлю, суку! — зароў Гусак, ускінуўшы свой "калаш".

Я ўдарыў рукой па рулі зьнізу і аўтаматная чарга прашыла воблака, якое вісела над нашымі пазыцыямі.

— А табе была каманда страляць?! — гэтак жа дзіка зароў я на Гусака. — Можа, так заплянавала камандваньне, каб падмануць ворага!

Гусак сумеўся. Ён апусьціў аўтамат руляю долу і нечакана даў яшчэ адну чаргу, сабе пад ногі. Пасьля чаго ён па-вар'яцку заскакаў нейкі рытуальны індзейскі танец, кінуўшы свой аўтамат на бруствэр акопа.

Пакуль усе ўтаймоўвалі Гусака, Красьніч зьнік з далягляду. Колькі я не ўзіраўся ў варожы бок, там не было відаць ніводнай чалавечай постаці.

— Ну што за дзень сёньня! — з горыччу сказаў Паддубскі, які трымаў Гусака за галаву.

Нэандэрталец ляжаў на траве за акопам, яго трымалі ў незварушным стане чалавек пяць.

— Трымайце, хлопцы, мацней, а то ён нас перастраляе ўсіх, — сказаў я байцам. І зноў пачаў узірацца ў варожы бок. Пачынала зьмяркацца. Задушлівы дзень канаў на вачах і нараджаў расплывістыя відзежы. Было ўсё больш складана што-кольвечы разгледзець.

— Ты глядзі, каб ён язык не прыкусіў, — сказаў я Паддубскаму і кляцнуў затворам.

— Ты што?! — варачыў вочы Паддубскі. — Ён не такі ўжо кепскі чувак! З кім не бывае!

— Пайду пагляджу, што там з Красьнічам. Толькі па мне не пальніце.

Я лёгкім скачком узьняўся на бруствэр і выпрастаўся. І тут я заўважыў Красьніча. Ён, трымаючы аўтамат на плячы, вяртаўся назад.

Стоячы на бруствэры, дачакаўся "парлямэнтэра".

Падышоўшы мэтраў на дзесяць, Красьніч паказаў рукой назад і сказаў:

— Там нікога няма!

— А якога хрэна туды цягаўся? — раззлавана спытаў я.

— Праверыць.

# Ч.

Дарагая Алёнка!

Дзякуй, што ты не забываеш салдата і пішаш яму рэгулярна і шчыра. Увогуле не чакаў ад цябе такога эпісталярнага спрыту. Прабач, калі я не пасьпяваю за табой. Усё ж я моцна заняты — на баявым пасту ахоўваю твае мірныя, дзявочы сны.

Зацягнулі мяне ў гэтую сяржанцкую вучэбку падманам. Спыталі, ці хачу я быць камандзірам. Ну а хто ня хоча быць камандзірам? Як Чапаеў. На баявым кані. Але ніхто не патлумачыў, што гэта будзе надта вясёлая вучоба. Карацей, цяжка ў вучобе — лёгка ў баі. А баі ў нас кожны дзень. Праўда, вучэбныя. Добра, што яшчэ прызвалі ўвесну. Ня ведаю, як тут пакутвае асабовы склад восеньскага прызыву. Цяжка поўзаць па сьнезе.

Мяне насьцярожваюць навіны пра тваю вучобу. Падобна, ты зусім адбілася ад маміных рук. Але адукацыю ўсё адно трэба мець, бо ў нашым ваўчыным сьвеце не пражывеш без дыплёмнай кніжачкі. Так што, ты перагледзі сваё стаўленьне да вучобы. Мусіш, празь не хачу, грызьці нікому непатрэбную навуку. Бо тая навука, папраўдзе, патрэбная толькі навукоўцам. Нешта не заўважаў, каб мой бацька, просты інжынэр, скарыстоўваў у сваёй працы тэарэтычную мэханіку, гідраўліку ці які супрамат. Але

не нам усталёўваць жыцьцёвыя правілы. Трымайся. Я ў цябе веру.

У мяне ніякіх асаблівых навінаў. Як аматара-палеантоляга мяне тут зацікавіў адзін аб'ект. Буду вывучаць. Пра вынікі досьледаў па магчымасьці паведамлю.

Часта сьніцца цывільнае жыцьцё. Бывае прачынаесься і ня можаш зразумець, дзе ты.

Гэты ліст дашлю табе праз цётку. Павінна ў нядзелю да мяне прыехаць. Я адмыслова купіў пачак канвэртаў з маркамі. Не люблю, калі мае лісты чытае нехта чужы.

Пакуль.

P.S. Ледзь не трапіў на гаўптвахту. Але пра гэта дакладна пісаць нельга. Калі-небудзь распавяду пры сустрэчы.

***

Руды цішком узяў бацькоўскі "жыгулёнак". Вырашыў пакатаць сябрукоў, зьезьдзіць да дзяўчат. Асабіста я не пад'юджваў яго на такі подзьвіг. І сам ніколі не паддаваўся на падобныя прапановы. Ня столькі баяўся рэакцыі бацькоў, колькі магчымых трагічных здарэньняў. Бо, ясная справа, у такіх прыгодах абавязкова прысутнічае алкаголь і юначая бравада. Маўляў, паглядзіце, які я круты, — пакрасавацца перад дзяўчатамі. Руды любіў пускаць пыл у вочы.

Была позьняя восень, зьмяркалася рана. Таму ўся апэрацыя па ўгону аўто прайшла ціха і непрыкметна. Было нас трое — яшчэ Толік Субач.

Ганяць па цэнтральных вуліцах нашага горада мы ўсё ж не насьмеліліся. Толік прапанаваў паехаць на танцы ў суседні гарадзкі пасёлак Пліса. Я ведаў, што самая вялікая рызыка ў гэтым жыцьці — гэта трапіць не на свае танцы. Але Толік сказаў, што мае там процьму сяброў і таму бясьпеку нам гарантуе. Толік быў пацаном адказным.

Люблю ўвечары ехаць на машыне. Калі на вуліцы ўжо золка, калі сьвятло імкліва зьнікае і цемра сьціскае сьвет у сваім кулаку. А ты ў салёне аўто зусім недаступны гэтай бязьмежнай, касьмічнай цемры. Тут утульна і цёпла. А сьвятло фараў надае твайму шляху акрэсьленую ўпэўненасьць.

Як файна ехаць уначы! І яшчэ ўключыць якуюнебудзь прыемную музыку — Fleetwood Mac ці Electric Light Orchestra. Ды яшчэ ў кампаніі найлепшых сяброў.

За рулём сядзеў Руды, праваруч, за штурмана і правадніка да Плісы, — Толік. Ён нешта ўвесь час балаболіў — нешта апавядаў, жартаваў, так бы мовіць, быў на разагрэве. Я яго абсалютна ня слухаў; усе ягоныя гісторыі добра ведаў на памяць. Палове зь іх не даваў веры. Але тое, што Толік быў самым дасьведчаным з нас, — гэта была праўда.

У мяне нарадзілася ідэя пісаць вершы за рулём уначы. А чаму і не? У гэты час абстрагуесься ад усяго дзённага, мітусьлівага. Твае пачуцьцёвыя рэфлексіі, слых, зрок разьнявольваюцца, а думкі губляюць прыземленасьць. Да таго ж хуткасьць надае вершаваным радкам адмысловую рытміку.

Цісьнеш на аксэлератар і ловіш творчыя імгненьні.

Я заплюшчыў вочы і ўявіў сябе за рулём шыкоўнай машыны з прымацаваным ля вуснаў мікрафонам, як у якога-небудзь касманаўта, які махае рукой у аб'ектыў камэры і перадае вітаньне ўсяму сьвету. Бо паэтычныя знаходкі за рулём лепш запісваць на дыктафон.

— На, глыні, — гэта Толік павярнуўся да мяне і працягнуў адкаркаваную пляшку партвэйна. — Ведаеш, някепскі партвэйн.

— А ты добра пакаштаваў? — спытаў я сябрука.

— Ну ты зноў пачынаеш перабіраць. Я ж не гарэлку табе прапаноўваю. Ведаю тваю пераборлівасьць.

Я ўзяў ёмістую пляшку 0,7 і глынуў зьмесьціва. Віно было цёплае, таму пілося кепска.

— Толькі Рудому не давай. Нам яшчэ вяртацца назад. Ці вы думаеце, заначуем у Плісе?

— Усякае можа быць, — таемна прамовіў Толік. — Усё будзе залежаць ад мэтэаралягічнай абстаноўкі.

— Мы ж не самалёт, каб нам не далі дазвол на ўзьлёт з-за навальніцы, — пажартаваў я.

— Ага, самалёт угнаць складаней, — пагадзіўся са мной Руды.

І мы разам бесклапотна, задаволеныя сабой, зарагаталі.

— Тут павярні з шашы і неўзабаве будзем на месцы, — Толік згадаў пра свае штурманскія абавязкі.

Руды, амаль ня скідваючы хуткасьці, зьмяніў курс так, што нас усіх моцна хітнула ў левы бок.

— Гэй, Руды, мы ж не на трасе Дакар-Парыж! Культурней! — зрабіў я заўвагу кіроўцу. — Няма

куды сьпяшацца. Ня думаю, што нам ня хопіць квіткоў на танцы.

Мы незаўважна заехалі ў гарадзкі пасёлак, абапал дарогі пайшлі прыватныя дамкі з прысядзібнымі дзялянкамі.

— Вунь там, за гэтымі дрэвамі яшчэ раз павярні, і будзем на месцы, — Толіку не цярпелася кагосьці пабачыць.

— Слухайце, давайце наш "жыгуль" паставім на больш надзейным аэрадроме, а не перад самім Домам культуры. Так бы мовіць, з тактычных меркаваньняў.

Гэтая мая прапанова нарадзілася неяк спантанна, я нават ня мог патлумачыць дакладна, чаму ня трэба было сьвяціць наш "жыгуль" на публіцы.

— А Джагер па справе гаворыць, усялякай п'яні там назьбіраецца, а пасьля як я буду бацьку тлумачыць, адкуль у "жыгулёнка" прабоіны на борце.

Руды падтрымаў маю прапанову. Толіку нічога не заставалася, як з намі пагадзіцца.

Машыну мы пакінулі мэтраў за трыста ад тутэйшага Дома культуры. Дапіўшы пляшку партвэйна, — дасталося крыху і Рудому, — мы пашыбавалі на сьвятло ДК.

Як звычайна для такіх установ такой пары, ля ўваходу боўталася некалькі асобаў у нетанцавальнай форме. Двое зь іх палілі, а трэці ім нешта няўцямна даводзіў. Ці пра тое, што ведае, дзе можна дабавіць, ці штосьці апавядаў са свайго цяжкага жыцьця.

Мы ўзьняліся на ганак ДК. Толік павітаўся з тройкай абарыгенаў як са старымі знаёмымі. Тыя яму нешта вяла адказалі.

У фае было накурана і шумна. Гамана людзей як бы ўзмацняла дымавую шчыльнасьць. Ня верылася, што ў гэтым г.п. магло жыць столькі моладзі. "А што там робіцца тады ў сярэдзіне?" — падумаў я.

Толік пашыбаваў адразу да касы і вельмі хутка вярнуўся з трыма квіткамі.

— У гэты вечар танцуем за мой кошт, — шчодра прамовіў ён. — І яшчэ адна прыемная навіна: сёньня грае Золатаў са сваёй бандай.

Золатава я добра ведаў, бо жыў ён са мной у адным раёне, і я даўно чуў пра яго выбітныя музычныя дасягненьні. Але штосьці ня вельмі верылася, што яны на столькі выбітныя. Сёньня была магчымасьць пачуць ягоны бэнд на свае вушы.

— Ну што, рушым у сярэдзіну, — сказаў Толік гасьцінна і, як гарсон, з паклонам паказаў рукой шлях да ўваходных дзьвярэй.

Першым пайшоў Руды. Мы з Толікам утваралі ягоны тыл.

У сярэдзіне і праўда было шмат людзей. І як толькі мы ўвашлі, загучала музыка. Гэта была перароблена энімалсаўская песьня Hause of The Rising Sun. Толькі Animals граў яе трохі хутчэй. Золатаўскі бэнд зрабіў з яе сьлязьлівы "мядляк" зь нейкім банальным расейскім тэкстам. У цэнтры "танцпола" пачалі зьяўляцца першыя пары. Толік імкліва зьнік, і неўзабаве мы ўбачылі яго сярод віхляючых целамі, пад гітарныя рыфы і галасок вакаліста, танцавальных параў. Цяжка было добра разгледзець, каго ён запрасіў. Гэта была дзяўчына досыць высокага росту, амаль роўная з Анатолем, з даўгімі, распушчанымі на плечы, русымі валасамі.

— А вам, чувакі, лепш адсюль хіляць. Ваш кораш ужо ня першы раз заляцаецца да Ксюхі, а за гэта могуць быць праблемы зь Селяй.

Я павярнуўся. За сьпінай стаяў абарыген у добра зацяганым — чырвоным у чорную клетку — швэдры. Белыя рэдкія валасы былі залізаны на непаслухмяны прабор.

— І наколькі гэта праўдзівая інфармацыя, сэээр, — расьцягваючы слова "сэр" як мага даўжэй, спытаў я яго.

— Праўдзівей не бывае. Я проста Толіка ведаю, таму лічыце гэта сяброўскай парадай.

Чырвоны ў чорную клетку швэдар гэтак жа незаўважна, як і зьявіўся, зьнік.

— І што будзем рабіць? — спытаў я Рудога.

— Ліняць! Што рабіць? Ня думаю, што тут ёсьць нейкая апазыцыя каралю гарадзкога пасёлка. Будзем бітыя!

Мы прыхінуліся сьпінамі да сьцяны, каб хаця б тыл у нас быў надзейны, і пачалі чакаць Толіка.

Ужо праз колькі хвілінаў міма нас, няпэўнай хадою, прасунуліся нейкія два мудзілы, як бы знарок чапляліся за нашыя ногі. Па іх тварах было бачна, што яны прагнуць з намі пазнаёміцца бліжэй. Гэта быў кепскі знак.

— Слухай, ідзі рыхтуй тэхніку да адступленьня, а я забяру гэтага танцора, — сказаў я Рудому. — Я сьвісну, калі падаць карэту.

Сытуацыя, відавочна, накалялася.

Руды, як можна асьцярожней, пачаў рэціравацца і зьнік за дзьвярыма.

Я стаў прасоўвацца ў цэнтар зала, дзе танцаваў Анатоль. Калі да яго заставалася мэтраў пяць, хто-

сьці з танцуючых моцна штурхнуў нашага штурмана. О-о-о, гэта быў забаронены прыём! На вачах у дзяўчыны абразіць! Анатоль кінуў танчыць. Далей ўсё вырашалі сэкунды. Я падскочыў да Толіка і выгукнуў яму на вуха:

— З Рудым праблемы!

— Дзе?

— На вуліцы.

Мы, расьпіхваючы ўсіх на сваім шляху, пачалі прабірацца да выхаду. Бакавым зрокам я заўважыў, што сьледам за намі выбіраліся чалавек шесьць-сем тутэйшых.

Выскачыўшы на ганак ДК, Толік спытаў:

— Дзе ён?

— Ля машыны.

Мы што моцы пабеглі ў бок пакінутага "жыгулёнка". Я моцна сьвіснуў. У гэты ж час пачуў, як завёўся рухавік і наш "жыгулёнак" задняю хадою пачаў набліжацца нам насустрач. Ззаду чуўся моцны голас, нехта крычаў, затым заракаталі дзьвіжкі матацыклаў. Мы ўскочылі ў машыну і з гучным віскатам шынаў рушылі наперад.

— І што было з Рудым? — задыханым голасам спытаў Толік.

— Засумаваў без цябе, — паспрабаваў пажартаваць я.

Але гэта было яшчэ ня ўсё. Рокат матацыклаў пачуўся недзе зьлева. Відавочна, абарыгены паехалі нейкай іншай дарогай напрасткі, каб пераняць нас на выезьдзе на шашу.

— У лепшым выпадку закідаюць камянямі, — паспрабаваў я спрагназаваць далейшыя падзеі.

— О, бляха, мяне бацька заб'е. — Руды ўжо праклінаў той час, калі сеў за абаранак аўтамабіля.

— Паварачвай направа! — скамандваў Анатоль. — І выключы фары.

Мы завярнулі на нейкую прасёлачную дарогу і панесьліся між хмызоў. Дарогу асьвятляў толькі месяц. Нас трэсла і падкідвала як на каўбойскім каніатракцыёне. Затым мы павярнулі яшчэ раз. Затым яшчэ.

Праз хвілін дзесяць, на поўнай хуткасьці, мы ўляцелі ў нейкую гразюку і "жыгуль" трывала сеў на бруха. Нашы з Анатолем спробы выштурхнуць машыну нічога не далі. "Жыгулёнак" толькі шалёна круціў заднімі коламі і раскідваў па ўсёй ваколіцы ліпучае месіва. Перапэцкаўшыся па вушы, мы зноў залезлі ў салён.

— Прыехалі, — пракамэнтаваў я падзеі.

— Ну, што рабіць? Спадзяюся, у гэтым балоце нас ніхто ня знойдзе. Давядзецца заначаваць, а раніцай адшукаем які трактар, — цьвяроза разважыў Анатоль.

— Ну усё, мне канцы, — жаласьліва выдыхнуў Руды.

## Старонкі дзёньніка

***

Каб лепш разумець, на якім ты сьвеце, трэба час ад часу ўступаць у канфлікт з асобнымі важнымі прадстаўнікамі грамадзтва, і табе ўсё дакладна патлумачаць.

***

Нашаму грамадзтву не хапае звычайнай чалавечай спагады. Пра гэта шмат дзе чытаў, але толькі зараз зразумеў.

***

Прачытаў "Стэпавага ваўка" Германа Гесэ. Сапраўды, можна зачыніцца ад звычайнага жыцьця, а затым будзеш адкрываць яго наноў, як новасьвет на Марсе. Толькі ўжо ў тым узросьце, калі гэтыя адкрыцьці ня будуць мець аніякага значэньня.

***

Неяк, калі вучыўся ў сёмай клясе, разам з хлопцамі са свайго двара знайшлі падпрацоўку — езьдзілі да меліяратараў дзерці мох у лесе для нейкіх там іхніх міліярацыйных патрэбаў. Нас зьбіралася цэлая ватага, залазіла ў кодаб якога-небудзь газончыка, які ехаў у стары бор, дзе было шмат імху. Там яго дзерлі і грузілі ў той самы газончык. Затым прыяжджала яшчэ адна машына, затым яшчэ. Той лес пасьля нас выглядаў, як пасьля якога пабоішча паміж войскамі дзікоў і мядзьведзяў. Але не пра гэта... Езьдзіў з намі адзін хлопец. Быў менчуком, прыяжджаў да бабулі на лета. Такі ахайненькі, з моднай прычоскай, як у раньніх ролінгаў. Бачыў яго колькі дзён таму. Сьпіты, зь нейкім шэрым, азызлым тварам. Жахліва!

***

Насамрэч наша жыцьцё пераважна дзеецца ў нашым уяўленьні, нашых марах, нашых снах. Калі думка чалавека, як сцьвярджаюць навукоўцы, рэч матэрыяльная, дык чым тады розьніцца рэальнасьць ад выдумленага?

***

Зорка, якая зіхаціць у дзённым небе, ляціць табе насустрач.

***

Сябры ордэна "Зялёнага Зьмія" любяць крамы, якія адчыняцца першымі і зачыняюцца апошнімі.

***

Пераможцам робіцца ня той, хто першым прыбег да фініша, або выйграў бой, а той, хто перамог дзеля нейкай агульнай справы і хто здолеў узяць адказнасьць за сваю перамогу.

***

Хадзіў з хлопцамі са двара на пікнік у лес. Па дарозе зайшлі на аэрадром мясцовага саўгаса. Паглядзець на АН-2, які часта бачым над сваімі галовамі, — гэтая сталёвая птушка лётае праз наш гарадзкі раён у бок возера Судабаль, дзе апрацоўвае палеткі. Самалёты ўсё ж цудоўныя машыны. Нават такі дзядок, як АН-2, глядзіцца файна! Нездарма амаль усе хлопцы ў дзяцінстве мараць быць лётчыкамі. Пакуль жыцьцё не пачынае ім падразаць крылы.

***

У адной кнізе прачытаў, што набліжэньне дажджу можна пазнаць па паводзінах аблокаў: тады аблокі валакністыя, заходзяць адно за другое; кучаравыя, з расплывістымі краямі, зь цёмна-сіняй афарбоўкай іх ніжняй часткі, разарваныя, параскіданыя дробнымі шматкамі; перыста-слаістыя, плывуць нізка, павольна, цемнаватыя, чырвоныя і чорныя пры ўзыходзе сонца.

Колькі разоў такія аблокі засьпявалі нас недзе сярод возера Судабаль, дзе з лодкі лавілі карасікаў. Тады хутчэй веславалі да берагу. На ровары — і ў дарогу да хаты. І тут абрыньваўся дождж. Сярод поля. Схавацца няма дзе. І вецер абавязкова ў твар. І дождж такі, што не дае дыхаць, як быццам бы ты пад вадой і на хвіліну толькі вытыркаесься на паверхню, каб схапіць ротам паветра. І такое паўстае пачуцьцё — што ты натуральная частка стыхіі. Як алешына пры меліяратыўнай канаве, як набрынялыя чорнай тушшу аблокі, як бусьляняты ў гнязьдзе, якое птушкі збудавалі на бэтонным слупе. Дарэчы, у дождж ці прыкрываюць малых бусьлянятаў сваімі вялікімі крыламі бацькі?

***

ведаю, толькі сьнег
здольны захаваць мае пісьмёны
да кожнай кропкі ў шматкроп'і
да кожнай галоснай у тваім імені
да кожнага чыстага аркуша
на якім напішу
што сны мае

гэта адваротны бок
месяца
траўня
у якім нарадзіўся

***

Ёсьць рэчы, якімі нельга валодаць. Гэта я зразумеў у дзяцінстве. А здарылася вось такая гісторыя. Была зіма. Праз вакно я заўважыў, як сініца пнулася залезьці ў мэталёвую трубу-перакладзіну, да якой прываранымі кручкі, каб вешаць бялізну. Я выйшаў на вуліцу, дачакаўся, пакуль сініца зноў залезе ў трубу, хтосьці з мальцаў у двары заклаў адзін бок трубы дашчэчкай, а на іншы я надзеў поліэтыленавы пакет. Вядома, птушка паляцела на сьвятло і трапіла ў пакет. Вырашыў трымаць сініцу ў хаце. Прынёс дадому і зачыніў палонніцу ў скрыні з-пад абутку, зрабіўшы ў накрыўцы дзіркі. А сам задумаўся, як зрабіць клетку. Клетка аднак не спатрэбілася — да вечара сініца памерла. Жоўтабокая прыгажуня няволі не перанесла. Валодаць птушкай не атрымалася. Для мяне гэта была трагедыя. Усьведамленьне таго, што я забіў птушку, мучыла мяне не адзін год. Але ня менш мяне хвалявала пытаньне: чаму яна памерла? Бо ў хаце цёпла, у скрыню я накрышыў хлеба. Чаго ёй яшчэ не хапала? Больш я ніколі не спрабаваў лавіць птушак.

***

Зайшлі з Рудым у цір пастраляць на піва. Ясная справа, я яго "перастраляў". "Ты, Джагер, відаць, у

гурток юнага варашылаўскага стралка хадзіў? — пачаў пацьвельваць Руды. Нікуды не хадзіў. Можа, проста ў мінулым жыцьці быў паляўнічым.

***

Кожны думае так, як яму выгадна.

***

Некалькі разоў задаваў сабе пытаньне: ці змог бы ўзьлесьці на комін нашай цеплавой электрастанцыі? На коміне з вонкавага боку ёсьць прымітыўная лесьвіца — з мэталічных скобаў. Во, напэўна, дзе далягляд адкрыецца. Бо комін той відаць ажно з Судабальскага возера.

Два разы задаваў сабе такое пытаньне і два разы адказваў: не, на такі сьмелы ўчынак наўрад ці хапіла б духу.

***

што можа быць складаней
за зьбіраньне пазла
зь лістоў вярбы
што расце ў парку
над таемнай лавачкай
якую ведаеш
толькі ты
і яшчэ адзін чалавек
імя якога
ня можаш назваць

як не ўкладай
вузкія зялёныя
лісточкі
не атрымліваецца
патрэбны малюнак
нібыта паміж
рэальнасьцю
і тваімі мроямі
няма аніякай
сувязі

***

Некалькі дзён не магу чытаць кнігі. Усё напісанае ў іх здаецца мне штучным, прыдумкай аўтара, за якой нічога не стаіць. Навошта мне іхнія гісторыі, якія падобныя на кветкі з паперы і плястмасы, калі жыцьцё штодзень задае процьму пытаньняў, на якія няма адказу ў кнігах. Няхай сабе ў алегарычнай форме, няхай у мастацкіх вобразах. А прыгоды і здарэньні герояў лепш паглядзець у кіно. Я нават у нейкай разгубленасьці. Якой павінна быць кніга? Ну, ясна, — не банальным даведнікам і не прымітыўным апісаньнем нават самага крутога сюжэта. Яна павінна чараваць мастацкасьцю, але пры гэтым не павінна ўзьнікаць пачуцьця, што гэта выключна прыдумка аўтара. Пісьменьніку трэба ісьці па горных вяршынях, імкнучыся не завальвацца ані ўправа, ані ўлева.

# 5.

“Замок” Косьця Бараноўскі сапраўды быў маім земляком. Мы вучыліся зь ім у адным тэхнікуме, толькі ён на курс раней, і, адпаведна, на год раней Косьця быў прызваны ў войска. Скончыў тую саму вучэбку, пасьля якой яго пакінулі ў роце за сяржанта-настаўніка — навучаць салаг. Ніякай асаблівай палёгкі ў службе ад гэтага я ня меў, але, трэба прызнаць, сяржанцкі склад нашай роты мяне маральна не даставаў. Нейкая адмысловая дыстанцыя трымалася. Усе ведалі, што я зямляк Косьці Бараноўскага, разам зь ім вучыўся, і гэтага было дастакова, каб кавалачак ад той павагі, якую за год службы зарабіў Косьця, дастаўся й мне.

Косьця быў вялікага росту, моцнага складу, і ад гэтага нават крыху мядзьведжаваты. Твар яго быў густа засыпаны ластаўчыньнем. Па-мойму, ён крыху гэтага саромеўся. Таму на людзях трымаўся заўжды тэатральна сур’ёзна, без усьмешкі на твары. Хаця на самой справе быў рахманым, вясёлым дзяцюком. Над маладымі байцамі свайго ўзвода ня зьдзекваўся, але і не даваў спуску парушальнікам дысцыпліны. Быў справядлівым камандзірам. І ўзвод яго любіў і імкнуўся не падстаўляць свайго “замка”.

Спачатку цяжка было паверыць, што ён, як і мы, такі ж самы салдат тэрміновай службы, што чакае дзембеля, што некаму піша лісты, што, магчыма, яго чакае на "гражданцы" дзяўчына, і ён сьніць яе ў салдацкіх снах.

Я нават не спрабаваў з Косьцем па-сяброўску зблізіцца, бо былі мы абсалютна рознымі. У тэхнікуме нашы кампаніі не перакрыжоўваліся: ну, бачыліся на перапынках паміж заняткамі, на нейкіх агульнатэхнікумаўскіх мерапрыемствах ды на дыскатэках. Ведалі адзін аднаго ў твар і па імені. Вось, бадай, і ўсё. Цяперашняе маё набліжэньне да яго выглядала б як "падмазваньне" да камандзіра. Ніколі такім не займаўся. Ды і не хацеў у вачах калектыву выглядаць нейкім ад'ютантам пры "замку". Усю агульную службу трымаліся мы зь ім на дыстанцыі, і нават калі па заканчэньні вучэбкі я зьехаў у іншую вайсковую частку — лістоў адно другому не пісалі, і пасля, на "гражданцы", таксама не сустракаліся.

Вось такія ў мяне былі адносіны з "замком-земляком". Хаця, канешне, дзякуй, што ён быў. І калі б мне надарылася чымсьці яму дапамагчы па жыцьці, дык не вагаўся б ні хвіліны. Зямляк заўжды дапаможа земляку.

***

Рота паходным маршам цялёпаецца з палігона. Горача, хаця ўжо сонца ня так паліць. Да таго ж, дарога ідзе па лесе, а тут прыемная засень і прахалода. Пагрукваюць кацялкі, прымацаваныя да салдац-

кай папругі. Чамусьці яны самыя зьвяглівыя. Вось сапёрскія рыдлёўкі, тыя маўчаць. Толькі паляпваюць па сьцёгнах, нібы падганяючы гаспадароў, маўляў, давай-давай, шырэй крок, пара ўжо ў роце быць і да вячэры рыхтавацца. Аўтаматы за плячыма, тыя ўвогуле толькі ў неба ўзіраюцца. Носяць іх на руках. А ўвечары перад адбоем будуць старанна чысьціць кожную дэтальку, кожную спружынку — лашчыць мягкай анучкай, змазваць алівай. А затым — у збройны пакой, на сваё месца, адпачыць, пабачыць сны, астыць ад страляніны.

— Ро-о-о-т-а, бягом марш! — дае каманду Косьця.

Рота марудна пачынае набіраць хуткасьць. Вось тут на нас забразгала ўсё, што толькі можа бразгаць. Як я ненавіджу гэтую каманду. Божухна! Калона хутка распадаецца і неўзабаве самыя моцныя і трывалыя саслужыўцы аказваюцца сьпераду, а слабыя і інтэлігенты — ззаду. Мы з Красьнічам недзе ў хвасьце. Побач бяжыць "замок" і як можа нам спагадае:

— Ну, ну, давайце, давайце, трымайцеся.

Якое тут трымайцеся, калі ногі падкашваюцца і не хапае паветра для дыханьня.

— Дай твой аўтамат, — зьвяртаецца да мяне Косьця.

Пашкадаваў. Хоча паказаць, што ён і з двума аўтаматамі абгоніць усю роту.

— Ня трэба! — нейкая злосьць закіпае ўсярэдзіне.

Прысьпешваю крок. Адчуваю: адкрылася другое дыханьне. Як быццам бы арганізм сам вынайшаў і прымяніў у жыцьцё рацпрапанову, і цяпер усмокт-

вае кісларод з паветра кожнай клетачкай скуры. Боты самі ўздымаюцца ўгору і ляцяць-ляцяць. Абыходжу саслужыўцаў аднаго за другім. Вунь і Гусак маячыць наперадзе. Даганяю яго. Засталося якіх крокаў дзесяць.

— Рота сто-о-о-ой! — ляціць над лесам каманда Косьці.

Усе спыняюцца. Заднія падцягваюцца да пярэдніх.

— Адпачыць дзесяць хвілінаў!

# Частка трэцяя

## 1.

У адпачынак зь Берасьця да Менску я ляцеў самалётам. Ня памятаю ўжо, адкуль узялася такая ідэя. Відаць, хацелася хутчэй дахаты. Папрасіў дзяжурнага па частцы выклікаць таксоўку і як сапраўдны намесьнік камандзіра ўзвода, рэальны ўжо старэйшы сяржант, паважаны падначаленымі (і за гэта ня вельмі шануемы камандаваньнем), сеў у пацёхканую "Волгу" з шашачкамі па баках і годна прамовіў таксысту: — Аэрапорт.

На ўзьлётным полі чакаў маленькі "Як", у салёне якога панаваў поўны розрух. Нібыта гэты "Як" на штодзень займаўся нейкімі гаспадарчымі перавозкамі, але нечакана пілётаў папрасілі падкінуць некалі чалавек да Менску. У палёце трэсла, гуло і калаціла. Добра, што мой арганізм не паддаецца на такія рэчы. Пасля выпрабаваньня ўнутранымі авіялініямі, можна прымаць у касманаўты, — падумалася прыканцы палёту.

Аэрапорта "Менск-2" тады яшчэ не было, таму прыляцеў адразу ў Менск. Каб дабрацца да чыгуначнага вакзалу хапіла якіх 15 хвілін. Там сеў на электрычку і праз паўтары гадзіны ўжо пагрукаў у знаёмыя да сьлёз дзьверы.

Было неяк нязручна ісьці па родных вуліцах у вайсковай форме. Ведаю, некаторыя хлопцы падчас

адпачынкаў нават фарсілі сваім убраньнем колеру хакі. Балазе, у нашым кутку горада ніякіх вайсковых патрулёў не бывае. Маўляў, вось які я герой, шануйце і частуйце, бо я сьцерагу чыстае неба над вашымі галовамі. Будзеце кепска мяне шанаваць, то і я буду выконваць свае абавязкі без энтузыязму. Каму ад гэтага будзе лепш? Прыкладна вось так выглядае іхняе бадзяньне па родных палестынах у вайсковым фрэнчы.

У бацькоўскай кватэры я перш-наперш скінуў хакі і апрануў цывільную вопратку.

Вось і дома. Пра гэта сьніў. Пра гэта ў кожным лісьце пісаў Дзімыч. А ўсё аказалася будзённа і проста. Жыцьцё бяз нас не спынілася. Новыя дзеці пайшлі ў нашую школу. Новыя "каралі" апанавалі танцы ў Доме культуры. Новыя дзяўчаты падрасьлі й кружаць галовы хлопцам на Брызгалаўцы.

І толькі кружэлкі ў маёй шафе засталіся тыя самыя. Яны ўпарта чакалі мяне. Яны ведалі, што яшчэ мне спатрэбяцца.

# 2.

Быў надзвычай пагодны дзень. Сонца сьвяціла мяккім і лагодным сьвятлом. Я ішоў невядомым шляхам — дарога кружляла паміж высокіх пагоркаў і, здавалася, адмыслова рабіла лішнія петлі, каб падарожнік мог як найдаўжэй палюбавацца цудоўным краявідам. Існы было прыемна. Сьпявалі птушкі. Найбольш стараўся жаўрук. Ягоны голас увесь час гучаў над пекным ляндшафтам.

Дарога нарэшце ўзьнялася на ўзгорак і зьнікла. Далей шляху не было, бо ўнізе шырокай паласою ляжаў вадаём. Шырыня яго была недзе мэтраў дзьвесьце. Я пазнаў у ім Брызгалаўку, але ніяк ня мог зразумець — зь якога боку я да яе выйшаў. Горш за ўсё я ведаў тэрыторыю з боку Судабоўкі, але наўрад ці я знаходзіўся ў тых мясцінах, бо, папершае, там няма ніякіх узгоркаў, па-другое, там вадаём больш вузкі і зарослы чаратамі ды аерам. Тут жа быў чысты водны прасьцяг, прычым з надзвычай празрыстай вадой, якая бывае ў Брызгалаўцы толькі ранняй вясною. На мелізьне былі бачныя чорныя сьпіны вялікіх рыбаў, якія ляніва кружлялі амаль на адным месцы, як у стаўку японскага імпэратара.

Я спусьціўся з пагорку на бераг вадаёма і зайшоў у ваду. Вада была цёплая і прыемна лашчыла

ногі. Спрацаваў інстынкт рыбака і я паспрабаваў злавіць адну з рыбін. Удалося гэта вельмі проста, бо яны абсалютна мяне не палохаліся. Я выхапіў з вады першую, што трапіла мне пад руку. Гэта быў ці то карп, ці то лешч, але выгляд меў настолькі жалюгодны, што яго адразу адпусціў. Рыбіна была зусім худая, таму і падалося, што больш падобная да ляшча, да таго ж, у яе па баках месцамі бракавала лускі, а плаўнікі падзертыя, нібыта яна пераадолела сур'ёзныя парогі, каб сюды даплысьці.

***

Мой родны горад быў ужо зусім іншы. За час маёй адсутнасьці ён выкрасьліў мяне са спісу тых, хто значыўся ў яго на забесьпячэньні. Практычна ўсе мае аднагодкі апранулі гімнасьцёркі. Не было нават з кім выпіць "Такайскага". Ясная справа, я наведаў усе знакавыя мясьціны майго былога жыцьця — танцы ў ДК, кінатэатр "Юнацтва" і рэстарацыю "Вясна". Паўсюль я сустрэў сум і запусьценьне. Мяне як быццам выдзерлі з каранямі са свайго куточка ў родным лесе і перасадзілі ў нейкі іншы. Здаецца, усё тое самае — верас, хвоі, бярозы, сыраежкі, мурашнік, мухаморы, лежні зайцоў і сьцежкі дзікоў — але ўсё іншае, чужое. І самае істотнае — Яна ўжо не працавала ў краме "Культтавары" ў аддзеле грампласьцінак. Магчыма, яна перайшла працаваць у нейкую іншую краму, магчыма, увогуле зьехала з гэтага Богам забытага горада.

На трэці дзень адпачынку я амаль не выходзіў з кватэры — слухаў кружэлкі, круціў VEF, гутарыў

з бацькамі. Упершыню я сур'ёзна захваляваўся за сваю будучыню.

Зь цяжкімі думамі я сеў пісаць ліст Дзімычу.

Салам алейкум, Дзімыч!

Не паверыш, але я пішу табе ліст з родных пэнатаў. Так сьпяшаўся дахаты, што вырашыў ляцець самалётам. Дзімыч, калі ўжо ў нас будзе ўласны самалёт, які не раскоша, а сродак пераадольваньня вялікіх адлегласьцяў?

Хачу табе давесьці, што жыцьцё тут бяз нас спынілася. У "Вясьне" сядзяць нейкія барыгі, якім абы напіцца. Танцы апанавалі гопнікі, якія ходзяць выключна сваімі бандамі. Сам па сабе індывідуум зьнік як нетутэйшая форма жыцьця. І гэта ўсё за нейкі год. Дэградацыя чалавецтва паскорылася на вачах!

На танцах ужо ня грае гурт у жывую, а дыджэй круціць з магнітафонаў нейкую тупую музыку. Ты не паверыш! Але гэта так. Дзімыч, я ня ведаю, як вярнуць тутэйшае жыцьцё ў нармальную каляіну.

Мая гітара разладзілася і не паддаецца настройцы. Яна слухаецца толькі тваіх рук.

Вось такі атрымаўся жаласьлівы ліст. Нават зь Печаў нічога падобнага табе не пісаў. Прабач.

Але ня думаю, што ўсё так пэсымістычна. Ёсьць яшчэ жанчыны. Заўтра павінна прыехаць Ленка. З тэхнікуму яна сышла не давучыўшыся. Вярнулася да бацькоў. Зараз недзе працуе ў сваім родным пасёлку. Ня ведаю, ці памятаеш ты яе. Нічога сур'ёзнага ў мяне зь ёй не было. Але гэта, бадай, адзіны блізкі чалавек, які ў мяне застаўся на грама-

дзянцы. Баюся гэтай сустрэчы. Баюся расчаравацца і ў ёй.

Вось такія мае навіны з волі. Воля, брат, яна павінна быць у нас унутры.

Нічога, мы яшчэ здабудзем уласны самалёт і паляцім на Багамы. Так што качай, Дзімыч, торс. Бо сваімі хударлявымі грудзямі перапудзіш на Багамах прыстойную публіку.

Трымайся. Твой Санча з сяржанцкім салютам. Будзь здароў!

# 3.

Найбольш часта прыходзілі да мяне ў войска лісты ад Ленкі. Яна пісала, праўда, з істотнымі правваламі. Часам зьнікала з далягляду на некалькі месяцаў. Але зноў вярталася і сваімі лістамі ўсё больш выклікала трывогу за яе лёс. Калі я зь ёй пазнаёміўся, то ніяк не ўяўляў, што ў гэтай дзяўчыне сядзіць усярэдзіне нейкі ўпарты чалавечак. Што яна здольная на асабісты бунт і прыняцце рызыкоўных рашэньняў, якім ёсьць, напрыклад, сыход з тэхнікума. Наўрад ці насьмеліўся б я пакінуць тэхнікум, бо гэта выклікала б шмат праблемаў. Найперш трэба было вяртацца ў школу, каб атрымаць сярэднюю адукацыю. Бо мы паступалі ў тэхнікум пасьля восьмай клясы. Без сярэдняй адукацыі ўжо немагчыма было падавацца ў ВНУ. Усё гэта ў сваіх лістах я тлумачыў Лене, але яна ўпарта не хацела мяне слухаць. Пісала ў адказ, што прыняла рашэньне і ўжо ня будзе яго пераглядаць. Гэтай сваёй упартасьцю яна ўсё больш мне падабалася. Хаця і ўзьнікалі пэўныя насьцярожлівыя думкі, маўляў, дзяўчына пайшла ў гулі і якая там вучоба. Але думкі гэтыя я гнаў прэч.

Лена была ці не адзіным чалавекам у сьвеце, які ведаў шмат маіх таямніц і сакрэтаў. Яна ведала, што я пішу вершы. Ведала, чым люблю займацца, якія маю пляны на жыцьцё і многа чаго іншага. Я ей да-

вяраў. Хаця, магчыма, мне быў патрэбны чалавек для спавядальнасьці. На гэтую ролю лёс абраў гэтую няўрымсьлівую і няпростую дзяўчыну. Дзяўчыну, якая даўно магла адчаліць ад майго берага, але ўпарта яго трымалася.

## Лісты Лены

Вітаю, мой дарагі салдацік!

Пішу на супрамаце. Бондараў нейкую фігню тлумачыць. 31 сакавіка здаем іспыт.

Я трохі "прыхварэла", сяджу мучаюся. Учора было весела, сёньня ня вельмі. Ня ведаю, што табе яшчэ напісаць. Усё па-старому. У нашым сіці нічога новага.

Пішы, калі ласка, часьцей.

Хацела яшчэ ў цябе спытаць. Калі, напрыклад, я кіну тэхнікум пасьля двух курсаў, ці буду мець сярэднюю адукацыю?

Да пабачэньня. Не забывай мяне.

Салют, мой дарагі салдацік!

Ты ўсім так рэдка пішаш? Але сёньня сьвята, дачакалася твайго ліста.

У мяне справы абы што, дакладней, жахлівыя. Матэматыка мяне даканае. Дакладней, матэматык.

Ды чорт зь імі, няхай адлічаюць. Хоць зьеду куды-небудзь з гэтай глухмені. Так што неўзабаве будзеш мне пісаць на новы адрас.

Уладзя (памятаеш, з твайго раёну), сволач такая, ажаніўся колькі месяцаў таму, а да мяне цягаецца. Я б на месцы яго жонкі даўно такога паўзуна адмяцеліла. Ня думай, у мяне зь ім нічога не было і ня будзе. Чыста сяброўскія адносіны.

Учора з-за яго не пайшла на заняткі. Прыйшоў а дзявятай раніцы (мне на другую пару трэба было) і не пусьціў у тэхнікум, і сам не пайшоў на працу. Напісаў мне тлумачальную, што я нібыта была хворая. А сёньня загадчык аддзяленьня сказаў, што трэба мэдычная даведка. Але я не хвалююся, усё адно мне тут не вучыцца.

Слухай, якія ва Ўладзі запісы!!! Перапісала сабе на маг два альбомы Pink Floyd — Animals і The Wall. Гэта проста цуд! The Wall дык зусім яшчэ сьвежы альбом.

Ведаеш, неяк самой ня верыцца, што неўзабаве ня буду хадзіць у тэхнікум на заняткі. Але я не шкадую. І ўсё ж ніякавата. Столькі ў мяне тут сяброў, шкада зь імі разьвітвацца. Раней я ўжо ведала, што тут ня буду вучыцца, але не было рашучасьці сысці. А зараз ужо і бацькі ведаюць, дык адступаць ад надуманага будзе несур'ёзна.

Жыцьцё нейкае заблытанае. Сама ня ведаю, чаго хачу. Было б лягчэй, каб ты быў побач.

Пішы. Не лянуйся. Да сустрэчы. Лена.

Алеська, добры дзень!

Толькі сёньня атрымала твой ліст. Дакладней, ён прыйшоў у нядзелю. Паштарка паклала яго ў сярэдзіну газэты "Советская торговля", а яе ў нас ніхто не чытае, акрамя сястры. А ўчора яна ўзяла газэту

на працу, разгарнула, а там — твой ліст. Потым пакінула ліст на рабоце, так што ён да мяне трапіў толькі сёньня.

Алеська, дзякуй за парады і ўстаўленьне мазгоў. Але ты не разумееш, як усё надакучыла. Заўтра ўсё вырашыцца. Павінны прыехаць бацькі. Але што яны зробяць? Не хачу — і ўсё. Я сама пакуль нічога ня ведаю. Заўтра я табе абавязкова напішу. Ой, не ўяўляю, што заўтра будзе.

Я, напэўна, табе надакучыла сваімі недарэчнымі лістамі. Да пабачэньня. Пішы. Лена.

Вітаю, Алесь!

Сёньня даслала табе адзін ліст. Пішу другі. Ёсьць на тое прычыны — прыйшла з пэдагагічнай нарады.

У мяне некалі быў канфлікт з матэматыкам. Пасьля чаго мы ўзьненавідзелі адзін аднаго. Ён мне пачаў ставіць адны двойкі, што і працягвае рабіць да сёньня. Уяўляеш? За ўвесь сэмэстар стаялі роўным шэрагам толькі дваякі, нават пашкадаваў хаця б аднаго кволага траяка. Ну вось, а прыканцы сэмэстру па матэматыцы не было ні заліку, ні экзамэну. Таму ён і паставіў мне пару за сэмэстар. Пераздаваць я да яго не хадзіла. Ён мне так і сказаў: можаш зараз і не хадзіць, а ў траўні будзе апошні экзамэн, вось тады за ўсё і спытаю! Ну, думаю, сволач якая. Але вырашыла: пайшоў ён на... Ну а затым усё пачалося. І вось запрасілі мяне на пэдагагічную нараду. Нічога страшнага там не было, хоць маглі адразу й адлічыць. Клясуха была за мяне, дырэктар і загадчык аддзяленьнем увогуле маўчалі. Карацей,

загадалі да першага сакавіка здаць матэматыку. Ня ведаю, што будзе!

Уяўляеш, заходжу ў кабінет і пасьміхаюся. А чаго сумаваць? Фізык, мэханік сядзяць і пасьміхаюцца ў адказ — файныя мужыкі. А матэматык: "Чаго пасьміхаесься?" А мая клясуха кажа: "Яна не пасьміхаецца, проста нэрвуецца". Матэматык і змоўк. Ня ведаю, што будзе далей.

Бачыш, твая сяброўка да чаго дакацілася — на пэднараду выклікаюць. Але нічога! Паспрабую выправіцца. Магчыма, не адлічаць. А ўвогуле, хачу сама забраць дакумэнты. Аднак пакуль не набралася сьмеласьці.

Але хопіць пра мяне. Як ты? Ты нічога аб сабе ня пішаш. І яшчэ: ты ўвесь час спрабуеш замяць пытанне: чаму не высылаеш фотаздымак? Сам абяцаў сходзіць сфатаграфавацца і даслаць. А на самай справе?

Усё забываю спытацца, ці пішуцца ў войску вершы? Дашлі, калі што напісалася.

Усё, пакуль. Пішы хутчэй. Лена.

Салдацік, добры дзень!

Ну ты даеш! Раз я перастала пісаць (бо маю праблем вышэй галавы), дык і ты змоўк.

Я ўвесь гэты час не магла табе пісаць. Ты ўжо прабач. Але чаму ты ня пішаш?

У мяне ўсё па-ранейшаму. У аўторак думала здаць матэматыку. Я яе ў труне бачыла, але гоніць клясуха. Усё роўна нічога ня ведаю.

Пішу са свайго пасёлка. Прыехала да бацькоў.

Нядаўна пазнаёмілася зь нейкім мудаком з вашага раёна. Кажа, што жыве насупраць цябе, завуць Андрэй. Казаў, што вы зь ім увесь час сварыліся. Ён сапраўды мудак і алкаголік!

Больш пісаць няма пра што. Да пабачэньня. Лена.

Мой дарагі салдацік!

Нарэшце атрымала ад цябе ліст.

У мяне нічога новага. Практыка. Потым сэсія. Пра новыя пласьцінкі нічога не магу табе напісаць, бо ня бачыла патрэбных людзей, у каго магла б спытаць.

Хачу папрасіць цябе адну рэч. Не нарабі нічога такога да канца чэрвеня, каб твой адпачынак абавязкова адбыўся. Калі ласачка! Я так хачу цябе ўбачыць!

Шукшын мне ня вельмі спадабаўся. Увогуле, чытаць можна, але каб вельмі захапіла, то не скажу. Мне падабаецца Гэмінгуэй. Трэці раз чытаю "Бывай, зброя". Вось каго чытаць трэба. Праўда, у кожнага свой густ.

Ты па-ранейшаму зьбіраесься пасьля войска паступаць у наргас?

Усё, пакуль. Пішы. Лена.

Вітаю, Алесь!

Прабач, што доўга не пісала. Неяк напісала, але згубіла недзе ліст.

На вуліцы сьпёка. Я ўжо загарэла. Кожны дзень ходзім на Брызгалаўку. Зараз пайду на практыку ў другую зьмену.

У панядзелак здавала экзамэн па матэматыцы. Зноў правалíла. Ня ведаю, што буду рабіць. Матэматык ужо не жартуе. Карацей, залёт мне. Крыўдна, канешне.

Пра пласьцінкі так нічога і не разьведала. Сяструха забараніла мне езьдзіць у твой раён. Мне асабліва пляваць на яе забароны. Але сама зараз не магу.

Што ты, дарагі, пачаў цікавіцца маімі сяброўкамі? Пішаш, каб я табе напісала падрабязьней пра іх. Ну-ну! Адчувае маё сэрца, што ня ўсё так проста. Што ёсьць у цябе нейкая таямніца, але ты ўпарта пра яе маўчыш.

Напішы, калі прыедзеш у адпачынак. Фотаздымак свой я табе не дашлю, бо ўжо пісала, што гэта кепская прыкмета.

Ты так нічога і не адказаў пра вершы. Чакаю.

Пакуль. Пішы хутчэй. Лена.

Добры дзень, Алесь!

Сёньня прыехала да сястры і атрымала ад яе твой ліст. На гэты адрас больш не пішы. Карацей, я сама яшчэ ня ведаю, дзе буду заўтра. Учора езьдзіла ў Менск да старэйшай сястры. Яна кажа, каб я скончыла адзінаццатую клясу вечаровай школы і паступала ў наргас. Я ў разгубленасьці.

Рудога я ня бачыла, чула толькі, што ён зноў прыйшоў у адпачынак.

Не паверыш, але я працую. І ведаеш дзе? У сваім пасёлку на чыгуначным вакзале — мыю падлогу, прыбіраю перон, даглядаю кветнікі... Працую, карацей, галоўнай прыбіральшчыцай! А мне ўсё адно дзе, галоўнае — 75 рублёў заробку.

Пакуль. Цалую. Лена.

Добры дзень, дарагі салдацік!

Ты пішаш, што даўно ўжо сяржант, але для мяне ты ўсё адно салдацік. Пішу табе з дома. Не дачакалася твайго ліста. Справы ў мяне так сабе. Сумна. Сёньня пайду ў кіно "О, шчасліўчык" (ЗША), іду ўжо другі раз. Маці кажа, што здурнела.

У асноўным вольны час праводжу з кнігай. Маці недзе раздабыла Бакачыа "Дэкамэрон". Калі яе няма дома, я чытаю. Калі б яна даведалася, яна б мне пачытала! Бо кніга распусная. Насьмяесься, але многаму можна і навучыцца, хоць і адбываюцца падзеі ў 16 стагодзьдзі. Чалавек за гэты час практычна не зьмяніўся. У Шукшына таксама сьмешна, але тут зусім інакш. Маці кажа, што рана мне яшчэ такія кнігі чытаць.

Увогуле, маці ў мяне клясная. Вось толькі я яе зусім ня слухаюся. Увесь час агрызаюся. Сама разумею, што гэта жахліва, але нічога з сабой не магу зрабіць.

Як там у цябе справы? Пішы хутчэй, бо я памру ад суму. На танцы амаль не хаджу. Няма там чаго рабіць.

Пакуль. Пішы. Лена.

# 4.

З вакна быў бачны ленінградзкі цырк. Сьветлавая афіша паведамляла, што на арэне цырку штодня легендарны клоўн Карандаш. Для мяне Карандаш быў перадусім героем часопіса “Весёлые картинки”. Я ўявіў, як гэты Карандаш, з алоўкам замест носа, выходзіць на арэну ленінградзкага цырку. На маім твары расплылася шырокая, дзіцячая ўсьмешка.

— Чаго лыбісься? — спытаў Руды, ложак якога стаяў побач.

Наша тэхнікумаўская група прыехала ў Ленінград на пару дзён экскурсійным аўтобусам. Пасялілі нас ў самым танным гатэлі. Хаця гэтая начлежка хутчэй нагадвала вайсковую казарму — вялікія пакоі былі шчыльна застаўленыя мэталічнымі ложкамі. Я заняў ложак ля вакна. Праз шыбу да нас у пакой зазіраў сапраўдны Ленінград — сьветлавая рэкляма вялікага горада, мітусьлівы натоўп людзей, бясконцая плынь аўтамабіляў, гукі матораў і кляксонаў і нават зоркі нейкія іншыя ў чыстым небе. Гэта зачароўвала.

— Ды так, згадалася адна гісторыя, — адказаў я Рудому.

— А ведаеш, я хацеў бы жыць у Ленінградзе, — сяблюка таксама ўразіла ленінградзкая рэчаіснасьць.

— І што тут добрага? — мне закарцела пачуць разважаньні Рудога.

— А ўсё добра! Прыгожы горад, шмат магчымасьцяў, не забывай, што тут ёсьць порт, а гэта значыць, марыманы з таварам — джынсы, жуйкі, пласьцінкі. Гэта праз такія вароты ў іншасьвет твае пласьцінкі трапляюць да нас у Саюз, а затым перакупшчыкі іх скупаюць і заганяюць такім, як ты. З добрым наварам. Але асноўныя грошы асядаюць тут.

— А як жа любімая сядзіба дзеда на беразе Бярэзіны? Грыбы ўвосень...

Завершыць сваю думку я не пасьпеў, бо ў пакой заляцеў Толік. Правае вока яго істотна адрозьнівалася ад левага. Яно пачынала паціху заплываць.

— Хлопцы, мяне абрабавалі на вуліцы, — гучна выгукнуў аматар прыгод.

— Хто абрабаваў? — ускочыўшы з ложку, спытаў Руды.

— Ды нейкія ханыгі падышлі, папрасілі закурыць, зацягнулі ў падваротню і абрабавалі.

Чалавек дзесяць паўскоквалі з ложкаў і пачалі апранацца.

— Хутчэй, хлопцы, — прысьпешваў іх Толік.

Гэта было ў стылі Толіка. Як і калі ён пакінуў пакой і пайшоў швэндацца па вечаровым Ленінградзе, я не заўважыў. Але абсалютна гэтаму не здзівіўся. Дзеля падобных прыгодаў ён выкарыстоўваў любыя магчымасьці, ніколі не стамляўся, мог ахвяраваць сном і нават не адной ноччу.

Пачаў апранацца і я, бо пакінуць сябра ў бядзе — апошняя справа.

Наш мабільны атрад "Помста" апэратыўна скаціўся па прыступках на вуліцу.

— Шмат было грошай? — спытаў Руды.

— Дваццаць пяць рублёў — усё што меў, — адказаў пацярпелы.

— Колькі іх было?

— Былі ўтрох, прынамсі, трох я бачыў.

Мы ўсе пабеглі ў той бок, дзе адбылося здарэньне. Мінуўшы пару кварталаў, Толік паказаў на нейкую падваротню — тут. Мяне і Чука пакінулі на вуліцы на выпадак, калі злачынцы выскачаць з падваротні, а астатнія рынуліся прачэсваць тэрыторыю. З Чукам я адчуваў сябе больш-менш упэўнена. Гэты аматар штангі і вольнай барацьбы мог, калі што, даць ворагу дзейснага высьпятку. Ужо было праверана.

— Гэты Толік увесь час некуды ўліпне, трэба было яго прывязаць да ложка, — ці то жартуючы, ці то на поўным сур'ёзе сказаў Чук.

— Гвалт — гэта не гуманна, — я пачаў абараняць пацярпелага. — Затое ён мае вясёлае жыцьцё.

— Вясёлае, канешне: застаўся бяз грошай і зараз будзе нас даіць, — Чук пачынаў дундзець у сваім стылі.

З боку падваротні пачуліся нейкія крокі. Маё сэрца забілася з падвоенай амплітудай.

Зь цемры выйшла дзяўчына. Яна была адна. Восеньская слота толькі ўпрыгожвала яе. Надавала незнаёмцы нейкай кіношнай рамантычнасьці. Дзяўчына была апранута ў стыльнае паліто. Шыю какетліва ахопліваў стракаты шалік. Калі сказаць, што яна была прыгожай — значыць, нічога не сказаць.

Дзяўчына падышла да мяне і такім незямным галасам німфы прамовіла:

— Малады чалавек, а вы не маглі б мне дапамагчы?

Прамовіла, нібыта на вакзале папрасіла паднесьці ёмкую валізу.

Я разгубіўся. А ў Чука акругліліся вочы.

— За вамі, лэдзі, гоніцца банда рабаўнікоў? — я паспрабаваў узяць сябе ў рукі.

— Ды не, — яна гучна засьмяялася, як жанчына з "Брыльянтавай рукі", якая паабяцала Нікуліну паказаць халат з патрэбнымі гузікамі.

— А вы ўжо напужаліся! — яна перастала сьмяяцца.

— Нічога я не напужаўся. Ведаеце, я жыву ў такім раёне, што нічога не баюся. — я спрабаваў неяк выйсьці сухім з гэтай сытуацыі.

— На "Электрасіле".

— Не, яшчэ горш. Але вам, лэдзі, лепш пра гэта ня ведаць.

— Бачу, што вы сьмелы і годны рыцар. Дык дапаможаце мне? — дзяўчына зрабіла крок мне насустрач і стаяла ўжо на адлегласьці выцягнутай рукі.

— А што трэба зрабіць?

— О, зусім дробязь. Перадаць майму прыяцелю вось гэты пакуначак. — Яна дастала з кішэні невялічкую скрыначку, перавязаную шнурком, скрыначка была падобная да футарала ад ручнога гадзіньніка. — Ведаеце, сама зрабіць гэта я не магу. Ёсьць на тое прычыны. Зразумейце мяне.

Наступіла хвіліна маўчаньня. Мой мозг, з хуткасьцю ЭВМ, пачаў пралічваць магчымыя варыянты наступстваў гэтай перадачы.

— Добра. Няма праблем. Такой дзяўчыне нельга адмовіць, — сказаў я нейкім не сваім голасам.

— Вы не хвалюйцеся, тут няма ніякага падвоху, — дзяўчына пачала супакойваць, адчуўшы мае ваганьні. — Трэба проста знаёмаму вярнуць адну рэч.

Увесь гэты час Чук не прамовіў ані слова. Вочы яго па-ранейшаму не гублялі набытай акругленасьці. Зразумеўшы, што я зараз сыду з гэтай таямнічай незнаёмкай, ён усхліпнуў:

— Джагер, нам сказалі тут быць.

— Удзевяцярох, я думаю, вы дадзіце рады. А адмаўляць дзяўчыне ў такой простай справе — гэта нізка.

Я тэатральна нахіліў галаву перад дзяўчынай і прамовіў:

— Я да вашых паслугаў, лэдзі.

— О, сэр, вы ня ведаеце, як я вам удзячна! — яна па-каралеўску пасьміхнулася і дадала: — Тут недалёка.

Я зрабіў салют рукой Чуку і пайшоў усьлед за дзяўчынай. Сэрца маё па-здрадніцку калацілася. Але я супакойваў яго як мог: нічога ня можа здарыцца, нічога ня можа здарыцца...

— А ты забаўны, — сказала незнаёмка. — Ніколі раней у гэтым раёне цябе ня бачыла.

Дзяўчына лёгка перайшла на ты.

Я ніяк ня мог успрыняць яе рэальным аб'ектам. Яна мне здавалася калі не прывідам, дык, прынамсі, галяграмным малюнкам.

— Першыя ўражаньні бываюць падманлівымі, — я вырашыў больш не фантазіраваць пра сваё месца жыхарства, бо абавязкова пракалоўся б.

Мы кудысьці ішлі й ішлі. Я спрабаваў, як следапыт, запамінаць шлях. Вяртацца, як я разумеў, трэба будзе аднаму.

— А што вы там рабілі, на Фантанцы? — спытала дзяўчына.

Відавочна, яе зацікавіла, што маглі рабіць дзесяць хлопцаў позна ўвечары ў нейкай падваротні.

— У майго прыяцеля котка зьбегла, такая прыгожая, пярэстая, мы яе й шукалі зь сябрамі.

Дзяўчына зноў залілася гучным сьмехам.

Яна ўсё больш мне падабалася.

Скончыўшы сьмяяцца, яна гарэзьліва паглядзела на мяне і сказала:

— У цябе нейкі дзіўны акцэнт.

Гэтага пытаньня я чакаў.

— Мы зь сям'ёй прыехалі ў Піцер тры гады таму, сам я зь Беларусі, — не міргнуўшы вокам, схлусіў я.

— Вось мы і прыйшлі. Зараз пяройдзем вуліцу і там наш дом, — яна паказала рукой на вялізны шэры гмах.

"Звычайны ленінградзкі жылы дом", — сказаў я ў думках, супакойваючы сваё сэрца.

Мы перайшлі на другі бок вуліцы і зайшлі ў двор гмаху. Крокаў за пятнаццаць да дзьвярэй дзяўчына нечакана спынілася, так што я наляцеў на яе. Мой нос крануўся яе валасоў і пачуў іх прыемны пах.

— Прабач, — прамовіў я.

— Рыцар, да таго ж галянтны, — досыць дзёрзка адказала яна на маё прабачэньне. Адчувалася, што яна таксама пачала хвалявацца.

Гэтыя словы выклікалі ў мяне ўспышку гневу. Захацелася разьвярнуцца і сысьці. Але я здолеў апанаваць свае нэрвы.

Дзяўчына дастала з кішэні паліто свой пакуначак і працягнула яго мне.

— Узьнімесься на другі паверх. Кватэра нумар сем. Спытай Ігара і перадай яму гэта. Калі Ігара ня будзе, спытай Веру Васілеўну. І папрасі яе перадаць гэта Ігару асабіста ў рукі. Зразумеў?

— Зразумеў.

Я падышоў да дзьвярэй і азірнуўся. Яна засталася стаяць на ранейшым месцы.

Адчыніў дзверы і зайшоў у пад'езд. Пахла вільгацьцю і нечым яшчэ, нейкай камуналкай. Лесьвічная клетка была шырокай і досыць стромкай. Я пачаў уздымацца на другі паверх. Кватэру нумар сем знайшоў без асаблівых праблем. Націснуў на званок. Гук быў хрыплы: ад вільгаці нават электрычныя званкі маюць праблему з голасам. Больш чым хвіліну ніхто не адгукаўся. Затым нешта бразнула і ў пройме дзьвярэй я убачыў мужыка гадоў трыццаці. Ён быў у старым трыко і майцы. Доўгія валасы ўпарадкаваныя ў касічку. На біцэпсах левай рукі заўважыў наколку — быка, паміж рагамі якога прабіваў электрычны разрад.

"Вось яно і пачалося", — сказаў я сабе ў думках. А ўголас, стараўся прамовіць упэўнена і выразна, прывітаўся: — Добры вечар! Мне патрэбны Ігар!

— Яго няма і сёньня ня будзе, — сказаў гэты бык з электрычнымі рагамі.

— А можа ёсьць Вера Васілеўна? — гэтыя мае словы падаліся поўнай лухтой. — Якая Вера Васілеўна, у гэты позні час, для нейкага пацана!

Бык разьвярнуўся і рыкнуў у кватэру:

— Васілеўна, да вас малады чалавек.

Недзе з хвіліну я стаяў на лесьвічнай пляцоўцы адзін.

Затым выйшла клясычнага выгляду інтэлігентная бабулька. Уся сівая, у акулярах, у самаробнай вязанцы.

— Добры вечар!

— Добры вечар!

Я дастаў футурал з кішэні курткі і працягнуў яго бабульцы.

— Калі ласка, гэта перадайце Ігару. Толькі папрашу асабіста яму ў рукі. Ён ведае.

— Добра, перадам асабіста ў рукі, — сказала бабулька, як быццам такія перадачы для Ігара насілі ёй ці не штодня.

— Дзякуй! Усяго добрага!

— Усяго добрага!

Дзьверы зачыніліся. Я зноў застаўся на лесьвічнай пляцоўцы адзін.

"І што гэта было?" — сказаў я сам сабе ў думках.

Разьвярнуўся і пачаў спускацца да выхаду. Я быў упэўнены, што дзяўчыну ў двары не засьпею. Але яна, на маё зьдзіўленне, стаяла на ранейшым месцы.

— Ну што, перадаў?

— Ігара не было, аддаў Веры Васільеўне.

— Дзякуй. Ты мяне выручыў.

— Няма за што. Пусьцяковая справа. А што было ў той скрынцы? — мая цікаўнасьць толькі зараз, калі псыхалягічная напруга спала, праявіла сябе.

— Сакрэт.

Дзяўчына неяк вінавата паглядзела на мяне, маўляў, прабач, сказаць не магу.

Мы пайшлі ў бок вуліцы. Пару хвілін маўчалі. Разьвітваючыся, таямнічая незнаёмка, вочы ў вочы, ужо зусім іншым голасам, прамовіла:

— А ты сьмелы хлопец! Патэлефануй мне, калі будзе вольны час.

Яна працягнула мне кавалачак аркуша ў клетачку, на якім роўным каліграфічным почыркам былі напісаныя лічбы.

— Ты зараз куды?

— Да сяброў, шукаць котку.

Дзяўчына зноў залілася сьмехам. На гэты раз нейкім шчырым і па-дзіцячы задзірыстым.

— Ну, тады посьпехаў.

І працягнула мне руку. Я паціснуў дзявочую далоньку.

— Да сустрэчы! Мне на мэтро.

— Да сустрэчы!

Дзяўчына разьвярнулася і пашыбавала ў супрацьлеглы бок. Крокаў праз дзесяць спынілася, павярнулая і выгукнула:

— Абавязкова патэлефануй!

— А як цябе завуць?

— Патэлефануеш і даведаесься.

Я пайшоў у бок Фантанкі. Супярэчлівыя пачуцьці апанавалі мяне. Я ведаў, што ніколі ёй не патэлефаную. І гэта мяне ўганяла ў нейкі ступарны сум. Нібыта я губляў шанец, які выпадае толькі раз у жыцьці.

У гатэлі я засьпеў наш мабільны атрад "Помста" ў поўным зборы. Нікога яны ў той падваротні не знайшлі. Усе сядзелі і чакалі мяне.

— О, наш Рамэа нарэшце зьявіўся, — сустрэў мяне вокліч Толіка.

Чук, канешне, усё ўсім жывапісаў.

— І як там было? — Толіку было крыўдна, што гэтая гісторыя яго абмінула.

— Была невялікая перастрэлка, але я выйшаў пераможцам. Піцерцы слабакі.

Я плюхнуўся ў адзеньні на ложак і ўтаропіўся ў столь.

Хлопцы пачалі распранацца. Усім нясьцерпна хацелася спаць.

— Ты чаго, Джагер? Праблемы нейкія? — зашаптаў пад вухам Руды.

— Адчапіся. Усё нармальна. Сьпі.

### Старонкі дзёньніка

Сёньня падумалася, што ў мае сны могуць прыходзіць і мае далёкія продкі. Але як я іх пазнаю, калі ніколі ня бачыў?

***

Мне падабаюцца амаль усе формы майго імя, якім завуць мяне людзі пры розных абставінах і рознай блізкасьці. Аляксандар — урачыста і афіцыйна. Саша — па-дзіцячы настальгічна і па-хатняму цёпла. Санча — з падкрэсьліваньнем адмысловага сяброўства. Алесь — з далучанасьцю да тваіх таямніцаў. Алеська — давяральна і інтымна.

***

У нашым горадзе жыве знакаміты бомж, якога ведаюць усе ў горадзе і завуць Іванам Заруцкім. Выглядае ён калярытна. Высокі, ці не два мэтры ростам. З ілбом, які грозна навісае над вачыма. І вялізнай барадою, як у Льва Талстога. Нават летам ён ходзіць у доўгім сьмярдзючым шынялі. А на плячах трымае два чамаданы, якія зьвязаны паміж сабой вяроўчынай — адзін чамадан вісіць на грудзях, другі ззаду на плячах. У чамаданах ён носіць featurednae рызьзё і бутэлькі, якія зьбірае па ўсім горадзе. Неяк узімку ён аблюбаваў цеплапункт у маім пад'езьдзе, нарабіўшы страшнага смуроду на ўсе два паверхі. Жыхары пад'езда трывалі нядоўга — на дзьвярах цеплапункта зьявіўся замок. Іван Заруцкі ніяк ня мог даўмецца: чаму яго пазбавілі начлежкі? Не скандаліў, але некалькі разоў прыходзіў да замкнёных дзьвярэй і кранаў сваімі ручышчамі замок — раптам яго ўжо адамкнулі. Выдраць дохлую клямку з дзьвярнога вушаку было для яго плёвай справай. Але гэты беспрытульны бамбіза ведаў, чым магло для яго тое абярнуцца. Ён нешта мыкаў, кляцаў замком, цмокаў, уздыхаў і сыходзіў. Недзе быў адамкнуты іншы цеплапункт, або можна было пераначаваць у іншым доме на гарышчы.

Яго некалькі разоў забіралі ў вар'ятню. Але ён адтуль уцякаў. Вар'ятам сябе ён, відавочна, не лічыў і трываць несвабоду ня мог. Бацькі кажуць, што Іван стаў сьведкам нечага жахлівага падчас вайны, таму й мае гэтыя праблемы. Зласьлівыя языкі мянцілі, што ўжо ні адна адзінокая кабета спрабавала прыгрэць яго. Адмывала, пастрыгала, даводзіла да людзкага выгляду. Але Іван доўга не трываў нават

такой цёплай і сытнай несвабоды. Зноў узвальваў на плечы два свае вялізныя чамаданы і выпраўляўся ў свой, толькі яму знаёмы, шлях па вуліцах горада.

***

Усё радзей пішу тут у дзёньніку. Зьявіліся розныя рэчы, якія ўвогуле не хачу давяраць паперы.

***

Ці павінны заставацца дзеці ў бацькоўскім доме? Так было прынята ў сялянскіх сем'ях, калі спадчына, перадусім надзел зямлі, пераходзіла да спадкаемцы або дзялілася паміж сынамі. Але якая спадчына сёньня. Кватэра й дача?

Зь іншага боку, пакідаючы родны дом, дзеці як бы парушаюць традыцыю пераемнасьці пакаленьняў сям'і. Бо дом (лепш, канешне, уласны дом, а не кватэра) ад пакаленьня да пакаленьня назапашвае фонд гісторыі роду. Тут захоўваецца архіў сям'і, карціны, кнігі, нейкія рэліквіі. Уся гэтая культурная спадчына, збольшага, патрэбная толькі прадстаўнікам гэтага роду. Бо калі дом, які застаўся без гаспадароў, засяляюць новыя, чужыя людзі, то гісторыя сям'і апынаецца на сьметніку — фотаздымкі, лісты, дзёньнікі.

Апошнім часам мяне гэта вельмі хвалюе. Думаю пра гэта.

***

Ідэал — гэта ўмоўная велічыня. Але ён павінен існаваць. Як арыентыр. Як каардынаты быцьця.

# S.

Сюзі Кватра была ў сваім традыцыйным скураным касьцюме, які шчыльна аблягаў зграбнае цела. Вялікая бас-гітара ў яе руках падкрэсьлівала невялікія дзявочыя габарыты. Гэтае дзяўчо калі сьпявала, была падобная да нейкай маладой шаманкі авангарднай плыні. Уся яе досыць прымітыўная музыка была пабудаваная на шалёным рытме і экспрэсіі вакалу. Сюзі ўмела заводзіць публіку з паўабароту. Гэтым разам яна стаяла ў атачэньні нейкіх геамэтрычных дэкарацыяў. Яе валасы разьвіваў штучны вецер, які дзьмуў ёй у твар і шпурляў сухім лісьцём. Складалася ўражаньне, што менавіта ейная гарэзьлівая музыка ўзьняла гэты шалёны вецер.

Па польскім тэлебачаньні ўночы, пасьля дванаццаці, часта паказвалі музычныя кліпы. Гэтым разам мне пашанцавала ўбачыць Сюзі. Перад сном мэлёдыя да болю знаёмай песьні Rock Hard да самай адключкі круцілася ў маёй галаве.

She never takes a chance
She doesn't need romance
She never takes a chance
She never dates or dance
Her love is

Rock hard
Rock hard
She's rock hard[1]

З ложку я ўзьняўся са спазненьнем. Быў дзяжурным па сталоўцы. Пабачыўшы на гадзіньніку, што засталося паўгадзіны да пад'ёму роты, я падскокам пабег у сталоўку. Байцы майго ўзводу, якія былі ў нарадзе, сядзелі роўненька за сталом і пілі гарбату. На сталах не быў растаўлены нават посуд. Зьняўшы сваю папругу і раскруціўшы яе над сваёй галавой, я зароў як сапраўдны намесьнік камандзіра ўзвода, які ў нарадзе па сталоўцы:

— За работу. Вы што, бараны, гадзіньнікаў ня маеце. Неўзабаве тут будзе батальён.

Затым пайшоў неперакладны набор словаў, якім звычайна ў савецкай арміі заахвочвалі да працы.

— Вас чакалі, — адказаў млявым, сонным голас узьбек Абдурахім.

Байцы пачалі неахвотна ўздымацца з лаваў. "Яшчэ паўгадзінкі сну і была б мне як мінімум гаўптвахта", — бліскавіцай праляцела ў галаве думка.

Сталоўка напоўнілася гулам, звонам мэталічнага посуду, гукамі таропкіх крокаў у кірзавых ботах. Пакрыквала на байцоў і цывільная кухарка ў пяць абхватаў. Работа закіпела. Украінца Міколу я паслаў у казарму за падмогай. Было адчуваньне, што можам не пасьпець накрыць сталы.

Зайшоўшы ў мыйню, я пабачыў двух самых борзых з майго ўзводу азербайджанцаў, якія сядзелі на зэдліках і нешта паглыналі ў сваё чэрава. Я ўдарыў бліжэйшага да мяне ў плячо нагой. Той з грукатам паваліўся на падлогу. Ударыць другога сымулянта

не атрымалася, бо ён перахапіў маю нагу. Я некалькі сэкундаў, як бусел сярод поля, стаяў на адной.

— Нэ нужна, таварыш камандзір, біцца. Мы зараз ідэм працаваць.

Той, хто трымаў маю нагу, мякка яе адпусціў і ўстаў, каб ісьці ў агульную залю сталоўкі. Другі падняўся з падлогі і падаўся за ім сьледам. Мінаючы мяне, ён на хвіліну прыпыніўся і са шчырасьцю непаслухмянага дзіцяці ў садочку, які не зьбіраецца завязваць са сваім шкодніцтвам, прамовіў:

— А вас, таварыш сяржант, ніхто не баіцца. Проста вы не стукач, таму людзі вас паважаюць.

Сказаўшы гэта, ён няўклюдна салютнуў мне рукой і блазнавата засьмяяўся.

У маёй галаве нехта крутнуў ручку гуку і Сюзі Кватра загучала на поўную моц:

She never takes a chance
She doesn't need romance
She never takes a chance
She never dates or dance
Her love is
Rock hard
Rock hard
She's rock hard

# 6.

Пра месца сустрэчы Лена напісала мне ў паштоўцы. Карэспандэнцыя прыйшла зь ейнага мястэчка, дзе дзяўчына працавала прыбіральшчыцай на вакзале. Мне прапаноўвалася ўвечары прыйсьці на апошні сэанс у наш кінатэатр "Юнацтва". Я схадзіў да тумбы з аб'явамі, якая была ля аўтобуснага прыпынку, і пацікавіўся, што за фільм. Сёньня ў нашым гарадку трэці дзень запар круцілі хіт сезону "О, шчасьліўчык". Я шалёна зарагатаў. Ленка не губляла пачуцьця гумару.

Квіткі былі ўжо ў маіх руках. Я хвілін пятнаццаць чакаў яе ля касы. Сэанс ужо пачынаўся, бо прагучаў званок. Яна ўляцела ў фае кінатэатра як мэтэор. Схапіла за руку і пацягнула ў кіназалу. Тут ужо круцілі традыцыйны кіначасопіс "Фитиль". Было цёмна, зала актыўна рэагавала сьмехам і воклічамі на нейкіх апівудаў на экране. Мы пастаялі пару хвілінаў ля сьцяны, каб вочы прызвычаіліся да цемры і пачалі шукаць свае месцы. У зале было не так шмат людзей, яны займалі пяць апошніх шэрагаў крэслаў. Мы без праблем знайшлі свае месцы. Лена працягвала трымаць мяне за руку. Мне было прыемна, і я не імкнуўся вызваліць сваю далонь.

Фільм я глядзеў няўважліва. Я адчуваў побач Лену. Нахінуўся і прашаптаў ёй на вуха:

— У такі спосаб хочаш здабыць шчасьце?

— У сэньсе? — яна не зразумела майго жарту.

— Штодня ходзячы на "О, шчасьліўчык".

Яна пырснула сьмехам. З усіх бакоў зашыкалі.

Фільм мы не даглядзелі й да паловы. Я прапанаваў пакінуць залу й Лена пагадзілася. Два аўтобусныя прыпынкі прайшлі пешкі.

— А ты зьмяніўся, пасталеў, набраў вагу, — акінуўшы мяне вокам, сказала Лена.

— Армія не праходзіць бясьсьледна, — я не любіў гэтую постармейскую браваду, але мяне панесла.

— Табе пайшло на карысьць.

— Магчыма. Але лепш бы я скончыў два курсы інстытута.

— Яшчэ пасьпееш. Не сьпяшайся.

Я адчуваў, што Лена таксама за гэты час зьмянілася. Яна стала больш разважлівай, дзяўчынка ператваралася ў жанчыну, якая цьвяроза і дасьведчана глядзіць на навакольны белы сьвет. Я расказаў ёй пару гісторый з армейскага жыцьця. Такім знаёмым і блізкім мне здаваўся яе сьмех! Мы селі ў аўтобус і паехалі знаёмым маршрутам у кірунку мікрараёна, у якім жыла сястра Лены. У тым, даармейскім жыцьці, некалькі разоў пасьля такіх праводзінаў, я спазьняўся на апошні аўтобус і амаль дзьве гадзіны дабіраўся ў свой раён пешадралам. Аднойчы гэта было пад халодным восеньскім дажджом. Успамінаць пра гэта не хацелася.

Увогуле, было прыемна проста ехаць у паўпустым аўтобусе з прыгожай дзяўчынай, аб нечым бестурботна гаманіць і ведаць, што ў цябе ёсьць у запасе некалькі дзён адпачынку.

І добра, што ў цябе ёсьць яшчэ й Лена. Апошні блізкі чалавек у гэтым суворым дарослым сьвеце. Як масток у новае жыцьцё. Як праваднік. Я згадаў пра Гары Галера са "Стэпавага ваўка". Унутры ў мяне ўсё засьвяцілася і зазьзяла. Адбылася сапраўдная ілюмінацыя. Ажно мурашы пабеглі па сьпіне.

Я нахіліўся і пацалаваў Лену ў шчаку. Яна нібыта гэтага чакала. Павярнулася да мяне тварам і, пасьміхаючыся, проста зірнула мне ў вочы. Я пасьміхаўся ёй у адказ. Збоку гэта выглядала на ідылію двух закаханых.

Аўтобус вельмі хутка прывёз нас да патрэбнага прыпынку. Мы выйшлі і пашыбавалі ўглыб новага, забудаванага дзевяціпавярховымі панэлькамі, мікрараёна.

Ужо пачало зьмяркацца. Людзей на вуліцы практычна не было. Ля ўваходу ў пад'езд мы спыніліся. Лена прыхінулася сьпінай да сьцяны. Адчувалася, што яна не сьпяшаецца дахаты.

— І як ты тут жыла? — недарэчы спытаў я, бо трэба было пра нешта спытаць.

— Я табе пра ўсё пісала ў лістах. Маеш поўную справаздачу, — яна неяк сумна пасьміхнулася, толькі куточкамі вуснаў.

Гэтыя вусны прыцягвалі як магніт. Мой пацалунак ня даў ёй дагаварыць. Мяне пачало неяк шалёна калаціць і трэсьці, як пасьля дозы моцнага наркотыку. Я імкліва ператвараўся ў нейкага пярэваратня, у якім абуджаліся таемныя дэманічныя сілы. Я мацней упіўся вуснамі ў яе вусны, адчуўшы цяпло і прыязнасьць дзяўчыны. Яна таксама наструнілася — было чуваць, як у яе ўсярэдзіне ўсё звінела і гучала, нібыта высокавольтныя правады пад моц-

ным ветрам. Неяк інстынктыўна мае рукі пачалі расшпільваць гузікі яе кашулі. Затым я расшпіліў станік. Яна не супраціўлялася. Вуснамі я дакрануўся да прыгожых дзявочых грудзей. Лена ў адказ пачала лашчыць маю галаву. Я зусім перастаў сябе кантраляваць — вызваліў гузік яе джынсаў і пачаў, нейкімі ліхаманкавымі рухамі, сьцягваць яе нагавіцы долу разам з майткамі. І ў мяне атрымалася гэта зрабіць — джынсы ссунуліся да самых каленяў, агаліўшы запаветны жаночы трохкутнік.

— Ня трэба тут, — голасам дарослай жанчыны сказала Лена, — пайшлі да мяне. У кватэры нікога няма — усе на дачы.

Яна хуценька прывяла сябе ў парадак і пацягнула мяне за сабой у пад'езд. Я паслухмяна падаўся сьледам за ёю.

# 7.

— Трымаю яго на мушцы. Чакаю каманды.

Снайпэр сядзеў на даху высотнага будынку ў нейкім вялікім горадзе. Унізе як мурашы сноўдалі людзі. У гэтую пару дня іх было шмат. Усе ходнікі зьверху выглядалі як жывыя рэкі, якія няспынна цяклі ў двух супрацьлеглых кірунках. Яшчэ больш шырокімі рэкамі былі дарогі, па якіх бясконцым патокам рухаліся аўтамабілі. Снайпэр трымаў на мушцы нейкага мужчыну, які нёс валізу. Гэта было штосьці сярэдняе паміж дыпляматам і невялікім чамаданам. Мужчына ішоў нясьпешным, упэўненым крокам і, відаць, не падазраваў, што яго трымаюць на мушцы.

— Чакаю каманды, — другі раз паўтарыў снайпэр у мікрафон, прымацаваны да левага вуха.

— Страляй, — пачуў снайпэр і ў той самы момант згубіў у аптычным прыцэле сваю жывую мішэнь.

— Я згубіў яго, ён прапаў...

Снайпэр пасьпешліва вадзіў аптычным прыцэлам у патрэбным кірунку, але мужчына з чамаданчыкам бясьсьледна зьнік.

Мажная жанчына, гадоў пяцідзесяці, сядзела за вакенцам рэгістрацыі гатэля і глядзела па тэлевізары мастацкі фільм.

— Я ёй пазваніла, яна зараз падыдзе да вас.

Гэта кабета сказала мне, крыху павярнуўшы галаву ў мой бок. Але сваім правым вокам працягвала сачыць за падзеямі ў тэлевізары.

— Дзякуй, я пачакаю.

Сьпяшацца не было куды. Дзень толькі пачынаўся. А я прыехаў у гэты незнаёмы горад на тыдзень.

Ліфт расчыніўся і выйшла яна. Тая самая дзяўчына, якая некалі прасіла мяне перадаць свайму знаёмаму нейкі пакуначак. Гэтым разам на ёй была шыкоўная сукенка. Але зноў-такі шыю дзяўчыны ахоплівала хустачка.

— Гэта столькі гадоў у цябе не было вольнага часу, каб мне патэлефанаваць. Увесь гэты час ты шукаў котку зь сябрамі?

— Дык страляй жа, разява! — пачуўся гучны вокліч з закутка, дзе стаяў тэлевізар.

Дзяўчына ўздрыгнула. І замерла на месцы.

— Былі розныя справы. Часта стралялі. Бегалі марш-кідкі. Хадзілі ў нарады. А котку тады мы так і не знайшлі.

— І ты толькі гэта мне хочаш паведаміць? — дзяўчына са зьдзіўленьнем ўзьняла бровы.

— Я хачу табе расказаць пра сваю Каралеву. Некалі ты мне даверылася. Цяпер я хачу даверыцца табе. І мы будзем квіты.

# 8.

Красьніч пасьля сяржанскай вучэбкі ў Пячах таксама, як і я, атрымаў накіраваньне ў Берасьце. Ён служыў у суседняй роце аховы. Я часта бачыў, як ён разводзіў караулы, калі быў у нарадзе. У іхняй роце была строгая дысцыпліна, бо штодня іх жаўнеры мелі справу з наладаванай баявымі набоямі зброяй. Таму я за Красьніча больш не хваляваўся. Час ад часу мы зь ім сустракаліся ў салдацкай чайной. Ніякіх агульных тэмаў для гутарак зь ім я ня меў. Гэта былі хутчэй размовы дзеля ветлівасьці.

Руды напрыканцы службы зусім зьнік з далягляду, але да мяне пэрыядычна даходзілі пра яго навіны ад іншых людзей. Ужо амаль пад самы канец службы ён трапіў у шпіталь, дзе яму зрабілі сур'ёзную апэрацыю — выразалі частку страўніка. Мяне гэтая навіна надзвычай усхвалявала й я закідаў Рудага лістамі. Нарэшце, ён адказаў. Пісаў, што цяпер усё нармальна, няма чаго хвалявацца. Ніякіх наступстваў няма, хіба толькі цяпер трэба быць асьцярожным з алкаголем ды трымацца дыеты.

Толік пасьля вучэбкі ў Туле апынуўся ажно ў Казахстане, у Сяміпалацінску. Пісаў, што служыць у сакрэтнай вайсковай частцы, але добра ўладкаваўся, бо спачатку вазіў на УАЗ-469 камбата, а затым перасеў на ГАЗ-24 і стаў асабістым кіроўцам генэ-

рала. Генэрал ставіцца да яго як да сына, таму зь ім усё акей. Прачытаўшы пра гэта, мне згадалася, як мы езьдзілі на танцы ў Плісу. Выцягнуць машыну з балота атрымалася толькі двума трактарамі. Рудаму потым добра ўляцела ад бацькі, які ўвогуле быў суворым чалавекам. Ніякіх жартаў не разумеў і падобнага свавольства дараваць ня мог. Сытуацыя ўскладнілася тым, што падчас усіх гэтых прыгодаў у "жыгулёнка" аказаліся пашкоджанымі адны дзьверцы — засталася на іх добрая ўмяціна. Руды паабяцаў бацьку, што сам гэтую праблему вырашыць. І сапраўды, неўзабаве знайшоў нейкіх майстроў, якія выратавалі Рудаму жыцьцё.

Чука ўзялі ў войска на два гады пазьней за нас усіх. У сваім першым армейскім лісьце ён прасіў мяне знайсьці ў газэтах фотаздымкі футбольнага клюба "Дынама" (Менск) і публікацыі пра тое, як клюб стаў чэмпіёнам Савецкага Саюза. "Мяне забралі ў войска 17 чысла і я так толкам ня ведаю, як "Дынама" (Менск) стала чэмпіёнам", — пісаў ён у сваім лісьце з поўначы Расеі, з Выбаргскага раёну. Затым у некалькіх лістах ён дапытваўся, дык што ўрэшце здарылася са мной у Ленінградзе. Маўляў, ён, пасьля таго, як я сышоў з падазронай дзяўчынай невядома куды і навошта, моцна хваляваўся. Аднак ня мог пакінуць баявога пасту і пайсьці ўслед за намі, каб у выпадку чаго падстрахаваць мяне. Мне захацелася спачатку насачыняць яму з тры вазы. Але затым вырашыў адказаць лякачічна, што нічога асаблівага там не адбылося — перадаў каму трэба перадачку і ўсё. Астатняе — гэта мае асабістыя пачуцьці і перажываньні. Яны застануцца са мной.

# 9.

Мы зайшлі ў ліфт. Лена націснула кнопку пятага паверху. Ліфт неяк рыўкамі пайшоў уверх. На пятым паверсе мы выйшлі. Лена адчыніла ключом дзьверы. У кватэры сапраўды было ціха. Падумалася: вось жа хітруля, адмыслова не прыехала адразу ў першы дзень майго адпачынку. Чакала, калі вызваліцца кватэра сястры.

— Праходзь на кухню, зараз зраблю табе гарбаты. А я пакуль пераапрануся.

Лена зьнікла ў адным з пакояў.

Я прысеў на кухонны зэдлік. Узяў некую газэту, што ляжала на стале, пачаў гартаць.

— Бачу, час не марнуеш. І што пішуць газэты? — спытала Лена, уваходзячы ў кухню праз якіх пяць хвілін.

— Пра тое, што ты вельмі хітрая дзяўчына. Усё разлічыла.

— У сэньсе.

— Чакала, калі вызваліцца кватэра сястры, каб прыехаць да мяне і запрасіць у госьці.

— І што ў гэтым кепскага?

— Магла б і ў першы дзень прыехаць. Пісала ў лістах, што страшна сумуеш безь мяне. А сама тры дні не аб'яўлялася.

— О, сэр! Мы з табой яшчэ не заручоныя, каб я рабіла табе такія справаздачы.

На Ленцы быў лёгкі сіні халацік, які шчыльна аблягаў яе прывабную дзявочую постаць.

— Лепш мой новы халацік зацані. І не бурчы. Усё рабіла дзеля цябе. Вось і пляшачку "Такайскага" здабыла. Думаеш, лёгка яе было знайсьці ў нашым грамадзтве роўнасьці і братэрства?

Яна ўзьнялася на дыбкі і дастала пляшку "Такайскага" з самага верхняга аддзелу кухоннай секцыі.

— Спадзяюся, не развучыўся адкаркоўваць, — яна працягнула мне пляшку.

Я ўзяў у руку такую знаёмую для сьлёз, пузаценькую бутэльку, адкаркаваў і наліў у вялікія высокія шклянкі. Зусім крыху. Як любіў заўсёды.

— Ленка, ты проста залатая дзяўчына. Прабач за маё бурчэньне. За цябе!

Я пацалаваў Ленку ў шчаку і нясьпешна выпіў свае кроплі "Такайскага". Лена пасьледавала майму прыкладу.

Мы сядзелі насупраць адзін аднаго, пілі "Такайскае", пра штосьці гаманілі і гаманілі. Згадвалі акалічнасьці сваёй першай сустрэчы. Абменьваліся навінамі пра агульных знаёмых. Ленка расказвала падрабязнасьці свайго сыходу з тэхнікума. Было так цёпла і ўтульна. Ленка ўсё ж залатая дзяўчына.

Затым мы перайшлі ў пакой, дзе яна жыла, калі вучылася ў тэхнікуме. На пісьмовым стале стаяў просьценькі прайгравальнік "Сірыюс".

— Выберы там што-небудзь і ўключы прайгравальнік. Нічога там цікавага няма, але нешта можна і паслухаць, — сказала Ленка. — А я пакуль пасьцялю канапу. Бо на апошні аўтобус ты ўжо даўно спазьніўся, то застанесься ў мяне.

Я пачаў перабіраць пласьцінкі. Яны стаялі на паліцы побач з кнігамі. Там былі пераважна савецкія, але знайшоў балгарскія, балкантонаўскія і гэдээраўскія. Я выбраў балкантонаўскую кружэлку Кліфа Рычарда. Паставіў на прайгравальнік. Павярнуўся. Ленка ўжо распранулася і ляжала пад коўдрай.

— Ну што, салдацік, адбой.

Я падышоў да ложка. Сеў на край.

— Ты што, Алесь? — Ленка прыўзьнялася на локці.

Я пагладзіў яе па галаве. Як маленькую прыгожую котачку.

— Навошта гэта? Ты залатая дзяўчына, але навошта гэта? Ведаю, робіш гэта дзеля мяне. Але я не магу гэтым скарыстацца. Разумееш? Не магу.

Яна маўчала. Некалькі хвілін мы маўчалі.

— Я лепш пайду.

— Алесь, куды ты пойдзеш? Там ноч. Я магу табе пасьцяліць у іншым пакоі.

Ленка адчувала сябе вінаватай. Уся яе няшчырая ўпэўненасьць зьнікла ў адначасьсе. Яна ўзьнялася з ложку, накінула на плечы халат. Я заставаўся сядзець. Яна абняла маю галаву.

— Алесь, не хачу думаць, што будзе заўтра. Не хачу. Ёсьць сёньня. Ёсьць ты. Ня ведаю, ці кахаю цябе, але ты мне дарагі. І таму хачу быць побач з табой.

— Затое я ведаю, што я не кахаю цябе. Прабач.

Нейкі даўкі камяк падкаціўся да майго горла. Што яшчэ сказаць ёй, я ня ведаў.

— Маё сэрца адчувала, што ты ў некага закаханы. Даўно. І я так разумею, без узаемнасьці. Але гэта твае прыдумкі. Ня можа быць каханьня без

узаемнасьці, бяз блізкасьці. Інакш гэта ўсё толькі трызьненьні і фантазіі. Проста міраж! Павер мне.

— Але ты разумееш: гэта, што можа быць паміж намі, усё будзе толькі падман. Які народзіць непраўдзівыя трызьненьні і фантазіі. Навошта нам хлусіць адзін аднаму.

Ленка нейкі час асэнсоўвала мае словы.

— Так, сапраўды, ты маеш рацыю, — неяк нэрвова сказала яна. — Тут, у гэтым ложку, пакуль не было цябе, былі іншыя хлопцы. І гэта сапраўды атрымліваецца вялікая хлусьня. Ідзі... Лепш ідзі.

Я зьняў яе рукі са сваёй галавы і ўстаў.

— Калі ты хацела мяне гэтымі словамі пакрыўдзіць, то я не пакрыўдзіўся. Ніякіх абавязкаў ты мне не давала. Спадзяюся, што мы застанемся сябрамі. Сапраўды, мне лепш сысьці. Дзякуй за "Такайскае".

Я пацалаваў яе ў прыгожы дзявочы лоб. З воч Ленкі пакаціліся сьлёзы. Вось-вось яна магла разрыдацца. Ніяк не хацелася быць гэтаму сьведкам. Я ўскочыў у свае красоўкі і праз імгненьне быў на лесьвічнай пляцоўцы.

Амаль дзьве гадзіны я дабіраўся пешкі ў свой раён. Увесь час у галаве на поўнай гучнасьці круцілася песьня Кліфа Рычарда Devil Woman. Яна глушыла ўсе мае думкі і пачуцьці.

I've had nothing but bad luck
Since the day I saw the cat at my door
So I came into you sweet lady
Answering your mystical call
Crystal ball on the table
Showing the future, the past
Same cat with them evil eyes
And I knew it was a spell she cast[2]

# 10.

Дзімыч сядзеў з гітарай на верхняй пляцоўцы запруды і штосьці сьпяваў. Шум вады не даваў магчымасьці пачуць словы яго песьні. Было вельмі рана — толькі-толькі пачало ўзыходзіць сонца. Але на Брызгалаўцы ўжо зьявіўся першы рыбак, які лавіў рыбу з лодкі непадалёк ад фантанаў. Сваю снасьць ён закідваў пад самыя пырскі, дзе пенілася вада. Тут мог дапамагчы толькі патанок гусінае пяро з чырвоным навершам. Калі чырвоны слупок патанка зьнікаў пад вадой — значыць, гэта паклёўка, і трэба падсякаць.

Дзімыч глядзеў на ўзыходзячае сонца і сьпяваў. Я ня ведаў гэтай песьні. Прынамсі, ад яго раней ня чуў. І наш гурт яе не выконваў.

Я сеў побач. Ён не перарваў сьпеву, толькі павярнуў да мяне галаву і падміргнуў. Гітара гучала ва ўнісон з шумам спадаючай вады.

Ва ўсім гэтым фантастычным краявідзе была нейкая загадка. Я адчуваў гэта. Мне чамусьці здавалася, што Дзімыч ведае адгадку. Прынамсі, ён прыйшоў сюды дзеля гэтага.

Дзімыч закончыў сьпяваць і сядзеў моўчкі.

— Што гэта за песьня? — спытаў я Дзімыча.

— Гэта нетутэйшая песьня. Ты яе ня мог чуць.

Дзімыч глядзеў у бок сонца, і промні залацілі ягоны твар дзіўным водценем.

— А ты мяне навучыш яе сьпяваць? — зноў спытаў я Дзімыча.

— Гэтая песьня сама знойдзе цябе. Не сьпяшайся.

Дзімыч мне нагадаў якогасьць чараўніка-ведуна з кнігі Карласа Кастанеды.

— У чым загадка? — я вырашыў спытаць сябра напрамую.

Дзімыч не зьдзівіўся такому пытаньню.

— Загадка вось у гэтым водным люстры Брызгалаўкі. — Што ты ў ім бачыш?

— Адбітак неба і сонечныя бліскі, — паглядзеўшы ў бок вадасховішча, адказаў я.

— А што яшчэ?

— Цень ад рыбака і яго вуды, — мне хацелася ўбачыць нешта небанальнае, каб дагадзіць сябру.

— А ты бачыш, як усё мяняецца? Як зьнікаюць трубы, па якіх цячэ вада ў вадасховішча? Як зьнікае драўляны басэйн? Як зьнікае рыбак, і на вачах ператвараецца ў парахню лодка? Усё гэта бачна ў люстры вады.

Я пачаў прыглядацца і сапраўды заўважыў тое, пра што мне гаварыў сябар.

— Так. Я гэта бачу, — сказаў я ўпэўнена.

— Гэта і ёсьць загадка.

— А ў чым адгадка?

Дзімыч узяў акорд на гітары і правёў пальцамі па струнах.

— Помніш нашую песьню? Давай прасьпяваем.

Мы засьпявалі. Нашы галасы глушыў шум спадаемай вады. Але я выразна чуў голас Дзімыча.

Калі ўзыдзеш на гару і пабачыш,
Як сонца хаваецца за даляглядам.
Гэта будзе толькі канец дня, няйначай.
Пасьміхніся й разьвітайся паглядам.

Кожны канец ёсьць новы пачатак.
Помні пра гэта, не сумуй дарэмна.
Ў гнёздах ужо падраслі галчаняты.
Хутка ў дарогу зьбірацца патрэбна.

Што мы з сабою возьмем ў дарогу?
Памяць хіба што, як скарб неацэнны.
Што мы пакінем за родным парогам?
Нашыя сэрцы і нашы здзяйсьненьні.

Мы скончылі сьпяваць. Некалькі хвілін сядзелі моўчкі.

— Дык у чым адгадка? — спытаў я ў сябра.

— Ты сам толькі што яе прасьпяваў, — адказаў ён з усьмешкай на вуснах.

Затым аднекуль ззаду дастаў пласьцінку. Гэта быў "Белы альбом" Beatles.

— Вось табе мой падарунак, — ён працягнуў мне пласьцінку.

Затым Дзімыч устаў.

— А цяпер паглядзі на ваду. На маё адлюстраваньне.

Ягоны адбітак у вадзе пачаў хістацца, цьмянець і неўзабаве зусім зьнік. Я павярнуў галаву ў бок сябра. Дзімыча на ранейшым месцы не было.

# 11.

Іх галасы пачуліся не з таго боку, адкуль я чакаў. Яны не пайшлі напрасткі ад ДК да майго дому, а пашпацыравалі па цэнтральнай вуліцы, выйшлі на плошчу і адтуль ужо павярнулі да мяне. Галасоў было шмат, але я лёгка пазнаў бесклапотны, балагурны барытон Тумілы. Такой кампаніі я не чакаў, таму занэрваваўся. У маіх плянах не было наладжваньня гучнай, шматлюднай пагулянкі.

Калі вясёлая купка маладых людзей падышла да майго пад'езду, Туміла, як галянтны кавалер, прадставіў мне дзяўчат. З Тумілам быў яго неразлучны сябрук Арол, якога я добра ведаў па мэляманскіх справах. Мы зь ім нават час ад часу абменьваліся кружэлкамі. Я нават падумаў, ці не яго гэта ідэя — наладзіць сёньняшні вечар адпачынку. Дзьве першыя дзяўчыны былі мне малазнаёмыя, ня з нашага раёну, але хіба я іх час ад часу бачыў на танцах. А вось трэцяя дзяўчына... Гэта быў для мяне шок. Проста высокавольтны ўдар! Перада мной стаяла мая Каралева з аддзелу грамплясьцінак у "Культтаварах". Так... так... памылкі ніякай не магло быць.

— Наташа, — прадставіў мне трэцюю госьцю Туміла.

Дзяўчына сьціпла хітнула галавой.

— Вельмі прыемна, — тупа сказаў я і дадаў, звяртаючыся да ўсіх: — Шаноўных гасьцей запрашаю ў мае мэбляваныя пакоі.

Маё гасьціннае слова было ўспрынятае на ўра, быццам бы я ўжо прамовіў першы тост. Госьці засьмяяліся і нават нехта запляскаў у далоні.

Але маё хваляваньне толькі нарастала. Ля дзьвярэй кватэры я неяк доўга шукаў ключы, а затым ніяк ня мог трапіць ключом у замок. Хацеў гэта зрабіць як мага хутчэй, каб мае госьці не нарабілі непатрэбнага галасу ў пад'езьдзе. Але ўсё выйшла наадварот. Госьці не зьбіраліся моўчкі стаяць і чакаць. Яны гарлапанілі і рагаталі, як быццам бы хацелі ўзьняць на ногі ўсіх маіх суседзяў.

Нарэшце мы зайшлі ў кватэру, зьнялі абутак, усе пачалі ўладкоўвацца ў вялікім пакоі. Я пасунуў часопісны столік бліжэй да канапы, на якой усеўся Туміла ў атачэньні дзьвюх дзяўчын. Наташа села асобна ў фатэлі. Мяне гэта неяк супакола, бо жахлівая думка, што Наташа для кагосьці зь іх — Арла ці Тумілы — проста сьвідрам з алмазнай каронкай сьвідравала мае мазгі.

— Чаму ты, Туміла, не сказаў, што будзеш з такой паважнай кампаніяй, я б нейкі шляхетны напой падрыхтаваў, — трэба было пачынаць вечарынку, і я ня ведаў, як.

Туміла выцягнуў з унутранай кішэні джынсоўкі пляшку гарэлкі.

— Прабач, шампану не прынесьлі, гастраном зачынілі, не пасьпелі! Ведаю, што ты не аматар гарэлкі. Ну а мы людзі непераборлівыя.

Госьці дружна заліліся сьмехам з геніяльнага жарту. Дзяўчаты таксама. Іх задавальняла гарэлка.

Ясна. Не засьмяялася толькі Яна. Маўчала.

Я пайшоў на кухню за кілішкамі. Уся гэтая сытуацыя была для мяне неверагодным сюрпрызам. Я не ўяўляў, чым усё гэта магло скончыцца. Вярнуўшыся ў пакой, я ўключыў прайгравальнік і паставіў адну з улюбёных сваіх кружэлак — альбом Rumours гурта Fleetwood Mac.

Туміла спрытна адкаркаваў пляшку і разьліў алкаголь.

— За сяброў! І за нас!

Піць гарэлку не хацелася, але й адмаўляцца не выпадала. Алкаголь уліўся ў мой арганізм як дыстыляваная вада. Мая ўнутраная напруга крыху спала, але канчаткова разьняволіцца ў мяне не атрымалася.

Туміла зноў пацягнуўся за пляшкай.

— Гаспадара больш прымушаць ня будзем.

І ён перавярнуў донцам уверх мой кілішак.

— А мы паўторым.

Сабе і Арлу ён наліў поўныя, а дзяўчатам па палавінцы. Пляшка ў іх была адна, трэба было эканоміць.

Тое, што адбылося далей, відаць, не здараецца і ў індыйскім кіно. Наташа, аказваецца, была прызначана для мяне. Бо мае госьці хутка вызвалілі пляшку ад гарэлкі і скіравалі сваю ўвагу на дзьвюх іншых дзяўчат. Заставацца ў вялікім пакоі было ўжо няёмка. Наташа сама ўзьнялася з фатэлю і пайшла ў спальню. Мне нічога не заставалася, як скіравацца сьледам за ёю. Мы зачынілі дзьверы пакою.

Магчыма, Наташа пайшла на гэтую вечарынку проста за кампанію зь сяброўкамі. Але наўрад ці яна ня ведала, чым заканчваюцца такія вячоркі.

Яна падышла да ложка і асьцярожна села на самы край. І так дзіўна склала рукі. Мне адразу падумалася: так робяць гейшы. У кіно.

Я сеў побач.

Дзяўчына хвалявалася. Я гэта адчуваў. Адчуваў парывістае дыханьне, бег крыві па яе капілярах, бег нейтронаў, нейронаў, пратонаў і ўсяго, што можа бегчы.

Я абняў яе. Нелькі хвілінаў мы сядзелі абняўшыся. Затым яна мягка, асьцярожна лягла на ложак. Неякі час я сядзеў побач. Пацалаваць яе ў вусны я не асьмельваўся. Мне здавалася гэта нейкім блюзьнерствам — пацалаваць Каралеву ў вусны. А можа папросту не было на тое сьмеласьці.

Калі яна лягла, ейны швэдрык вызваліўся з-пад джынсаў і агаліў каралеўскі пупок. Я нахіліўся і пацалаваў яго. Хутчэй гэта выглядала на нейкі рытуал, чым на мілосны пацалунак.

— Ня трэба, — сказала яна шэптам. — Можа, гэта гучыць і сьмешна, але мне сорамна. Давай проста паляжым.

Я лёг побач зь ёй. Мы ляжалі, узяўшыся за рукі. У вакно сьвяціў месяц. Праз адчыненую фортку даносіўся шоргат таполевай лістоты.

— Пацалуй мяне, — выдыхнуў я, набраўшыся сьмеласьці.

Яна прыўзьнялася і нахілілася нада мной. Яе чорныя валасы накрылі мяне хваляй цунамі. Наташа мякка, пяшчотна пацалавала мяне ў вусны.

Ложак нібыта адарваўся ад падлогі і паплыў у паветры. Зоркі за вакном замільгацелі ў карагодзе. Недзе ў Афрыцы сьвяточна загучалі тамтамы і людзі ў набедраных павязках заскакалі ў дзікім танцы.

У адказ ім забілі ў бубны эскімосы ў Грэнляндыі. Затым ужо было не разьлічыць, хто і дзе зайграў і як затанчыў. Усё зьлілося ў нейкім шалёным тарнада. Какафонія гукаў аглушыла сваім галяктычным напорам. Здавалася, мяне зацягвала ў нейкі касьмічны прасьцяг. І я ледзь вытрымліваў гэты шал, каб не згубіць прытомнасьць.

— Ведаеш, так больш ніколі не паўторыцца, — сказаў я Ёй, калі нарэшце ачуняў. — Ніколі ў жыцьці.

— Што не паўторыцца, — наўрад ці яна магла мяне зразумець.

— Палёт у космас, — прашаптаў я ледзь чутна.

— Станеш касманаўтам і паляціш, — яна ці то пажартавала, ці то пасьмяялася зь мяне.

— Дарэчы, ці будзеш на танцах у нядзелю. Прыходзь. — Мне будзе прыемна цябе сустрэць, — Наташа яўна думала пра нешта іншае.

Некалі я меў дзяўчыну, якая ў ложку праз кожныя пяць хвілін пыталася: пра што ты думаеш? Мяне гэта моцна раздражняла. Бо нельга так нахабна лезьці ў чужыя думкі. Але гэтым разам я хацеў бы ведаць, пра што думае Наташа. Спытаць я не наважваўся.

Нехта пагрукаў у дзьверы і дзявочы голас паклікаў:

— Нам трэба ісьці.

Туміла выходзіў з кватэры апошні.

— Ну як было?

— Клясна!

— Ну вось бачыш, я абяцаў і слова стрымаў! Кожнай жанчыне хочацца каханьня і пяшчоты. Ха-

ця б на некалькі хвілін. І мы гэта шчодра раздаём жадаючым.

Ён аксамітна засьмяяўся. Няўрымсьлівая грыўка валос упарта лезла яму ў вочы. Аднакашнік пляснуў рукой па майму плечуку і разьвітаўся:

— Ну, бывай... Дабранач!

— Дабранач!

У нядзелю на танцы я не пайшоў. А праз два тыдні назаўсёды пакінуў родны горад.

# Каментары

[1]*She never takes a chance...* (с. 136)

Яна ніколі не рызыкуе
Ёй не патрэбная рамантыка
Яна ніколі не рызыкуе
Ня ходзіць на спатканьні і не танцуе
Яе каханьне
Цьвёрдае як скала
Цьвёрдае як хард-рок
Яна — хард-рок, цьвёрдая скала

(пераклад Сяргея Шупы)

[2]*I've had nothing but bad luck...* (с. 151)

Мне ўсё не шанцавала
ад таго дня, як я ўбачыў ката
ля маіх дзьвярэй.
І я прыйшоў да цябе, мілая пані,
адказаўшы на твой таямнічы кліч.
Крышталёвы шар на стале
паказвае будучыню, мінуўшчыну.
Той самы кот з тымі злымі вачмі.
І я ведаў, што гэта былі чары,
якія яна на мяне наслала.

(пераклад Сяргея Шупы)

Літаратурна-мастацкае выданне

Таварыства Вольных Літаратараў

**АРКУШ** Алесь

**Палімпсест**

Раман

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Вінцэсь Мудроў*
Карэктар *Кацярына Макарэвіч*
Дызайн *Яўгенія Багдановіч*
Вёрстка *Яўгенія Багдановіч*

На вокладцы выкарыстана фота з асабістага архіва аўтара.

Падпісана да друку 03.09.2012. Фармат 84x108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Гарнітура BalticaC.
Друк афсетны. Ум. друк. арк 8,61. Ул.-выд. арк. 4,73.
Наклад 300 асоб. Замова 2163.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства “Галіяфы”.
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.by-books.org.

Друк ТДО “НоваПрынт”.
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.